Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!



# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІС ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 12

СЬНЕЖАНЬ

МЕНСК — 1931



В. Шарангові

# Напярэдадні XIV Зьезду КП(б)Б

КП(б)Б напярэдадні свайго XIV Зьезду XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі. Пэрыод, які прайшоў ад XVI Зьезду УсеКП(б) і XIII Зьезду КП(б)Б характарызуецца вялічэзнымі соцыяльна-экономічнымі зрухамі, якія адбыліся ў нашай краіне.

Мы з посьпехам, як гэта вызначана контрольнымі лічбамі на 1932 год, выконваем пяцігодку ў чатыры гады, а па раду важнейшых галін гаспадаркі (нафта, энэргетыка, с/г машынабудаўніцтва і інш.) выканалі яе ў $2^1/_2$-3 гады.

Дасягнуты грамадны рост буйной прамысловасьці. Пушчаны рад буйных гігантаў прамысловасьці. Аўтазавод АМО, Сталінградзкі і Харкаўскі трактарныя, набліжаецца пуск Магнітабуду, Кузнецкбуду, з посьпехам будуецца Днепрабуд, у наяўнасьці значны пад'ём і мэханізацыя Донбасу, рэконструкцыя „Красного Путиловца“ і інш. Усё гэта сьведчыць аб новым этапе ў індустрыялізацыі нашай краіны, умацаваньні яе кіруючай ролі ва ўсёй народнай гаспадарцы. Дасягнуты буйныя посьпехі ў вырашэньні задачы дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны, у аслабаненьні ад замежнай залежнасьці. 1931 год з усёй яскравасьцю паказаў нам, што мы маем усе магчымасьці сваімі ўласнымі тэхнічнымі рэсурсамі пабудаваць любую складаную машыну, калі за гэту справу возьмемся па-бальшавіцку.

Дасягнуты нябачныя посьпехі ў галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі: значна вырасла колькасьць саўгасаў, МТС (3.100 МТС вызначана на 1932 год), больш 60 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'ядналася ў колгасы. У важнейшых збожжавых раёнах завершана ў асноўным суцэльная колектывізацыя. На аснове будаўніцтва саўгасаў і колгасаў партыя вырашыла збожжавую проблему і вырашае проблемы жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Вырасла рабочая кляса (у 1932 годзе лік рабочых і служачых узрастае да 26,8 мільёна). Ліквідавана беспрацоўе. На нябачаную вышыню ўзьнялася актыўнасьць рабочае клясы і яе роля ў кіраўніцтве ўсімі галінамі народнай гаспадаркі. Палепшылася матэрыяльна-бытавое становішча рабочае клясы і ўсіх працоўных.

Дасягнуты рад буйнейшых посьпехаў у галіне пад'ёму транспорту, вырашэньне проблемы кадраў, задач культурнай рэволюцыі і інш.

XIV Зьезд КП(б)Б будзе працаваць ва ўмовах, калі:

пытаньне „хто—каго“ вырашана і ў прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы на карысьць соцыялізму,

пабудаваны фундамант соцыялістычнай экономікі нашай краіны, партыя прыступае да выкананьня пляну 1932 завяршаючага году пяцігодкі,

колгасьнік зрабіўся цэнтральнай фігурай земляробства, колгасы зрабіліся асноўнымі продуктарамі ня толькі збожжа, але і асноўных відаў сельска-гаспадарчай сыравіны,

скончана ў асноўным ліквідацыя кулацтва, як клясы ў асноўных збожжавых раёнах Саюзу,

дыктатура пролетарыяту ўзмацнілася, перамога соцыялізму ў нашай краіне забясьпечана.

У той-жа час краіны капіталізму перажываюць нябывалай сілы крызіс, які ўвесь час паглыбляецца. Краіны капіталу ўсё больш і больш скарачаюць сваю вытворчасьць, згортваюць будаўніцтва. Гіганцкі ўзрастае беспрацоўе, павялічваецца армія галодных у горадзе і вёсцы.

Усё гэта цалкам пацьвердзіла дануюю XVI Зьездам партыі і правадыром партыі т. Сталіным ацэнку:

„У них, капиталистов, экономический кризис и упадок производства как в области промышленности, так и в облости сельского хозяйства.

У нас, в СССР, экономический под'ем и рост производства во всех отраслях народного хозяйства.

У них, у капиталистов, ухудшение материального положение трудящихся, снижение заработной платы рабочих и рост безработицы.

У нас, в СССР, под'ем материального положения трудящихся, повышение заработной платы рабочих и сокращение безработицы".

Такім чынам, XIV Зьезд КП(б)Б будзе працаваць у такіх умовах калі перад партыяй паўстаў цэлы рад новых задач у барацьбе за генэральную лінію партыі, за пабудову соцыялізму. Якія-ж гэтыя задачы?

Выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, сконцэнтраваўшы ўвагу на барацьбе за мэталь, чыгун, сталь, вугаль, нафту, машынабудаўніцтва, аўтобудаўніцтва, за рэконструкцыю і падвышэньне работы транспорту, за палепшаньне матэрыяльна-бытавых умоў рабочых і рэконструкцыю комунальнай гаспадаркі, за разгортваньне лёгкай прамысловасьці, за перабудову работы коопэрацыі і разгортваньне савецкага гандлю. Трэба сконцэнтранаць увагу на палепшаньне якасьці работы саўгасаў і організацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў, як цэнтральнай задачы ў колгасным будаўніцтве. Вырашыць проблему жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Падвысіць ураджайнасьць, уняд рыць агратэхніку.

Выкананьне гэтых задач магчыма на аснове ажыцьцяўленьня 6-ці ўмоў т. Сталіна як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы. Трэба дасягнуць сапраўднага аўладаньня тэхнікай ва ўсіх галінах работы.

Узьняць на вышэйшую ступень марксыцка-ленінскае выхаваньне членаў партыі, комсамолу, рабочых мас і колгасьнікаў, паставіць шырока вывучэньне ленінізму, што з асаблівай сілай падкрэсьлена ў лісьце тав. Сталіна ў часопісі „Пролетарская революция". Трэба весьці барацьбу з трацкісцкай і праваўхілісцкай контрабандай, з гнілым лібэралізмам.

Змагацца за няўхільнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, накіраваўшы агонь на барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай, не паслабляючы барацьбы з мясцовым шовінізмам.

Узьняць на яшчэ большую вышыню актыўнасьць рабочых, колгасьнікаў і ўсіх працоўных для ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. І надалей, праводзячы політыку міру, умацоўваць абароназдольнасьць нашай краіны.

КП(б)Б, падводзячы вынікі сваёй работы і вызначаючы далейшыя свае задачы на сваім XIV Зьезьдзе, павінна будзе выходзіць з гэтай агульнай абстаноўкі нашай краіны, бо БССР ёсьць непадзельная частка ўсяго пролетарскага Саюзу, і КП(б)Б, пад кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б), на аснове няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, змагла дабіцца грамадных соцыяльна-экономічных зрухаў толькі пры дапамозе ўсяго Савецкага Саюзу

* * *

КП(б)Б у сваёй рабоце няўхільна ажыцьцяўляла лінію на падвышэньне вядучай ролі прамысловасьці ва ўсёй народнай гаспадарцы БССР.

Удзельная вага прамысловасьці ва ўсёй продукцыі БССР з 38,7 проц. у 1930 годзе ўзрасла, прыблізна, да 50,4 проц. у 1931 годзе. Разгорнуты новыя галіны прамысловасьці: машынабудаўніцтва, штучнае ўгнаеньне, штучны шоўк, цэмантная вытворчасьць, будаўнічыя матэрыялы і інш. Валавая продукцыя ўсёй прамысловасьці БССР у 1931 г. (уключаючы і дробную прамысловасьць у суме 120 млн. руб.) дасягае 820 міл. руб. і ў продукцыі ўсёй народнай гаспадаркі складае 51,7 проц. (замест 23,6 проц. у 1928-29 гг. і 38,7 проц. у 1929-30 гг.).

Удзельная вага рабочых, складаўшая 1,95 проц. у 1930 г., павялічылася да 3,2 проц. у 1931 годзе. Тэмпы прыросту рабочае клясы, як і прамысловасьці БССР, перавышаюць агульнасаюзныя тэмпы. За 10 м-цаў 1931 г. продукцыя рэспубліканскай прамысловасьці павялічылася ў параўнаньні з тымі месяцамі 1930 году, прыкладна, на 53 проц.

Рэалізацыя 6-ці ўмоў т. Сталіна дала свае станоўчыя вынікі. На тых прадпрыемствах („Бальшавік“, зав. імя Ланцуцкага і рад іншых), дзе ўсе організацыі ўзяліся за конкрэтнае ажыцьцяўленьне сталінскіх умоў, ужо зараз дасягнуты рашаючыя зрухі.

Аднак, трэба з усёй катэгорычнасьцю падкрэсьліць, што ў першую чаргу якасныя паказальнікі прамысловасьці БССР зьяўляюцца зусім нездавальняючымі. Гэта факт, што зьніжэньне сабекошту ў 1931 г. вызначылася толькі ў 1,7 проц. замест вызначаных 8,1, што рад галін прамысловасьці нават падвысілі сабекошт, як, напрыклад, шкляная на 14 проц., запалкавая на 4,8 проц.

Прамфінплян прамысловасьці БССР пры наяўнасьці ўсіх умоў для яго поўнага выкананьня па продукцыі выкананы толькі на 79,9 проц. і капіталаўкладаньні на 85,2 проц.

Дзе прычыны такіх прарываў? Ці ёсьць наяўнасьць об'ектыўных прычын? Іх няма. Асноўнай прычынай такіх прарываў і недахопаў у рабоце прамысловасьці зьяўляецца тое, што ажыцьцяўленьне 6-ці ўмоў т. Сталіна праводзіцца яшчэ нездавальняюча. На радзе прадпрыемстваў абмежаваліся толькі формальнай прапрацоўкай паказаньняў тав. Сталіна, ня прыняўшы конкрэтных опэрацыйных захадаў да іх выкананьня. Прычынай адставаньня прамысловасьці, асабліва па якасных паказальніках, зьяўляецца і тое, што ў кіраўніцтве прамысловасьцю з боку гаспадарчых органаў было шмат элемэнтаў кіраўніцтва „з паветра“.

Паказаньні тав. Сталіна аб тым, што „трэба спыніць папяровае „кіраўніцтва“ і пераключыцца на сапраўды дзелавую бальшавіцкую

работу“—не знайшлі поўнага і дастатковага выкананьня ў рабоце гаспадарчых органаў.

Такім чынам, у далейшым нам неабходна з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю і энэргіяй змагацца за выкананьне 6-ці ўмоў тав. Сталіна ў рабоце прамысловасьці. Гэта рашаючая ўмова выкананьня пяцігодкі за 4 гады. Мы павінны паставіць сваёй неадкладнай задачай ліквідаваць усе прарывы ў выкананьні прамфінпляну, змагацца за яго поўнае выкананьне, асабліва па лініі якасных паказальнікаў.

Больш увагі торфу, будматэрыялам, лесу, больш скарыстаць мясцовыя рэсурсы, выявіць новыя, мобілізаваўшы навукова-дасьледчую работу, праводзячы і надалей лінію па ўзмацненьню ролі прамысловасьці ў народнай гаспадарцы, ператвараючы паступова БССР з краіны аграрна-індустрыяльнай у краіну індустрыяльна-аграрную—вось група конкрэтных і баявых задач нашай далейшай работы па лініі прамысловасьці. Мы павінны працаваць пад знакам лёзунгу „па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць“. Трэба значна палепшыць кіраўніцтва прамысловымі аб‘яднаньнямі і самога ВСНГ—непасрэдна прадпрыемствамі.

Мы павінны ў далейшай рабоце зьвяртаць асаблівую ўвагу на палепшаньне рабочага забесьпячэньня. Ці дабіліся мы ў гэтых adносінах зрухаў? Бязумоўна, так. 1931 год быў годам далейшага рашучага ўздыму матэрыяльнага ўзроўню пролетарыяту і працоўных мас. Рэзкі ўздым жыцьцёвага ўзроўню пролетарыяту СССР асабліва выдзяляецца на фоне растучай галечы і голаду працоўных слаёў насельніцтва ў краінах капіталу.

Аднак, наяўнасьць у коопэрацыйным апараце і гандлёвых організацыях нэпманскага духу і недастатковая яшчэ ўвага з іх боку да патрэбнасьцяй рабочага забесьпячэньня сьведчаць аб тым, што на гэтым вучастку работы патрабуецца яшчэ надзвычайна многа партыйнай увагі. Мы маем вялікія магчымасьці і ўсіх наяўных рэсурсаў яшчэ больш палепшыць рабочае забесьпячэньне, і задача заключаецца ў тым, каб гэтыя наяўныя рэсурсы поўнасьцю і лепш выкарыстаць.

Ключом да далейшага рашучага палепшаньня забесьпячэньня працоўных, да далейшага хуткага ўздыму матэрыяльнага ўзроўню пролетарыяту зьяўляецца разгортваньне савецкага гандлю на аснове савецкай політыкі цэн. Партыя высунула проблему разгортваньня савецкага гандлю, як адну з важнейшых проблем соцыялістычнага будаўніцтва і дала рашучы адпор як права-опортуністычным нэпманскім тэндэнцыям у дзяржаўных і коопэрацыйна-гандлёвых апаратах, гэтак і лева-опортуністычнаму пераскокваньню праз этап савецкага гандлю да простага продуктаабмену і разьмеркаваньня.

Неабходна няўхільна і надалей змагацца за палепшаньне рабочага забесьпячэньня і грамадзкага харчаваньня, зрабіць гэта справай усіх організацый, поўнасьцю скарыстаць усе маючыяся рэсурсы. Рашуча перабудоўваць работу коопэрацыі і гандлёвых організацый, падвысіўшы ўвагу нізавому зьвяну—магазыну, сталоўцы, ЗРК, ЗВК і інш. Патрэбна рашуча зьнішчыць скажэньні савецкай політыкі цэн.

Трэба рашуча ўзяцца за рэконструкцыю комунальнай гаспадаркі, ліквідаваўшы яе адставаньне ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, у прыватнасьці ўзяцца за выкананьне пастановы ЦК і СНК па Менску. Трэба памятаць, што „Сёнешні рабочы, наш савецкі рабочы, жадае жыць з пакрыцьцём усіх сваіх матэрыяльных і культурных патрэб і ў сэнсе спажывецкага снабжэньня, і ў сэнсе жыльля, і ў сэнсе забесьпячэньня культурных і ўсякіх іншых патрэбнасьцяй.

Ён мае на гэта права і мы абавязаны забясьпечыць яму гэтыя ўмовы“ (Сталін).

У зьвязку з усім гэтым паўстае сур'ёзна пытаньне аб палепшаньні работы Белкоопсаюзу, Наркамснабу, Наркамгасу і іх мясцовых органаў.

За час з XIII Зьезду КП(б)Б шмат увагі ўдзялялася рабоце транспорту, адставаньне якога моцна адбівалася на нормальнай рабоце ўсіх галін народнай гаспадаркі. Ліквідацыя абязьлічкі, устанаўленьне спаранай язды, ліквідацыя ўраўнілаўкі ў зарплаце, гаспадарчы разьлік і інш. гэта тыя асноўныя мерапрыемствы, якія былі праведзены на транспорце, даўшы свае станоўчыя вынікі.

Лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б падрабязна разглядзеў пытаньні аб рабоце транспорту, вызначыўшы карэнныя мерапрыемствы па палепшаньні яго работы. Становішча транспорту асабліва некаторых раёнаў (напр., Віцебску) не зьяўляецца яшчэ здавальняючым. Адставаньне яшчэ не ліквідавана. Адсюль асаблівая ўвага падвышэньню работы транспорту і ў прыватнасьці падвышэньню ўвагі да рэканструкцыі воднага транспорту, значэньне якога для народнай гаспадаркі БССР асабліва вялікае, кіруючыся ў гэтым паказаньнямі лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

* * *

КП(б)Б дабілася значных посьпехаў у галіне соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі Беларусі. З часу XIII Зьезду мы ў гэтай галіне маем рашаючыя посьпехі, асноўныя з якіх вызначаюцца ў наступным:

Процант ахопу з 11,3 да XIII Зьезду КП(б)Б узьняўся да 50,3 да XIV Зьезду (на 20/XII-31 г.). На кожны колгасны двор прыпадае ў два разы больш засеву, чым на аднаасобны. У вясеньне-пасеўную кампанію ў 1931 г. колгасы засеялі 47,3 проц. яравога кліну. Лён, засеяны колгасьнікамі, заняў 51,3 проц., гародніна—64,1 проц. і караньплоды—66 проц.

За апошнія два гады колькасьць саўгасаў павялічылася амаль на 50 проц., а адносная вага іх плошчы павялічылася ў тры разы. Укладаньні ў сельскую гаспадарку БССР у 1931 г. выраслі на 59,3 проц.

Дасягнуты значныя посьпехі ў галіне спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі ў напрамку разьвіцьця жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Плошча засеву пад лёнам узрасла ў параўнаньні з 1930 годам на 55,3 проц. і пад каноплямі на 52 проц. Агульны прырост пасеўнай плошчы за 1931 год склаў 5,5 проц.

Пашыралася машынізацыя. За 1931 год організавана 27 новых МТС у той час, як у 1930 годзе іх было 6. Трактарны парк зараз налічвае 1.911 трактараў супроць 723 трактараў у 1930 годзе. За 1931 г. завезена с/г. машын на суму каля 13 мільёнаў рублёў.

Гэтыя посьпехі дасягнуты ў рашучай барацьбе як з права-опортуністычным самацёкам і скажэньнямі лініі партыі ў колгасным руху, так і з „лявацкімі“ перагібамі, практыка якіх мела значнае распаўсюджаньне ў радзе раёнаў (Лельчыцы, Койданава, Копыль і інш.). ЦК КП(б)Б ня раз даводзілася рашуча выпраўляць памылкі ў колгасным руху, якія мелі месца ў радзе раёнаў, і прымаць жорсткія меры да вінаватых ў скажэньнях лініі партыі.

Было-б няправільна змазваць дасягнутыя посьпехі ў справе колектывізацыі таксама, як і ідэалізаваць колгасы, забываючы, што ў іх захоўваюцца элемэнты клясавай барацьбы, што кулацтва зараз бярэ стаўку на разбурэньне колгасаў з сярэдзіны і аказвае шалёнае

супраціўленьне выкананьню цэнтральных задач у колгасным будаўніцтве—арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню колгасаў. Было-б няправільна і недаацэньваць усёй складанасьці задач, якія перад намі стаяць на гэтым вучастку работы.

Наяўнасьць шырока распаўсюджаных кулацка-спажывецкіх і рвацкіх тэндэнцый і настрояў у радзе колгасаў, што асабліва выявілася пры правядзеньні загатовак (дутыя хлебафуражныя балянсы, разьмеркаваньне ўраджаю паводле прынцыпу „спачатку сабе, а потым дзяржаве")—усё гэта настойліва высоўвае задачу соцыялістычнага выхаваньня колгасьніка і робіць яе (задачу) асабліва актуальнай як і задачу ачысткі колгасаў ад кулацка-варожых элемэнтаў. Рад колгасаў засьмечаны кулацка-варожымі элемэнтамі.

Наяўнасьць усіх гэтых фактаў яшчэ больш яскрава падкрэсьлівае важнасьць мобілізацыі ўсёй КП(б)Б на вырашэньне задач арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў. Гэта задача зьяўляецца цэнтральнай у колгасным руху і толькі праз яе ажыцьцяўленьне мы зможам завяршыць у асноўным суцэльную колектывізацыю БССР у 1932-33 гадох.

Ці ўсе зьвеньні партыйнай організацыі і колгаснай сыстэмы шчыльна падышлі да замацаваньня колгасаў. На гэта пытаньне прыходзіцца даць адмоўны адказ. Пры наяўнасьці бясспрэчнага павароту ўсёй КП(б)Б да гэтай справы, мы яшчэ ня маем дастатковага павароту ўсіх зьвеньняў партыйных і колгасных організацый да організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў. У радзе раёнаў мае месца і да гэтага часу пагоня за дутымі процантамі колектывізацыі, існуе ігнараваньне неабходнасьцяй концэнтраваць галоўную ўвагу на організацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў.

У пытаньнях колектывізацыі былі дапушчаны памылкі з боку ЦК КП(б)Б, рашуча выпраўленыя на лістападаўскім пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б. На ліпеньскім пленуме ЦК была прынята пастанова аб тым, каб дабіцца да вясны 1932 г. 75 проц. колектывізацыі, гэта значыць завяршыць у асноўным суцэльную колектывізацыю БССР. Бязумоўна, такая пастанова ня спрыяла таму, каб сконцэнтраваць галоўную ўвагу на замацаваньні колгасаў і давала раёнам повад гнацца за дутымі процантамі колектывізацыі.

Гэта першая памылка была паглыблена верасьнёўскай пастановай ЦК, якая была прынята пасьля вядомай пастановы ЦК УсеКП(б) ад 2-га жніўня 1931 г. ЦК КП(б)Б у верасьнёўскай пастанове не падкрэсьліў задачу замацаваньня колгасаў, як цэнтральнай для ўсіх без выключэньня раёнаў. Было дапушчана разьмеркаваньне раёнаў на дасягнуўшых большага проценту колектывізацыі і меншага, што фактычна не орыентавала раёны з меншым процантам колектывізацыі на замацаваньне колгасаў і таксама спрыяла пагоне за дутымі процантамі колектывізацыі. Пасьля зусім правільнай крытыкі і політычнай кваліфікацыі гэтых пастаноў з боку „Праўды", ЦК прыняў установку аб сканчэньні ў асноўным суцэльнай колектывізацыі ў 1932-33 гг.

Памылкі былі рашуча выпраўлены. ЦК мобілізаваў увагу ўсёй КП(б)Б на організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў, патрабуючы ад кожнай партыйнай організацыі яе конкрэтнага ажыцьцяўленьня.

Організацыйна-гаспадарчае замацаваньне колгасаў перш за ўсё ўпіраецца ў пытаньні організацыі колгаснай працы. Правільна організаваць працу у колгасах, падняць продукцыйнасьць яе, ліквідаваць ураўнілаўку і абязьлічку можна толькі на аснове выкананьня 6-ці ўмоў

тав. Сталіна. Іх рэалізацыя і аўладаньне тэхнікай у сельска-гаспадарчай вытворчасьці зьяўляецца цэнтральнай задачай. У гэтым галоўнае і асноўнае.

4-ы год пяцігодкі высоўвае з асаблівай сілай проблему якасьці ў соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі і задачу падвышэньня яе таварнасьці. Пытаньне падвышэньня ўраджайнасьці на аснове сапраўды навуковых мэтодаў вядзеньня гаспадаркі, змаганьне за высокаякасны і таварны жывёлагадоўчы статак, беражлівай і экономнай эксплёатацыі машыннага парку у колгасах, МТС і саўгасах робяцца вузлавымі пытаньнямі.

Трэба дабіцца палепшаньня якасьці работы саўгасаў і МТС, каб саўгасы і МТС яшчэ больш адыгрывалі сапраўды кіруючую ролю ва ўсёй рабоце па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ў організацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў.

Зараз з асаблівай увагай трэба ўзяцца за вырашэньне жывёлагадоўчай проблемы. „Проблема разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, асабліва сьвінагадоўлі, зьяўляецца актуальнай для БССР, як аднаго з важнейшых раёнаў Савецкага Саюзу“ (лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б). Адсюль больш увагі комплектаваньню стада, падвышэньню продукцыйнасьці, поўнаму захаваньню маладняка і барацьбе з кулацкай агітацыяй за зьнішчэньне маладняка, больш увагі вырашэньню кармавой проблемы.

З важнейшых задач соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі неабходна падкрэсьліць задачу барацьбы з недаацэнкай конскай цягавай сілы, задачу разьвіцьця ільну і канапель і асабліва на падвышэньне якасных паказчыкаў у разьвіцьці тэхнічных культур.

Ужо зараз трэба разгарнуць самую шырокую масавую падрыхтоўку да веснавой пасеўнай кампаніі, якая мае вялізарнейшае гаспадарча-політычнае значэньне ў вырашэньні вышэйадзначаных задач і рэконструкцыі с. г. у выкананьні програмы 4-га заключнага году пяцігодкі. Конкрэтнай баявой програмай для падрыхтоўчай работы і правядзеньня веснавой сяўбы зьяўляецца пастанова ЦК і СНК БССР. Трэба шырока популярызаваць гэтую пастанову сярод мас, мобілізаваўшы іх на яе ажыцьцяўленьне.

Трэба па-бальшавіцку ўскрываць усялякія скажэньні лініі партыі ў колгасным будаўніцтве, у падатковай політыцы, рашуча павесьці барацьбу з адміністраваньнем у правядзеньні чарговых гаспадарча-політычных кампаній, змагацца з існуючай і распаўсюджанай недаацэнкай масавай работы сярод колгасьнікаў і бедняцка-серадняцкіх мас. Зрабіць масавую работу асноўным рычагом ва ўсіх мерапрыемствах партыі, праводзімых у вёсцы.

Трэба поўнасьцю выканаць пляны загатовак (лён, хлеб, мяса і інш.), ліквідаваўшы адставаньне БССР на гэтым вучастку.

* * *

КП(б)Б да XIV Зьезду падыходзіць з вялізарнымі посьпехамі і ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Посьпехі па разгортваньні прамысловасьці, па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, дасягнутыя пры брацкай дапамозе пролетарыяту СССР, зьяўляюцца посьпехамі і ў ажыцьцяўленьні нацыянальнай політыкі партыі.

Мы маем вялізарны размах у вырашэньні задач культурнай рэволюцыі і посьпехі па ліквідацыі няпісьменнасьці. БССР першая з саюзных рэспублік, якая ўвяла ўсеагульнае абавязковае навучаньне.

Значна ўзрасла вышэйшая і сярэдняя асьвета. Павялічылася пралетарская праслойка у навучальных установах. Пашырылася выдавецкая дзейнасьць. Дасягнуты посьпехі ў мастацкай справе. Такім чынам, за адрэзак часу ад 13 зьезду КП(б)Б мы маем значныя посьпехі ў ліквідацыі ня толькі эканомічнай, але і культурнай адсталасьці БССР.

Вось некаторыя даныя. У 1931 годзе лік ВТНУ і ВНУ даведзены да 26. Ва ўсіх вышэйшых навучальных установах навучаецца 10,5 тысяч чалавек. Лік тэхнікумаў павялічыўся да 88. Тыраж газэты ўзрос на 34,5 проц. Гадавы тыраж раённых газэт павялічыўся за 1931 год больш, як у 3 разы.

1931 год зьявіўся пераломным годам у разгортваньні навукова-дасьледчай работы і падрыхтоўцы навуковых кадраў. Рэорганізавана і значна пашырана БАН, пры якой створаны рад інстытутаў, с. г. Акадэмія, БДУ і інш. Дасягнуты значныя посьпехі ў галіне беларусізацыі. Разгорнута работа сярод працоўных мас нацменшасьцяй.

Дасягненьні ў нацыянальна-культурным будаўніцтве БССР зьявіліся вынікам рушучага змаганьня КП(б)Б за правільнае ажыцьцяўленьне нацыянальнай палітыкі. У выніку рашучай барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызм, нацыянал-опортунітмам контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм разьбіты і скомпромэтаваны ў вачох шырокіх мас рабочых. Аднак, гэта не выключае яго актывізацыі і праяў у далейшым з прычыны шалёнага супраціўленьня соцыялістычнаму наступленьню аджываючых рэштак эксплёататарскіх кляс беларускай нацыі. Актывізацыя нацыянал-шовінізму будзе праяўляцца ў далейшым ня толькі ў старых, але магчыма і ў новых больш скрытых і замаскаваных формах. Барацьба з ім павінна праводзіцца з няўхільнай пасьлядоўнасьцю і ў далейшым і патрабуе бязьлітаснага зрываньня масак з яго найбольш скрытых форм.

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне ленінскай нацпалітыкі магчыма толькі пры ўмове рашучай барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам, які зьяўляецца і застаецца галоўнай небясьпекай, не паслабляючы барацьбы з праяўленьнямі мясцовага шовінізму: беларускага, яўрэйскага, польскага і інш.

Аднак, за апошні час, як гэта адзначана ў сьнежаньскай пастанове ЦК і ЦКК КП(б)Б, у асобных зьвеньнях партыйнай організацыі ёсьць яўнае паслабленьне барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам. Рад вылазак не атрымліваў адпаведнага рашучага адпору з боку мясцовых парторганізацый. Не разгорнута яшчэ сыстэматычнае выкрыцьцё праяў вялікадзяржаўніцтва, які за апошні час мае ўсе прызнакі ажыўленьня.

Даволі паказаць на выступленьне Вольфсона і Выдры, якія крытыкавалі беларускі нацыянал-дэмократызм не з партыйных позыцый па нацыянальным пытаньні, а з позыцый вялікадзяржаўных ухілістаў, выступленьне Югава, які аказаўся неразброіўшымся трацкістам, з падзелам комуністаў па прызнаках іх нацыянальнасьці, што „стварала антагонізм і прывяло да пагарадлівых нетаварыскіх адносін да паасобных беларускіх работнікаў“ (з пастановы ЦК і ЦКК КП(б)Б). Мы маем паслабленьне работы па беларусізацыі ў асобных зьвеньнях КП(б)Б. Мелі месца яўныя вялікадзяржаўніцкія вылазкі на паасобных прадпрыемствах.

Вось чаму ЦК і ЦКК КП(б)Б зусім своечасова падкрэсьліваюць задачу... „падвысіць пільнасьць да вылазак і праяўленьня вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе і організаваць

яшчэ больш актыўную барацьбу з ім, наносячы рашучы ўдар па опортуністычным і абывательскім прымірэнцтве да вялікадзяржаўнага ўхілу".

Разглядаючы пытаньне аб нацыянальна-культурным будаўніцтве, трэба спыніцца і на тых памылках, якія былі дапушчаны ў гэтай галіне. У радзе артыкулаў, зацьверджаных ЦК у 1929 годзе і пачатку 1930 г., у рэволюцыі XIII зьезду КП(б)Б па дакладзе аб профсаюзах, пры правядзеньні правільнай барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызмам быў прыняты памылковы лёзунг аб тым, што беларускі нацыянал-дэмократызм зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе. „Памылковасьць лёзунгу аб нацыянал-дэмократызьме, як галоўнай небясьпецы на даным этапе, заключалася ў тым, што гэты лёзунг не концэнтраваў галоўнага агню супроць вялікадзяржаўнага ўхілу і тым самым не садзейнічаў неабходнай мобілізацыі партыйных сіл на барацьбу з ім" (з пастановы ЦК і ЦКК.)

Гэты лёунг супярэчыў пастановам XII зьезду РКП(б) і XVI зьезду ЎсеКП(б) і зараз-жа пасьля XVI зьезду быў выпраўлены. КП(б)Б зараз-жа пасьля XVI зьезду прыняла ўстаноўку аб тым, што вялікадзяржаўны ўхіл зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, мобілізуючы ўвагу на рашучую барацьбу з ім.

ЦК зусім правільна ў сваёй пастанове адзначае, што „наяўнасьць на пэўным этапе няправільнага лёзунгу аб тым, што нацыянал-дэмократызм зьяўляецца галоўнай небясьпекай, не дае ніякіх падстаў рэвізаваць праведзеную КП(б)Б барацьбу з нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам. Выкрыцьцё і барацьба супроць нацыянал-дэмократызму і яго агентуры ў радох партыі—нацыянал-опортунізму— былі праведзены компартыяй Беларусі зусім правільна".

У далейшай практычнай рабоце па нацыянальна-культурным будаўніцтве нам неабходна разгарнуць самую непрымірымую барацьбу за правільнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі партыі, ліквідаваць адставаньне культурнага фронту ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба рашуча змагацца з недаацэнкай работы сярод нацменшасьцяй, значна палепшыўшы гэту работу. Узмацніць справу беларусізацыі апаратаў і асабліва сярод рабочых мас, не абмяжоўваючыся толькі вывучэньнем беларускай мовы, а дабівацца таго, каб парторганізацыі і рабочая маса аўладалі ўсімі процэсамі нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Неабходна змагацца за пературварэньне БССР да 1-га мая 1932 г. у краіну суцэльнай пісьменнасьці, за поўнае выкананьне плянаў абавязковага навучаньня, змагацца за палепшаньне якасьці ва ўсёй рабоце масавых школ і рашучую іх перабудову.

Трэба дабіцца ўмацаваньня работы БАН, інстытуту гісторыі партыі, навукова-дасьледчых і навучальных устаноў. Трэба змагацца за пасьпяховае вырашэньне задачы стварэньня сваіх пролетарскіх кадраў, адначасова лепш скарыстоўваючы тую частку старой навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі, якая сумленна аддае свае сілы на справу соцыялістычнага будаўніцтва.

* * *

КП(б)Б у рашучай барацьбе за два франты з правым і „левым" опортунізмам, у барацьбе з ухіламі ў нацыянальным пытаньні, з прымірэнцтвам да ўхілаў і скажэньняў лініі партыі расла і загартоўвалася. Значна перамагла элемэнты групаўшчыны ў частцы актыву, ускрытыя ў сувязі з разгромам нацдэмаўшчыны. Час з XIII зьезду КП(б)Б знаменуе сабой яшчэ большую згуртаванасьць радоў КП(б)Б на аснове

генэральнай лініі партыі. На конрэтных фактах барацьбы з праяўленьнямі опортунізму загартоўваліся і выхоўваліся новыя папаўненьні партыі.

ЦК КП(б)Б рашуча ўдарыў па праявах правага опортунізму, які мае месца ў паасобных раёнах у даволі шырокіх разьмерах. Такія праявы былі рашуча выкрыты ў свой час у Гарадоцкім раёне, дзе правы опортунізм шчыльна пераплятаўся з „левымі“ загібамі, у Касьцюковіцкім раёне, Асіпавіцкім, Чаўскім і інш. раёнах. ЦК рашуча ўдарыў па праявах правага опортунізму ў правядзеньні загатовак, зьнята кіраўніцтва раду раёнаў і Белсельтрэсту. ЦК рашуча выкрыў і ўдарыў па праявах „левых“ загібаў, якія мелі месца і шырокае распаўсюджаньне ў Койданаўскім, Капыльскім, Лельчыцкім, Бягомльскім і Чырвонапольскім раёнах.

У выніку ўзмацненьня аўторытэту партыі сярод шырокіх рабочых мас і ўздыму іх актыўнасьці падвысіліся тэмпы росту КП(б)Б. За час пасьля XIII-га зьезду КП(б)Б узрасла з 41.347 (на 1/VII-30 г.) да 54.392 (на 1/X-31 г.).

Новая абстаноўка і новыя задачы патрабавалі і адпаведнай перабудовы партыйнай работы. Сваячасова напомніць паказаньні X зьезду РКП(б) аб тым, што „ўсякая організацыйная форма і адпаведныя мэтоды работы могуць са зьменай об'ектыўных умоў разьвіцьця рэволюцыі ператварыцца з форм разьвіцьця партыйнай організацыі ў аковы гэтага разьвіцьця“.

Перабудова партыйнай работы праходзіла пад знакам устанаўленьня сапраўднай конкрэтызацыі і опэрацыйнасьці ў кіраўніцтве, стварэньне сапраўднага павароту партыйных організацый тварам да конкрэтна-гаспадарчых задач і забесьпячэньня авангарднай ролі камуністаў на вытворчасьці. Адсюль перанясеньне цэнтру партыйнай работы непасрэдна ў нізавое зьвяно (цэх, брыгада), ператварэньне парт'ячэек саўгасаў, МТС і колгасаў у апорныя пункты партыйнай работы на вёсцы, устанаўленьне сапраўднай спэцыялізацыі і опэрацыйнасьці ў раённым партыйным кіраўніцтве, перабудова работы партапарату.

Перабудова партыйнай работы далёка яшчэ ня скончана і не разгорнута ў належнай ступені ва ўсіх зьвеньнях парторганізацыі. У шмат якіх партыйных ячэйках перабудова праведзена формальна. Комуністы на вытворчасьці ня ўсюды адыгрываюць авангардную ролю. Конкрэтныя гаспадарчыя пытаньні не заўсёды стаяць у цэнтры ўвагі партыйных ячэек.

Неабходна завяршыць перабудову партработы, удасканальваючы ўвесь час яе формы і мэтоды, перанесьці сапраўдны цэнтр партработы непасрэдна ў нізавое зьвяно (цэх, брыгада, зьмена, агрэгат, колгас), устанавіць сапраўды гнуткае і опэрацыйнае кіраўніцтва. Трэба рашуча зьнішчаць праявы супраціўленьня перабудове партыйнай работы. Неабходна ў новых умовах сапраўды „па-новаму кіраваць, па-новаму працаваць“, згрупаваўшы вялізарную ўвагу на правільным падборы і расстаноўцы кадраў на ўсіх вучастках нашай работы.

Важнейшай і неадкладнай задачай зьяўляецца ўмацаваньне ўсіх зьвеньняў вясковай партыйнай організацыі. Ад пасьпяховага вырашэньня гэтага будзе залежаць у значнай меры пасьпяховае вырашэньне задач, якія стаяць перад вясковай парторганізацыяй.

Новая абстаноўка і задачы патрабавалі адпаведнай перабудовы работы і масавых організацый пролетарыяту. Дасягнуты значныя вынікі ў перабудове работы профсаюзаў. Ёсьць пералом у рабоце профсаюзаў тварам да вытворчасьці. Профсаюзы прыступілі да ажыць-

цяўленьня 6-ці ўмоў т. Сталіна. Разбуйненьне профсаюзаў спрыяла іх павароту тварам да конкрэтных задач вытворчасьці. Аднак, профсаюзы, як школа комунізму, не разгарнулі яшчэ шырокім фронтам масавай політыка-выхаваўчай работы. У наяўнасьці яшчэ рад буйнейшых недахопаў.

Комсамол таксама дабіўся значных дасягненьняў у сваёй рабоце. Падвысілася вытворчая актыўнасьць комсамолу. Комсамольцы больш актыўна і конкрэтна ўдзельнічаюць у барацьбе за выкананьне прамфінпляну на прадпрыемствах, да замацаваньня колгасаў.

Аднак, у рабоце комсамолу існуе адставаньне ў радзе важнейшых вучасткаў работы. Тэмпы перабудовы работы недастатковыя. Далейшая перабудова работы комсамолу і концэнтрацыя галоўнай увагі на бальшавіцкім выхаваньні комсамольцаў і новых папаўненьняў рабочай і працоўнай моладзі—вось асноўная задача комсамолу.

Перабудова ўсіх масавых організацый пролетарыяту разгарнулася, але яшчэ не дасягнула такога ўзроўню, які адпавядаў-бы сучасным задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Пытаньні якасьці ў кіраўніцтве і рабоце партыйных, савецкіх і профсаюзных органаў, конкрэтнасьці і перанясеньня цэнтру цяжару на праверку выкананьня набылі выключнае значэньне. Перабудова работы ўсіх організацый шчыльна зьвязана з разгортваньнем далейшай бязьлітаснай барацьбы з бюрократызмам. Гэтай задачы нельга ні ў якім разе ўпускаць у далейшай рабоце.

Трэба падвысіць адказнасьць ведамсьцьвеных організацый, рашуча біць па расхлябанасьці, несваячасоваму выкананьню дырэктыў партыі, каго-б гэта не датычылася.

* *
*

Асноўнай умовай будаўніцтва соцыялізму і выкананьня намечаных задач зьяўляецца няўхільнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі ў бязьлітаснай барацьбе з клясавым ворагам і яго агентурай унутры партыі—правым і „левым“ опортунізмам, з прымірэнцтвам да іх.

Зараз на новым этапе нашага разьвіцьця мы маем праяўленьне опортунізму ў новых формах. Перад тварам бліскучых перамог лініі партыі ворагі рабочае клясы і іх агентура ўнутры партыі ўжываюць больш скрытыя, замаскаваныя формы атак на партыю, на яе генэральную лінію і кіраўніцтва.

„Адкрыта пад сьцягам троцкізму выступаць цяпер цяжка, мас не заваюеш, капіталу не нажывеш. Выступаць трэба пад іншымі сьцягамі, лёзунгамі, тэзісамі, фармуліроўкамі. Трэба паставіць пад сумненьнем пасьлядоўнасьць ленінскай бальшавіцкай тэорыі, каб зганьбіць нашу практыку ажыцьцьўленьня генэральнай лініі партыі.

Опортунізм прабуе таму пралезьці зараз у нашы рады, прыкрываючыся, прымазваючыся, упрыгожваючыся, поўзачы на жываце, прабуе пранікнуць у шчыліны і асабліва прабуе ўлезьці праз вароты гісторыі нашай партыі“. (Л. Н. Кагановіч).

Таму неабходна падвышэньне партыйнай пільнасьці і бальшавіцкай непрымірымасьці да ўхілаў ад лініі партыі, да ўсякіх замаскаваных вылазак клясавых ворагаў, у якой-бы форме яны не выступалі.

Пісьмо тав. Сталіна ў рэдакцыю часопісі „Пролетарская революция“, зьяўляючыся документам выключнай політычнай важнасьці, наставіла з усёй вострасьцю пытаньне аб падвышэньні партыйнай пільнасьці да троцкісцкай контрабанды і гнілога лібэралізму на ўсіх

вучастках работы нашае партыі, паставіла пытаньне аб бальшавіцкім выхаваньні кадраў на сапраўднай, у ленінскім разуменьні гэтага слова, гісторыі партыі.

Пісьмо тав. Сталіна з выключнай вострасьцю паставіла пытаньне аб узьняцьці палітычнага ўзроўню тэорытычнага фронту да ўзроўню сапраўднай партыйнасьці ў навуцы. Пісьмо т. Сталіна мае вялізарнае і інтэрнацыянальнае значэньне для барацьбы брацкіх компартый за большасьць рабочае клясы, барацьбы з контррэволюйным троцкізмам, з люксэмбургіянствам і рэнэгатамі комунізму, з соцыялфашызмам.

Абгаварэньне пісьма т. Сталіна ўжо дало свае станоўчыя вынікі. У рэзультаце абгаварэньня пісьма ўзьнялася на новую вышыню бальшавікая закалка ўсёй КП(б)Б. Галоўнай задачай тэорытычнага фронту зараз зьяўляецца перабудова работы ў адпаведнасьці з паказаньнямі т. Сталіна. Актуальнасьць гэтай перабудовы тэорытычнага фронту БССР асабліва вялікая.

Літаратуры, якая правільна асьвятляла гісторыю бальшавізму і Кастрычніцкай рэволюцыі на Беларусі, мы фактычна ня маем. Факты працягваньня ў гістарычнай літаратуры БССР контррэволюцыйнай троцкісцкай контрабанды, вялікадзяржаўных і нацыянал-дэмократычных тэорый маюць значнае месца.

Палітычная бесклапотнасьць і гнілы лібэралізм некаторай часткі комуністаў дазволілі Югаву, нераізброіўшамуся троцкісту, скрываць да апошняга часу свой сапраўдны твар і працягваць у сваіх нават апошніх работах троцкісцкі паклёп і фальсыфікацыю.

Ідэалізацыя дробна-буржуазных і нацыяналістычных партый (Бунд, БСГ), ідэалізацыя люксэмбургіянства, асьвятленьне Кастрычніцкай рэволюцыі ў Беларусі, як рэволюцыі сялянскай і інш. скажэньні гісторыі бальшавізму маюць месца ў радзе тэорытычных работ (Агурскі, Поташ, Майзэль, Шапавалаў, Шчарбакоў і іншых), што зараз рашуча выкрываецца партыйнай організацыяй.

Трэба з пасьлядоўнай непрымірымасьцю змагацца за партыйнасьць навукі і марксыцка-ленінскую чыстату тэорытычнага фронту.

Прыток маладых кадраў, не прайшоўшых у сваёй большасьці школы грамадзянскай вайны, ня ведаючых прыгнечаньня і эксплёатацыі капіталістычнай фабрыкі, а адсюль менш загартаваных, з асаблівай вострасьцю ставіць пытаньне аб марксыцка-ленінскім выхаваньні партыйных кадраў. Пасьпяховае вырашэньне гэтай задачы ставіцца ў простую залежнасьць ад выкананьня чарговых гаспадарча-палітычных задач і ўцягненьня да ўдзелу ў іх новых папаўненьняў партыі.

У галіне разгортваньня партыйна-выхаваўчай работы можна констатаваць рад дасягненьняў. Аднак, гэтыя дасягненьні ў параўнаньні з усё ўзрастаючымі запатрабаваньнямі да партыйнай вучобы зьяўляюцца зусім недастатковымі. У партвучобе існуюць элемэнты схолястыкі, маюць месца скажэньні ідэолёгічнага зьместу вучобы, партвучоба недастаткова ўвязваецца з практыкай партыйнай работы і выкананьнем чарговых палітычна-гаспадарчых задач. Ліквідацыя гэтых недахопаў павінна максымальна садзейнічаць умацненьню бальшавіцкай вытрыманасьці КП(б)Б і падвысіць яе баяздольнасьць у барацьбе за генэральную лінію партыі.

З асаблівым упорам пісьмо т. Сталіна ставіць пытаньне аб падвышэньні ідэйнага ўзроўню марксыцка-ленінскага выхаваньня членаў партыі і партыйнага актыву. Тэндэнцыі, якія маюць месца ў некаторых зьвеньнях партыйнай організацыі падмяніць задачу падвы-

шэньня якасьці ідэйна-выхаваўчай работы адміністраваньнем і спробай зьмешваньня ў кучу трацкісцкай контрабанды і яе носьбітаў з памылкамі партыйных таварышоў і адмаўленьні ад дапамогі гэтым таварышом у выпраўленьні іх памылак, павінны атрымаць рашучы адпор.

Ліст тав. Сталіна „мае вялізарнае значэньне, але ён ні ў якой ступені не даваў такога напрамку, каб глыбокае вывучэньне ленінізму і штодзенную выхаваўчую работу асобнай ячэйкі падмянялі адміністраваньнем. Гэта памылка тых організацый, якія так няправільна зразумелі сэнс і назначэньне ліста т. Сталіна. Трэба ўмець адрозьніваць асобную памылку чалавека ад сыстэмы поглядаў. Зразумела, скрытыя трацкісты ёсьць у радох нашай партыі, але адна справа выкрываць захаваных трацкістаў, якія карыстаюцца часам адсутнасьцю належнай пільнасьці на тым ці іншым вучастку, выкрываць і выганяць іх з партыі, а другая справа—памылка таго ці іншага таварыша, якую таксама трэба крытыкаваць, але крытыкаваць трэба па-таварыску, каб ён мог выправіць яе. Трэба дапамагчы яму выправіць памылку і гэтым папярэдзіць другіх. Няправільна кваліфікаваць такога таварыша, як ухіліста. Тут справе гэтым не дапаможаш“ (Постышаў).

* * *

КП(б)Б пад бальшавіцкім кіраўніцтвам свайго ЦК і ленінскага ЦК УсеКП(б) прарабіла вялізарнейшы шлях ад XIII да XIV Зьезду, шлях посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, шлях перамог ленінскай нацыянальнай політыкі партыі. Бальшавіцкае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б забясьпечыла вялізарны ўздым продукцыйных сіл Савецкай Беларусі, соцыялістычную перабудову яе экономікі, росквіт сапраўднай культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу.

Перамога соцыялізму ў БССР асабліва яскрава выступае на фоне глыбачайшага разарэньня пакутуючых пад ігам фашысцкіх окупантаў працоўных мас Заходняй Беларусі. Вочы працоўных Заходняй Беларусі ўсё больш і больш узіраюцца на Савецкую Беларусь, якая паказвае сваімі героічнымі перамогамі адзінны шлях да вызваленьня, да выхаду з бяздоньня капіталістычнага крызісу, да выратаваньня ад нячуваных тэрораў і нацыянальнага ўціску польскіх окупантаў.

XIV Зьезд КП(б)Б сваімі пастановамі асьветліць шырокую дарогу пераможнага соцыялістычнага разьвіцьця Савецкай Беларусі і дапаможа брацкай КПЗБ у яе барацьбе за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне працоўных Заходняй Беларусі. XIV Зьезд КП(б)Б зьявіцца новай бліскучай старонкай барацьбы КП(б)Б за соцыялізм на аснове згуртаваньня сваіх радоў вакол генэральнай лініі партыі і яе ленінскага кіраўніцтва.

---

М. Аскерка

# Выканаем бальшавіцкую праграму разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі

Зараз, калі партыя пасьпяхова вырашыла проблему збожжа і дабілася рашаючых посьпехаў у галіне разьвіцьця тэхнічных культур (лён, каноплі, бавоўна, цукровы бурак), проблема разьвіцьця жывёлагадоўлі пастаўлена партыяй, *як цэнтральная задача* ў галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Жывёлагадоўля да гэтага часу зьяўляецца найбольш адсталаю і нізка-таварнаю галіною сельскай гаспадаркі.

Гіганцкія тэмпы разгортваньня соцыялістычнай прамысловасьці, рост рабочай клясы і пролетарскіх цэнтраў, задачы карэннага палепшаньня рабочага снабжэньня, якое ў сучасны момант у асноўным ўпіраецца ў продукты жывёлагадоўлі (мяса, масла, малако і інш.), патрабуюць шпаркіх тэмпаў разьвіцьця высока-таварнай соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Пагэтаму ЦК УсеКП(б) і СНК СССР у адозьве аб разьвіцьці жывёлагадоўлі патрабуюць:

*„1931 і 1932 гг. павінны быць гадамі такога-ж рашучага пералому ў разьвіцьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гг. у справе організацыі соцыялістычнай збожжавай гаспадаркі“.*

Практычнае вырашэньне проблемы соцыялістычнай жывёлагадоўлі ўскладняецца радам цяжкасьцяў, якія абумоўлены наступнымі прычынамі:

1. Жывёлагадоўля да апошняга часу зьяўляецца найменш аграмаджанаю галіною сельскай гаспадаркі, галіною, якая найбольш туга паддаецца аграмаджаньню.

2. Разьвіцьцё соцыялістычнай жывёлагадоўлі сустракала і сустракае *найбольш шалёнае* супраціўленьне клясавага ворага — кулака. На гэтым вучастку кулак асабліва шалёна супраціўляецца мерапрыемствам партыі і савецкай улады, якія накіраваны на соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі. У адказ на разгорнутае соцыялістычнае наступленьне кулак павёў шалёную агітацыю за зьнішчэньне жывёлы і зьнішчыў значную колькасьць высокаякаснай жывёлы, асабліва маладняка.

3. Адсталасьць кармовай базы, нізкая якасьць і ўраджайнасьць сенажацяў і выпасаў, што патрабуе разгортваньня ў кароткі тэрмін масавай вытворчасьці комбінаваных і сочных кармоў, правядзеньня мэліорацыйных і культур-тэхнічных работ, а таксама організацыі сенакашэньня на вялікіх плошчах паплавоў.

4. Неабходнасьць у кароткі тэрмін правесьці вялізарнае будаўніцтва кароўнікаў, сьвінарнікаў і другіх гаспадарчых будынкаў у жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах.

5. Нізкая продукцыйнасьць і дрэнная якасьць пераважна-большай часткі жывёлы, карэннага палепшаньня якой нельга было дабіцца ва ўмовах раздробленасьці сельскай гаспадаркі.

6. Востры недахоп высокакваліфікаваных і масавых кадраў зоотэхнічных і вэтэрынарных работнікаў, нізкая кваліфікацыя маючыхся кадраў.

Наяўнасьць гэтых цяжкасьцяў *ні ў якой ступені не павінна паслабіць тэмпаў разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, узятых партыяй.* Кожная парторганізацыя, партыйная ячэйка, кожны комуніст паасобку павінны ўсьвядоміць важнасьць жывёлагадоўчай проблемы і мобілізаваць шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, беднякоў і серадьнякоў-аднаасобнікаў на баявое выкананьне плянаў разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, *на рашучае перамаганьне* паказаных цяжкасьцяў і гэтым самым нанесьці *руйнуючы ўдар па кулаку,* які шалёна супраціўляецца і імкнецца сарваць мерапрыемствы партыі на фронце разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

Бязьлітасная барацьба з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай, „левымі“ заскокамі і прымірэнцтвам да ўсіх ухілаў ад партыйнай лініі зьяўляецца *важнейшаю ўмоваю* для забесьпячэньня перамог на фронце соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Неабходна даць рашучы адпор права-опортуністычным разважаньням і „тэорыям“ аб немэтазгоднасьці будаўніцтва буйных жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасных таварных фэрм, якія (разважаньні і „тэорыі“) пачынаюць дзе-ні-дзе ажываць у сувязі з момантамі падзяжу сьвіней у частцы саўгасаў і колгасаў, выкліканага эпізоотыяй чумы і дрэнным доглядам за жывёлаю ў гэтых колгасах і саўгасах. Неабходна рашуча *вытравіць* опортуністычны самацёк у рабоце па разьвіцьцю соцыялістычнай жывёлагадоўлі, зьнішчыць моманты патураньня кулаку (неабагульваньне другой і трэцяй каровы ў асобных колгасах) і „лявацкія“ заскокі, якія знаходзяць свой адбітак, між іншым, у спробах адміністратыўнага абагульваньня дробнай жывёлы ў колгасах.



## Формаваньне статку соцсэктару — рашаючае зьвяно

Проблема высока-таварнай жывёлагадоўлі можа быць вырашана толькі *на базе саўгасаў і колгасаў.* Гэта адзіна правільны выпрабаваны шлях. Вось таму комплектаваньне статку саўгасаў і КТФ зьяўляецца *рашаючай задачай* у разьвіцьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі. БССР, як адзін з асноўных жывёлагадоўчых раёнаў СССР, за кароткі час дабілася значных посьпехаў у справе разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Па БССР ужо організавана: 99 малочна-жывёлагадоўчых саўгасаў, у якіх маецца 49.129 галоў буйнай жывёлы, у тым ліку 26.000 малочных кароў; 87 сьвінаводных саўгасаў, у якіх маецца 74.000 сьвіней, у тым ліку 28.000 сьвінаматак. Па колгасах організавана 1.018 МТФК з лікам 120.000 галоў буйной жывёлы, з якіх 72.000 продукцыйных кароў і 1.600 СТКФ з лікам 120.000 сьвіней, з якіх 71.200 сьвінаматак. Саўгасы і колгасы БССР здалі дзяржаве 670.660 цнт. малака і 21.600 цнт. сьвінога мяса.

Аднак, лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б падкрэсьліў, што гэтыя посьпехі зьяўляюцца толькі пачаткам, толькі першым крокам у справе разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, што задачы разь-



віцьця жывёлагадоўлі *„яшчэ ня сталі ў цэнтры штодзеннай увагі* партыйных, савецкіх, зямельных, колгасных і коопэрацыйных організацый“, што яшчэ „існуе няўменьне па-новаму, конкрэтна і опэрацыйна кіраваць і працаваць на гэтым адказьнейшым вучастку работы“.

Толькі гэтымі, а ня іншымі прычынамі тлумачацца буйнейшыя прарывы ў выкананьні плянаў комплектаваньня статку соцсэктару і здачы таварнай продукцыі.

Аб гэтым з усёй катэгорычнасьцю сьведчаць наступныя лічбы: на 1/XII-31 г. па трэсту „Сьвінавод“ плян комплектаваньня агульнага пагалоўя выкананы толькі на 41,1 проц., па сьвінаматках—на 76,6 проц.; плян комплектаваньня СТКФ выкананы па агульнаму пагалоўю на 45,3 проц., па сьвінаматках на 78,6 проц., у тым ліку дарослых 56,3 проц.; плян комплектаваньня буйнай жывёлы выкананы па саўгасах на 71,2 проц., па МТКФ — на 99 проц.

Асабліва ганебныя опортуністычныя тэмпы комплектаваньня СТКФ паказваюць раёны: Крупскі — на 12 проц., Бярэзінскі — 15,5 проц., Кармянскі—10,6 проц., Клічаўскі—15 проц., Прапойскі—14 проц., Рагачэўскі—16,9 проц., Уваравіцкі—18,6 проц., Мазырскі—16,1 проц., Нараўлянскі—11,6 проц., Парыцкі—11,6 проц. Зрываюць комплектаваньне МТКФ раёны: Бешанковіцкі—38 проц., Мазырскі—28 проц., Чашніцкі—50 проц., Чавускі—45 проц., Уваравіцкі—52 проц. Такія ганебныя паказчыкі комплектаваньня МТКФ і СТКФ у канцы году сьведчаць аб тым, што партыйныя організацыі гэтых раёнаў яшчэ не павярнуліся тварам да соцыялістычнай жывёлагадоўлі, не ўсьвядомілі важнасьці задач, пастаўленых партыяй, ня зьнішчылі опортуністычнага самацёку ў рабоце на гэтым адказьнейшым вучастку, ня ўмеюць організоўваць соцыялістычны наступ на фронце жывёлагадоўлі.

Яшчэ горш выконваюцца пляны комплектаваньня колгасных птушкаводных фэрм (КПТФ). Гадавы плян комплектаваньня КПТФ на 10/XI-31 г. выкананы толькі на 16,5 проц. У той час, як частка раёнаў дабілася значнага зруху ў справе комплектаваньня КПТФ (Любаньскі — 65 проц., Пухавіцкі — 62 проц., Заслаўскі — 51 проц.), пераважная большасьць раёнаў ігнорують справу птушаводства і амаль нічога не зрабілі для ўкомплектаваньня птушкаводных фэрм, а 15 раёнаў зусім не распачыналі гэтай работы. Гэта яшчэ раз сьведчыць аб адсутнасьці рашучага павароту парторганізацый да вырашэньня задач соцыялістычнай жывёлагадоўлі, да вырашэньня мясной проблемы.

Якія крыніцы ў нас маюцца для выкананьня плянаў формаваньня статку соцсэктару?

Першая крыніца — гэта поўнае выкананьне плянаў жывёланарыхтовак, устаноўленых НКСнабам, і перавод лепшай часткі нарыхтаванай жывёлы ў саўгасы і колгасныя фэрмы. Гэта крыніца слаба выкарыстоўваецца ў сувязі з адставаньнем значнай часткі раёнаў з выкананьнем плянаў жывёланарыхтовак, асабліва па дробнай жывёле (на 25/XI-31 г. квартальны плян нарыхтовак сьвіней па БССР выкананы толькі на 12,8 проц.). Трэба адзначыць, што ў сучасны момант, калі ўжо разгорнута шырокая сетка жывёлагадоўчых колгасаў і саўгасаў, гэта крыніца не зьяўляецца асноўнай, якой яна была да апошняга часу.

Другая крыніца — бязумоўнае абагульваньне другой і трэцяй каровы колгасьнікамі, згодна статуту с/г. арцелі. Гэта крыніца ў поўным аб'ёме таксама яшчэ ня выкарыстана, паколькі ў нас маецца некаторая частка колгасаў і колгасьнікаў, неабагуліўшых буйнай таварнапродукцыйнай жывёлы (Асіпавіцкі, Койданаўскі і Клічаўскі раёны).

Трэцяя крыніца — гэта саманарыхтоўкі жывёлы, асабліва сьвіней і птушак сярод колгасьнікаў, за лік крэдытаў, адпушчаных дзяржавай для комплектаваньня колгасных фэрм. Пры правільным падыходзе да організацыі нарыхтовак (куплі) у колгасьнікаў дробнай жывёлы можна дабіцца вялікіх вынікаў у справе комплектаваньня сьвінаводных і птушкаводных фэрм. Аб гэтым сьведчыць вопыт колгасу „Ясная раніца" Старобінскага раёну, які шляхам саманарыхтовак павялічыў колькасьць сьвіней на фэрме на 140 проц., давёўшы агульнае пагалоўе да 340 галоў. Нарыхтоўкі жывёлы сярод колгасьнікаў трэба праводзіць *выключна* на добраахвотных пачатках, папярэдне правёўшы шырокую растлумачальную работу, ні ў якой ступені *не дапускаючы* прымусу колгасьнікаў да продажу жывёлы і адміністрацыйнага абагульваньня.

Чацьвертая і *асноўная крыніца* — гэта павялічэньне статку колгасаў і саўгасаў *за лік уласнага прыплоду*. Лістападаўскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б у сваіх пастановах аб разьвіцьці соцыялістычнай жывёлагадоўлі „патрабуе ад усіх парторганізацый, земорганаў, саўгастрэстаў і колгаснай сыстэмы паставіць у цэнтры сваёй практычнай работы задачу формаваньня статку соцсэктару, асабліва за лік поўнага захаваньня і гадоўлі ўласнага прыплоду, што павінна зьявіцца *асноўнаю крыніцай* комплектаваньня". Пленум патрабаваў ад парторганізацый: *„дабіцца такога становішча, каб кожная партячэйка, кожны комуніст паасобку змагаліся за выкананьне плянаў жывёлагадоўлі так, як парторганізацыі перадавых прадпрыемстваў змагаюцца за прамфінплян"* і абавязаў парторганізацыі, земорганы, саўгастрэсты і колгасную сыстэму цалкам выканаць пляны комплектаваньня статку соцсэктару 1931 г.

## Барацьба за маладняк — барацьба за высокую таварнасьць соцыялістычнай жывёлагадоўлі

Формаваньне статку соцсэктару за лік уласнага прыплоду і задача падвышэньня таварнасьці жывёлагадоўлі з усёй вастратою ставяць пытаньне аб барацьбе *за максымальнае павялічэньне прыплоду,* за поўнае захаваньне і гадоўлю маладняка ўсіх відаў жывёлы, асабліва цялят і парасят. Барацьба за павялічэньне прыплоду ў першую чаргу павінна ісьці: па лініі *зьнішчэньня ялавасьці жывёлы,* асабліва кароў (10-15 проц.) і сьвінаматак (25-30 проц.), праз правільную організацыю злучных кампаній, разгортваньне злучных пунктаў праз організацыю штучнага апладненьня; па лініі *барацьбы з абортамі,* якія шырока распаўсюджаны сярод жывёлы і ў большасьці выпадкаў зьяўляюцца вынікам інфэкцыйных захворваньняў, а таксама па лініі палепшаньня якасьці маладняка шляхам *мэтызацыі* ўсяго пагалоўя кароў і сьвіней.

Аб недаацэнцы злучнай кампаніі ў нашых саўгасах і колгасах яскрава сьведчаць лічбы трэсту „Сьвінавод", па саўгасах якога за 1931 г. з ліку 28.490 сьвінаматак апарасілася толькі 13.220 сьвінаматак. Весткі аб ходзе злучнай кампаніі па саўгасах „Сьвінаводу" ў 4 квартале лішні раз даказваюць наяўнасьць гэтай недаацэнкі. Напрыклад, з ліку 24.443 сьвінаматак пакрыта толькі 9.142—37 проц. пляну. Значна горш абстаіць справа па Сьвінаводколгасцэнтру і Малакоколгасцэнтру, якія нават ня маюць належнага вучоту апаросаў і ацёлу і фактычна не займаюцца організацыяй злучных кампаній. Пленум ЦК і ЦК КП(б)Б прапанаваў „НКЗ, саўгастрэстам і Колгасцэнтру разгарнуць шырокую работу па зьнішчэньню ялавасьці, устанавіць цьвёрдую сетку злучных

пунктаў па БССР". Пленум падкрэсьліў, што *„правядзеньне злучнай кампаніі павінна быць такой-жа важнейшай і ўдарнай кампаніяй, як пасеўная і ўборачная"*.

Павялічэньне прыплоду само па сабе не вырашае, аднак, задачы падвышэньня таварнасьці і павялічэньня статку колгасаў і саўгасаў. У выніку слабай барацьбы з кулацкай агітацыяй з боку раду партарганізацый, а таксама ў сувязі з дрэнным доглядам і ўтрыманьнем жывёлы, адсутнасьцю санітарна-вэтэрынарных умоў у частцы раёнаў, у радзе колгасаў і саўгасаў маюць месца факты масавага ўбою маладняка і вялікі адыход (падзеж) парасят і сьвіней. Па Веткаўскаму раёну з ліку 12.000 цялят ацёлу 1931 г. засталося толькі 3.500 галоў. Па Ельскаму раёну з ліку законтрактаваных у гэтым годзе 1.042 цялят зьнята з контрактацыі толькі 54 штукі. У колгасе „Прыклад" (Ельскі раён) зарэзана 37 і здохла 20 цялят. У колгасе „Чырвоны Партызан" таго-ж раёну з 45 цялят зарэзана 19 і пала 6 галоў. Па саўгасах трэсту „Сьвінавод" у выніку дрэннага догляду за парасятамі, недапушчальна слабай работы па правядзеньню шырокіх профіляктычных мерапрыемстваў адыход парасят складае 38,4 проц. У той час, калі частка перадавых саўгасаў дабілася значнага зьніжэньня адыходаў (Сялецк-Гаўрыленка—7,5 проц., Веснава—12,6 проц., Цяцерына—13,5 проц.). Значная частка саўгасаў не разгарнула барацьбы за захаваньне апаросаў. Зусім нельга цярпець такога становішча, калі ў саўгасе „Сталіна" адыход парасят складае 69,4 проц., у саўгасе „Негарэлае"—58,5 проц., у саўгасе „Несята"—64,9 проц. У тым-жа саўгасе „Несята" ад чумы здохла 82 сьвіньні і зарэзана... 450 сьвіней. Маладняка перадохла 94 галавы і зарэзана 44, а парасят—1.556 штук.

Ёсьць „мастакі" права-опортуністычнага паходжаньня, якія прыкрываюць так званыя „адыходы" і „падзеж", разбазарваньне і сваю ўласную безгаспадарчасьць эпізоотыямі. Ва ўсім вінавата „чума". Аднак, лічбы вывучэньня прычын „адыходаў" парасят з усёй рашучасьцю пацьвярджаюць, што асноўнай прычынай „адыходу" зьяўляецца дрэнны догляд, безгаспадарчасьць і злачынныя адносіны да дзяржаўнай маемасьці ў саўгасах, ды і сама чума „продукт" безгаспадарчасьці, нядбайнасьці і безадказных адносін да ўтрыманьня і догляду за жывёлай. За час з 1-га верасьня 1931 г. па 10/XI-31 г. па саўгасах трэсту „Сьвінавод" адыход парасят ва ўзросьце да 2-х месяцаў выявіўся ў ліку 10.302 шт. у тым ліку здохла ад чумы 3.107 шт., па іншых прычынах—7.195 галоў. Гэта даведка рашуча выкрывае опортуністаў і злачынных нядбайнікаў, якія прыкрываюцца „эпізоотыямі". Парторганізацыі, земорганы, саўгастрэсты і колгасныя сыстэмы абавязаны пляны гадоўлі маладняка давесьці да кожнага саўгасу, колгасу, да кожнага сялянскага двара і забясьпечыць поўнае выкананьне гэтых плянаў, мобілізаваць рабочых саўгасаў, МТС, колгасьнікаў, беднякоў і серадняко-адзінаасобнікаў для руйнуючага адпору кулаку, які шалёна агітуе за зьнішчэньне маладняка. Парторганізацыі, у першую чаргу парт'ячэйкі і комуністы жывёлагадоўчых колгасаў і саўгасаў, павінны *абвясьціць бязьлітасную вайну нядбайнасьці, безадказнасьці і злачынным безгаспадарчым адносінам да дзяржаўнае і колгаснае жывёлы* і павесьці рашучую барацьбу за палепшаньне якасьці работы па догляду за жывёлай, цалкам *зьнішчыць* „адыходы" і „падзеж".

У выкананьні плянаў здачы малочнай і мясной таварнай продукцыі таксама маюцца буйныя прарывы. На 1/XII-31 г. пляны здачы таварнай продукцыі выкананы: па трэсту „Сьвінавод" — на 55 проц., па

Сьвінаводколгасцэнтру — на 27 проц, па Малакоколгасцэнтру — на 52,4 проц. Асноўныя прычыны гэтых прарываў — гэта адсутнасьць строгага вучоту выхаду таварнай продукцыі ў саўгасах і КТФ, адсутнасьць штодзеннага контролю за здачай таварнай продукцыі дзяржаве з боку саўгастрэстаў, колгасных цэнтраў і раённых організацый, што прывяло ў радзе саўгасаў і колгасаў да разбазарваньня мясной і малочнай продукцыі, да захаваньня часткі таварнай продукцыі ад дзяржавы. У саўгасе „Некрашы“ на працягу 3-х месяцаў зьедзена 6 буйных сьвіней і 36 шт. маладняка. У саўгасе „Насовічы“ зарэзана („па падазронасьці на чуму“) і зьедзена 86 сьвіней. У колгасе імя Варашылава (Асіпавіцкі раён) зарэзана і зьедзена 12 сьвіней. У колгасе „Пабудка“ (Асіпавіцкі раён) у верасьні месяцы г.г. па кнігах матэрыяльнага вучоту запрыходавана 35 фун. сьвіного мяса, а па раздатачных ведамасьцях лічыцца выданага колгасьнікам 7 пуд. 5 фун. мяса. Бараніны колгасьнікам выдана 23 фунты, у той час калі на прыход гэта бараніна зусім не запісана. Сала выдана колгасьнікам 4 п. 11 фун., а на прыходзе запісана толькі 3 п. 30 фун. Гэта ў той час, калі кожны колгасьнік мае сваю ўласную дробную жывёлу і па аднэй карове.

*Здача таварнай продукцыі дзяржаве зьяўляецца цэнтральнай задачай жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў.* Неабходна безадкладна ўстанавіць дасканальны вучот выхаду таварнай продукцыі і жорсткі контроль за здачай гэтай продукцыі дзяржаве. Парторганізацыі жывёлагадоўчых саўгасаў павінны ўлічыць вурокі „Саюзсахару“, Зернатрэсту і Белсаўгастрэсту, *рашуча выкрыць і нанесьці руйнуючы ўдар па малейшых праявах буржуазных тэндэнцый у жывёлагадоўчых саўгасах.* Партячэйкі і райпортарганізацыі ў цэлым павінны *праводзіць рашучую барацьбу з момантамі кулацкага ўплыву ў колгасах, з спажывецкімі і рвацкімі настроямі адсталай часткі колгасьнікаў.* Трэба рашуча зьнішчыць моманты разбазарваньня мясной і малочнай продукцыі і забясьпечыць поўнае выкананьне плянаў здачы таварнага мяса і малака дзяржаве. Паказчыкі выкананьня плянаў здачы (продажу) таварнай продукцыі дзяржаве павінны зьяўляцца паказчыкамі бальшавіцкай баяздольнасьці парт'ячэек жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў. Наркамзем і НКСнаб абавязаны ўпарадкававаць сыстэму збыту і рэалізацыі мясной і малочнай продукціі, скасаваўшы ўсе прамежна-перадатачныя зьвеньні, якія ўдаражаюць кошт гэтай продукцыі для рабочага спажыўца.

## Стымуляваць разьвіцьцё жывёлагадоўлі

Для стымуляваньня разьвіцьця социялістычнай жывёлагадоўлі, для павышэньня зацікаўленасьці колгасьнікаў у здачы (продажу) дзяржаве таварнай продукцыі пленум ЦК і ЦКК даручыў устанавіць для жывёлагадоўчых, асабліва сьвінаводных колгасаў, *рад дадатковых ільгот.* У прыватнасьці, пленум пастанавіў прыраўняць жывёлагадоўчыя колгасы ў прадастаўленьні ільгот да ільнаводных колгасаў. Прадастаўленьне ільгот жывёлагадоўчым колгасам павінны ісьці ў напрамку палепшаньня снабжэньня гэтых колгасаў прамтаварамі, першачарговага снабжэньня насеньнем кармовых культур і інш., прычым прадастаўленьне гэтых ільгот трэба *паставіць у залежнасьць* ад выкананьня колгасамі плянаў здачы таварнай продукцыі. Пленум даручыў СНК распрацаваць сыстэму прэміяваньня жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў за поўную здачу таварнай продукцыі і стварыць для гэтай мэты прэміяльны фонд у суме 500.000 руб.

## Стварыць моцную кармовую базу, забясьпечыць жывёлу цёплымі памяшканьнямі

Бальшавіцкая програма разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, устаноўленая ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б патрабуе стварэньня ў кароткі тэрмін моцнае кармовае базы, патрабуе карэннага палепшаньня якасьці кармоў.

Пашырэньне пасеваў і падвышэньне ўраджайнасьці кармовых культур (кармовыя травы, караняплоды, сілосныя культуры), організацыя штучных выпасаў, асабліва для сьвіней і цялят, правядзеньне мэліорацыйных і культуртэхнічных работ на забалочаных сенажацях, падвышэньне ўраджайнасьці сенажацяў, разгортваньне масавай вытворчасьці комбінаваных кармоў і падсьцілачных матэрыялаў, жорсткая эканомія кармовых рэсурсаў—вось асноўныя мерапрыемствы, якія не абходна правесьці ў кароткі тэрмін, для стварэньня моцнае базы высока-якасных кармоў. Для правядзеньня гэтых мерапрыемстваў у першую чаргу неабходна *мобілізаваць сродкі і сілы саміх саўгасаў і колгасаў.* Райпарторганізацыі, Насенаводколгассаюз і заморганы павінны ўжыць самыя энэргічныя меры *для выкананьня плянаў нарыхтовак насеньня кармовых культур, ад чаго будзе залежаць пашырэньне пасеўных плошчаў кармовых культур.*

Організацыя ўборкі сенажацяў, кармовых траў і караняплодаў на вялікіх плошчах патрабуе энэргічнага правядзеньня мерапрыемстваў *па мэханізацыі* гэтых работ. Таксама неабходна правесьці рад мерапрыемстваў па мэханізацыі асноўных процэсаў вытворчасьці непасрэдна на сьвінарніках і скотных дварох (падрыхтоўка і падача кармоў, падача вады і інш. работы). Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б абавязаў Экана распрацаваць конкрэтны плян мэханізацыі жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў на 1932 г. НКЗ і НКСнабу даручана пабудаваць у 1932 г. буйны мэханізаваны завод па вырабу комбінаваных кармоў ня менш, як на 50.000 тон у год і 30 комбікормачных заводаў у саўгасах і колгасах з вырабам да 180 тыс. тон комбікармоў. НКЗ, саўгастрэстам і колгасным сыстэмам неабходна зараз-жа разгарнуць энэргічную работу па мэханізацыі саўгасаў і колгасаў. Райпарторганізацыі і вясковыя ячэйкі павінны мобілізаваць унутраныя рэсурсы саўгасаў і колгасаў на правядзеньне гэтых мерапрыемстваў.

Плян будаўніцтва памяшканьняў для жывёлы на 1931 г. па трэсту „Сьвінавод" выкананы толькі на 65 проц. Яшчэ большае недавыкананьне плянаў будаўніцтва маецца па саўгасах былога Белсаўгастрэсту (на 1/XI-31 г. замест 114 кароўнікаў пабудавана толькі 18), Малакаколгасцэнтру і Сьвінаводколгасцэнтру. Якасьць будаўніцтва далёка нездавальняючая. Такое становішча пагражае вялікімі стратамі ў саўгасах і колгасах. Асноўная прычына прарываў у будаўніцтве — самацёк у рабоце, бюрократычная непаваротлівасьць будаўнічых організацый, саўгастрэстаў і колгаснай сыстэмы, няўменьне мобілізаваць рабочую сілу і мясцовыя рэсурсы. Такому становішчу трэба рашучым чынам палажыць канец. Ня гледзячы на пачатак зімы, неабходна максымальна ўзмацніць тэмпы будаўніцтва, палепшыць якасьць яго і патаніць каштоўнасьць, забясьпечыць выкананьне плянаў 1931 г. ў вызначаныя тэрміны і безадкладна прыступіць да разгортваньня будаўніцтва на 1932 г., ні ў якай ступені ня спыняючы будаўнічых работ у зімовы час. Пленум абавязаў Белсельбуд пашырыць сетку сваіх будвучасткаў з мэтаю найбольшага ахопу об'ектаў будаўніцтва. РК КП(б)Б неабходна

ўзяць будаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах пад свой непасрэдны нагляд.

## Зоотэхніку і вэтэрынарыю на службу соцыялістычнай жывёлагадоўлі

Задачы, пастаўленыя партыяй у галіне разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, патрабуюць шырокага прымяненьня ў практычнай рабоце жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў вопыту і практыкі здабытых зоотэхнікай і вэтэрынарнаю навукаю. Аднак, мы вымушаны адзначыць наяўнасьць фактаў ігнараваньня ў практычнай рабоце саўгасаў і колгасаў зоотэхнічных і вэтэрынарных правіл догляду за жывёлай, з аднаго боку, і *вялікую размычку* паміж размахам разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі і тэмпамі работы нашых навукова-дасьледчых жывёлагадоўчых і вэтэрынарных устаноў, з другога боку. Аб гэтым яскрава сьведчыць хаця-б той факт, што „вірус", які выклікае захворваньне чумой, да гэтага часу, проста кажучы, „ня злоўлены". Зоотэхніка і вэтэрынарная навука і практыка да гэтага часу яшчэ не далі дастаткова яснага адказу на такія актуальнейшыя пытаньні, як склад мінэральных кармоў для парасят, не ўстанавілі праверяных на вопыце мер барацьбы з паратыфусам парасят, з абортамі ў жывёлы, не распрацаваны ўсебакова на навуковых падставах рацыён кармоў для супаросных матак, маладняка і таварнага пагалоўя. Нават больш таго, навукова-дасьледчыя, жывёлагадоўчыя і вэтэрынарныя ўстановы не займаюцца як належыць вывучэньнем прычын адыходаў і падзяжу жывёлы і ня маюць дастаткова-абгрунтаваных матэрыялаў па гэтаму пытаньню. Зусім мала ўвагі аддаюць распрацоўцы профіляктычных мерапрыемстваў. Зоотэхніку і вэтэрынарыю трэба паставіць на службу соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Трэба рашуча павярнуць навукова-дасьледчыя ўстановы тварам да тых задач, якія пастаўлены партыяй у галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі. Трэба актывізаваць работу гэтых устаноў і згрупаваць іх увагу на распрацоўцы наступных актуальнейшых пытаньняў: мэтоды барацьбы з чумою і мэтодыка супроцьчумных прывівак, дыягностыка сьвіных інфэкцый, меры барацьбы з абортамі ў жывёлы, барацьба з паратыфусам і профіляктыка паратыфозных захворваньняў парасят, распрацоўка пытаньняў аб складзе мінэральных кармоў, распрацоўка і праверка дзейнасьці кармовых рацыёнаў для сьвіней і кароў, распрацоўка шырокіх санітарна-профіляктычных мерапрыемстваў. Неабходна мобілізаваць і падрыхтаваць зоотэхнічных і вэтэрынарных работнікаў для правядзеньня ў 1932 г. імунізацыі ўсяго сьвінога пагалоўя соцсэктару. Неабходна ўжыць рашучыя захады да хутчэйшага скančэньня Віцебскай фабрыкі па вырабу біопрэпаратаў.

## Падрыхтаваць кадры спэцыялістаў для жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў

Ступень забясьпечанасьці жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў кадрамі зоотэхнікаў, вэтурачоў і агрономаў зусім нездавальняючая. Забясьпечанасьць саўгасаў „Сьвінаводу" (без апарату трэсту) кадрамі спэцыялістаў характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | Патрэбна | Ёсьць | Недахоп |
|---|---|---|---|
| Зоотэхнікаў | 107 | 45 | 62 |
| Вэтурачоў | 93 | 48 | 45 |
| Вэтфэльчароў | 139 | 85 | 54 |
| Агрономаў | 91 | 20 | 71 |

Калі ўлічыць, што саўгасы „Сьвінаводу“ параўнаўча з саўгасамі другіх сыстэм і колгасамі лепш забясьпечаны кадрамі, дык цалкам можна ўявіць вастрату недахопу спэцыялістаў у жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б абавязаў НКЗ, саўгастрэсты і Колгасцэнтр цалкам выканаць праграму падрыхтоўкі кадраў спэцыялістаў для жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў, устаноўленую ў жнівеньскай пастанове ЦК КП(б)Б і СНК БССР. Асаблівую ўвагу НКЗ і трэст „Сьвінавод“ павінны зьвярнуць на палепшаньне становішча і якасьці работы Вэтэрынарнага і Сьвінаводнага інстытутаў, пабудаваўшы іх работу на вытворчай базе, чаго зараз нельга сказаць. Неабходна стварыць лепшыя ўмовы працы для Сьвінаводнага інстытуту, у прыватнасьці, забясьпечыць інстытут навучальнаю плошчаю (замест 7.958 квадратных мэтраў інстытуту прадастаўлена толькі 353 кв. мтр.) і жыльлёваю плошчаю, якой інстытут забясьпечаны толькі ў разьмеры 932 кв. мтр. замест 2.493. Неабходна правесьці максымальную перасоўку агро-зоо- і вэтэрынарных спэцыялістаў *з апаратаў непасрэдна ў саўгасы і колгасы,* павысіць адказнасьць спэцыялістаў за даручаемую ім работу і палепшыць іх матэрыяльна-бытавыя ўмовы (забесьпячэньне кватэрамі, палепшаньне снабжэньня, перавод на зьдзельна-прэміяльную сыстэму, ліквідацыя ўраўнілаўкі ў зарплаце і г. д.). У прыватнасьці, пленум даручыў разглядзець пытаньне аб павышэньні зарплаты спэцыялістаў, што працуюць непасрэдна на вытворчасьці.

## Шэсьць умоў тав. Сталіна — ключ да перамог на фронце соцыялістычнай жывёлагадоўлі

Найлепшым сродкам для поўнага выкананьня бальшавіцкай праграмы разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі, для забесьпячэньня выкананьня плянаў выхаду і здачы малочнай і мясной продукцыі зьяўляецца *рэалізацыя 6-ці ўмоў тав. Сталіна.*

Організаваць набор рабочай сілы для саўгасаў, увязаўшы гэтую работу з конкрэтнай дапамогай колгасам у справе організацыі працы. Замацаваць на сьвінарніках і скотных дварох у саўгасах і колгасах сталыя кадры рабочых і колгасьнікаў. Разгарнуць работу па мэханізацыі вытворчасьці жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў, шырока выкарыстаўшы для гэтай мэты рабочыя рацыяналізатарскія прапановы і вынаходніцтвы. Забясьпечыць найбольш эфэктыўнае скарыстаньне сродкаў, адпушчаных для мэханізацыі. Вылучыць сьвінароў, даільшчыц, скотнікаў і пастухоў як рашаючыя профэсіі і павялічыць аплату іх працы ў параўнаньні з другімі рабочымі і колгасьнікамі, што працуюць на падсобных работах і ў падсобных галінах гаспадаркі. Зьнішчыць ураўнілаўку ў зарплаце. Нельга цярпець такога становішча, калі тарыфная стаўка сьвінара ў сьвінаводным саўгасе (45 руб.) такая-ж як і паляводнага рабочага сярэдняй кваліфікацыі. Перавесьці работнікаў скотных двароў і сьвінарнікаў на прогрэсыўную зьдзельна-прэміяльную аплату працы. Абязьлічка, якую нельга цярпець на транспорце і ў прамысловасьці, ня можа быць цярпіма ў саўгасах і колгасах, асабліва ў жывёлагадоўчых. Неабходна безадкладна правесьці прымацаваньне сталых работнікаў да вядомых стойлаў у сьвінарніках і кароўніках.

Пляны выхаду прыплоду, малочнай і мясной таварнай продукцыі давесьці да кожнага кароўніка, сьвінарніка, да стойла і работніка. Безадкладна прыступіць да ўнядрэньня гаспадарчага разрахунку ў жы-

вёлагадоўчых саўгасах і КТФ. Шырока разгарнуць спаборніцтва і ўдарніцтва ў саўгасах і колгасах. Забясьпечыць поўнае выкананьне дырэктыў партыі аб арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньні колгасаў. Прыцягнуць спэцыялістаў да актыўнага ўдзелу ў гаспадарчым будаўніцтве. Зьнішчыць моманты спэцаедства, рашуча зьмяніць адносіны да старых кадраў спэцыялістаў. Шырока выкарыстаць навуковыя веды і практычны вопыт спэцыялістаў як у гаспадарчым будаўніцтве, так і ў справе арганізацыі тэхнічнай прапаганды сярод рабочых і колгасьнікаў праз арганізацыю сеткі вячэрніх школ, курсаў і гурткоў у саўгасах і колгасах. Арганізаваць у колгасах і саўгасах падрыхтоўку рабочых і колгасьнікаў да паступленьня ў жывёлагадоўчыя ВНУ і тэхнікумы. *„Важнейшай і абавязковай задачай усіх комуністаў, якія працуюць у галіне жывёлагадоўлі, зьяўляецца сапраўднае аўладаньне тэхнікай жывёлагадоўчай справы“.*

Партыйныя, гаспадарчыя і профсаюзныя арганізацыі жывёлагадоўчых саўгасаў, зэморганы, колгасная сыстэма і колгасныя ячэйкі павінны згрупаваць сваю ўвагу на ажыцьцяўленьні паказаных мерапрыемстваў, перабудаваць і падпарадкаваць сваю работу выкананьню 6-ці ўмоў тав. Сталіна і гэтым самым забясьпечыць перамогу на фронце соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

---

П. Пасюкевіч

# Роля комуніста на вытворчасьці

*(Удзел у соцспаборніцтве)*

Заклік XVI партконфэрэнцыі аб ажыцьцяўленьні ленінскай ідэі соцспаборніцтва ў сапраўднасьці стаў сталым мэтодам працы рабочае клясы ў барацьбе за паскораньне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. „Соцыялістычныя адносіны да працы заваёўваюць адну позыцыю за другой, перамагаюць дробнабуржуазную распушчанасьць і рвацкія настроі“ адсталых колаў рабочых.

Рабочая кляса БССР у сваёй штодзеннай барацьбе за ажыцьцяўленьне пяцігодкі прыняла рад вышэйшых форм соцспаборніцтва і ўдарніцтва (сустрэчны прамфінплян, скразныя ўдарныя брыгады, грамадзкі буксір, сустрэчна-зьменнае плянаваньне і інш.) і ў выніку высокай актыўнасьці і ініцыятывы рабочых мас, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, дасягнуты вялізарнейшыя посьпехі ў выкананьні пяцігодкі ня толькі ў 4 гады, але па цэламу раду перадавых прадпрыемстваў у больш кароткія тэрміны. За першае паўгодзьдзе 3-га рашаючага году па БССР прырост валавой продукцыі на 35 проц. вышэй, чым за гэты-ж пэрыод мінулага году.

Абсьледваньне з боку ЦКК КП(б)Б 14-ці буйнейшых прадпрыемстваў у БССР з пункту гледжаньня ўдзелу комуністаў у соцспаборніцтве і ўдарніцтве паказала, што комуністы на вытворчасьці ў асноўным знаходзяцца на перадавых позыцыях барацьбы за прамфінплян, паказваюць прыклады героічнай ударнай работы, зьяўляюцца перадавікамі рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, вядуць за сабой масы беспартыйных рабочых.

Пры агульным росьце ўсёй народнай гаспадаркі БССР мы на пасобных вучастках соцыялістычнага будаўніцтва БССР маем недавыкананьне програмы. Рад заводаў і фабрык БССР уступіў у другое паўгодзьдзе 3-га рашаючага году пяцігодкі з вялікай запазычанасьцю па прамфінпляну. Прычым праведзеная ЦКК КП(б)Б вышэйпаказаная праверка раду прадпрыемстваў паказвае, што там, дзе шырока разгорнута ўдарніцтва і соцспаборніцтва, дзе *комуністы ахоплены паўнасьцю і актыўна ўдзельнічаюць ва ўдарным руху,* там вытворчая програма пасьпяхова выконваецца і перавыконваецца.

Так, на скураным заводзе „Бальшавік“ у Менску мы маем такое становішча: ахоп соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам комуністаў—98,9 проц., комсамольцаў — 96,4 проц. і беспартыйных — 81,9 проц. (з агульнага ліку рабочых-комуністаў — 28,2 проц.). Мы тут маем значныя лічбы абсолютнага ахопу комуністаў, якія набліжаюцца амаль да пагалоў-

нага ахопу і комуністы ідуць уперадзе (як гэта і неабходна) астатніх рабочых.

А на радзе прадпрыемстваў г. г. Віцебску, Магілеву, Гомелю, Менску і інш., на якіх парторганізацыі ня сумелі стаць на чале растучага ўздыму творчай актыўнасьці мас, не ўцягнулі ўсіх комуністаў і комсамольцаў у соцспаборніцтва і ўдарніцтва, прамфінплян выконваецца абсолютна нездавальняючымі тэмпамі, маюцца сур'ёзьнейшыя прарывы, адставаньне.

Пастанова аб'яднанага пасяджэньня Бюро ЦК КП(б)Б і Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б аб становішчы і рабоце Віцебскай парторганізацыі адзначае:

„Аднэй з асноўных прычын невыкананьня *прамфінпляну* (падкрэсьлена ў рэзолюцыі) зьяўляецца зусім нездавальняючае разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва (на 8 буйнейшых прадпрыемствах з колькасьцю 13.899 ч. соцспаборніцтвам ахоплена толькі 52,6 проц.). Асабліва недапушчальным зьяўляецца тое, што толькі 56 проц. комуністаў і 45 проц. комсамольцаў ахоплены соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам“.

На Барысаўскім заводзе „Комінтэрн“ прамфінплян на май месяц 1931 г. быў выкананы на 70 проц. Удзельнічала-ж комуністаў ва ўдарніцкім руху 75 проц., прычым выяўлена каля 7,5 проц. ілжэўдарнікаў.

Магілеўскі скурзавод за 2 месяцы II-га кварталу выканаў 56 проц. пляну, хаця комуністы ўсе формальна ўдзельнічалі у соцспаборніцтве, аднак, брыгада пры праверцы ў сваіх вывадах павінна была запісаць: „З боку паасобных партыйцаў выяўлены факты, якія ня могуць служыць прыкладамі соцспаборніцтва і ўдарнай працы“.

Партколегія ЦКК КП(б)Б адзначае яўна нездавальняючы ўдзел комуністаў і комсамольцаў у соцспаборніцтве і ўдарніцтве на такіх прадпрыемствах, як: ф-ка „Дзьвіна“—49 проц., „Лекерта“—44 проц., „Красное Возрождение“—Магілеў—42 проц. і інш.

Асноўнымі прычынамі такіх адмоўных фактаў зьяўляецца адсутнасьць сыстэматычнай выхавальнай работы з боку фабрычна-заводзкіх ячэек, партколектываў і парткомаў у напрамку штодзеннай мобілізацыі ўвагі ўсіх партыйцаў, комсамольцаў і рабочых на выкананьне вытворчых задач данай фабрыкі і заводу, на аднаўленьне імі руху соцспаборніцтва і ўдарніцтва і сыстэматычнай праверкі выкананьня кожным комуністам сваіх абавязкаў.

Вялізарным недахопам у гэтых адносінах трэба прызнаць адсутнасьць сыстэматычнага кіраўніцтва і ўліку ўсёй гэтай работы з боку партячэек і колектываў, штодзеннай зацікаўленасьці ў гэтым пытаньні і опэрацыйнага кіраўніцтва. Звычайна фіксуецца ўвага на недахопах толькі ў дні якіх-небудзь сьвят і кампаній.

Пры абсьледваньні часта натыкаліся на факты, калі падтячэйка не магла даць агульнай лічбы ўдзелу комуністаў у соцспаброрніцтве і хто абвешчаны соцударнікам, не гаворачы ўжо аб тым, што партячэйка павінна весьці і якасны вучот работы комуністаў (удзел у вытворчых нарадах, прагулы, брак, спагнаньні за парушэньне працдысцыпліны, унясеньне рацыяналізатарскіх прапаноў і г. д.). Так, напрыклад, на такім буйным прадпрыемстве, як абутковая ф-ка ў Менску, партколектыў зусім не вядзе ніякага вучоту ўсёй гэтай работы. І тут справа не ў якой-небудзь тэхнічнай пастаноўцы. Адсутнічаньне гэтага вучоту не дало магчымасьці Бюро ячэйкі мобілізаваць увесь партколектыў на барацьбу за выкананьне прамфінпляну, які на працягу ўсяго часу па важнейшых паказальніках зьяўляецца ня выкананым. За 9 ме-

сяцаў 1931 г. вытворчы плян выкананы на 75,6 проц. Сабекошт замест зьніжэньня па заданьню на 7,2 проц. павышаецца на 1,6 проц Прагулы па няўважлівых прычынах дасягаюць 0,51 проц. Якасьць продукцыі значна панізілася і г. д. А комуністы на ф-цы не стаяць па ўсіх гэтых пытаньнях на перадавых позыцыях, удзел іх у соцспаборніцтве ня выяўлены, бюро партколектыву сыстэматычна гэтым не займалася. Т. т. на куставым партсходзе, прысьвечаным гэтаму пытаньню ў парадку жорсткай крытыкі, прызнавалі свае недахопы і гэта можа служыць залогам таго, што абноўленае кіраўніцтва на заводзе (а ранейшае было зьнята за правал работы) возьмецца, як сьлед, пабальшавіцку за ліквідацыю адзначаных недахопаў.

Таксама недапушчальным на радзе прадпрыемстваў зьяўляецца слабы ўдзел комуністаў у рабоце вытворчых нарад і рацыяналізацыі вытворчасьці (на Магілеўскіх прадпрыемствах — скурзавод імя „Сталіна“ і „Красное Возрождение“ комуністы ня ўнесьлі ніводнай рацыяналізатарскай прапановы). На швэйнай ф-цы (Магілеў) прымаюць удзел у вытворчых нарадах толькі комуністы-гаспадарнікі, а радавыя партыйцы адсутнічаюць. Барысаўская РКК, праводзіўшая асьледваньне на 3-х буйнейшых прадпрыемствах, робіць вывад, што: „у рабоце вытворчых нарад комуністы па ўсіх абсьледваных прадпрыемствах удзельнічаюць слаба“.

Есьць, бязумоўна, прыклады і іншага парадку. На заводзе „Бальшавік“ комуністы ўдзельнічаюць у колькасьці 36 проц., а беспартыйныя 13,4 проц. ад агульнага ліку іх на вытворчасьці. Рацыяналізатарскіх прапаноў, вынесеных на заводзе, падае на партыйцаў 50 проц.

На Гомельскім заводзе „Пролетары“ з 49 вынаходніцтваў — 11 унесены комуністамі.

Як адзін з агульных недахопаў, які датычыцца ўсіх прадрыемстваў, трэба адзначыць слабасьць працы па організацыйнаму замацаваньню гаспадарча-разьліковых брыгад. У гэтых адносінах пастанова УсеЦСПС і ВСНГ СССР аб гаспадарча-разьліковых брыгадах выканана слаба, між тым: „гаспадарча-разьліковай брыгадай заканчваецца вядомы пэрыод шуканьняў організацыйнай формы ўдарніцтва, найбольш адказваючай чарговым задачам соцыялістычнай прамысловасьці“ („Правда“).

Сапраўды задачы, пастаўленыя тав. Сталіным, практычна вырашаюцца гаспадарча-разьліковай брыгадай. Правільна організаваная і працуючая брыгада дасягае значных вынікаў як у колькасных, так і ў якасных адносінах. Умовы, якіх мы дабіваемся ўвесь час — давядзеньне пляну да кожнага рабочага, устанаўленьне дасканалых норм расходваньня сыравіны, зьдзельная аплата, прэміяваньне за рацыяналізатарскія мерапрыемствы — усё гэта становіцца пры пераходзе на гаспадарча-разьліковую брыгаду неабходнай часткай яе існаваньня і працы. Акрамя гэтага, брыгады організуюцца з рабочых, якія па сваёй кваліфікацыі ў найбольшай меры адпавядаюць тэхнолёгічнаму процэсу. З абсьледуемых прадпрыемстваў толькі на заводзе „Бальшавік“ мы мелі значны вопыт працы гаспадарча-разьліковых брыгад. На дзень абсьледваньня на заводзе існавала 12 брыгад з ахопам 35 проц. усіх рабочых заводу. Эфэктыўнасьць працы брыгад узьняла такі энтузіязм сярод рабочых, што зараз рабочыя з астатніх цэхаў, якія яшчэ не ахоплены брыгадамі, падаюць заявы, выказваюць жаданьне організавацца ў брыгады. Акрамя гэтага, брыгады паслужылі добрым стымулам і штуршком дзеля зьмена-сустрэчных плянаў. Брыгада, прыступаючы да работы ў зьмену, за 10 хвілін да працы абга-

зарвае заданьне адміністрацыі і высоўвае зьмена-сустрэчны плян. Пасьля працоўнага дня зноў склікаецца нарада брыгады і падводзяцца вынікі праробленай працы за зьмену. Ва ўсёй гэтай працы кожны комуніст і партколектыў у цэлым зьяўляецца ініцыятарам, і свае вытворчыя заданьні выконвае сапраўды па-ўдарнаму. Дзякуючы гэтаму мы маем па заводу ня толькі выкананьне, а і перавыкананьне прамфінпляну і другіх вытворчых паказчыкаў. За 9 м-цаў 1931 г. плян выкананы на 104,7 проц. Зьніжэньне сабекошту на 8,3 проц., а заданьне было на 4,2 проц. Значна павышана якасьць продукцыі.

Многія прадпрыемствы не ўсьвядомілі сабе значэньня гаспадарчаразьліковых брыгад, слаба прапрацавалі і асабліва слаба на практыцы прымянілі пастанову УсеЦСПС і Прэзыдыуму ВСНГ СССР („Правда" ад 12/IX-31 г.) аб гэтых брыгадах.

Між іншым і матэрыяльная зацікаўленасьць рабочых павінна паслужыць некаторым стымулам да організацыі брыгад, і гэты момант недастаткова падкрэсьліваецца пры разглядзе гэтага пытаньня. На падставе экономіі, якая дасягаецца брыгадай правільна організаванай працай, вылічваецца прэмія, якую атрымоўвае брыгада і якая (прэмія) дасягае ад 20 да 60 проц. экономіі, што падрабязна фіксуецца ў дагаворы з адміністрацыяй.

Неабходна, каб трыкутнік на прадпрыемстве ўсьвядоміў, што „гаспадарча-разьліковая брыгада, якая організуе працу на падставе ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, становіцца і павінна стаць асноўнай формай соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва" („Правда") і ў гэтым напрамку павёў адпаведную працу.

Усе гэтыя факты красамоўна сьведчаць аб тым, што пастанова ЦК УсеКП(б) „дабіцца ў самы кароткі тэрмін ажыцьцяўленьня дырэктыў XVI зьезду партыі аб пагалоўным удзеле комуністаў і комсамольцаў у соцспаборніцтве і ўдарніцтве" ў значнай меры да гэтай пары ня выканана.

На аснове матэрыялаў абсьледваньня Прэзыдыум і Партколегія ЦКК КП(б)Б прынялі адпаведнае рашэньне, папераджаючае комуністаў, што іх партыйнасьць будзе расцэньвацца ў залежнасьці ад таго, наколькі кожны комуніст прымае актыўны ўдзел у соцыялістычных формах працы, наколькі ён праяўляе вялізарную настойлівасьць і дысцыплінавасьць па выкананьню баявых заданьняў партыі і стаіць на чале актыўнасьці рабочых мас.

Асабліва прышлося зафіксаваць, што зусім зьяўляецца недапушчальным—гэта ўскрытыя ў процэсе праверкі паасобныя факты ілжэўдарніцтва сярод партыйцаў, „што зьяўляецца несумясьцімым з званьнем комуніста" (з пастан.)

Так, на заводзе „Комінтэрн" (Барысаў), акрамя таго, што партыйцы наогул слаба ўдзельнічаюць у соцспаборніцтве (70 проц. усіх комуністаў), але ў ліку гэтых выяўлена 7,5 проц. ілжэўдарнікаў. На гэтым-жа заводзе мелася 8 выпадкаў, калі комуністы замест таго, каб заклікаць шырокія масы рабочых на ўдарныя тэмпы работы і асабіста паказваць прыкладнасьць паводзін на прадпрыемстве, самі падтрымлівалі рвацкія і хвасцісцкія настроі.

На скурзаводзе ў Магілеве комуністы ахоплены ўдарніцтвам як-быццам на 100 проц., таксама высокі процант ахопу і беспартыйных рабочых, а прамфінплян выконваецца толькі на 56 проц. Гэта вынік формальнага соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Брыгада, праводзіўшая абсьледваньне на гэтым заводзе, пагэтаму піша: „выяўлены рад фактаў зусім не соцыялістычных прыкладаў працы і простага адлыньваньня".

У матальным цэху на шоўкавай ф-цы партыйцы прынялі замест прапанаваных па пляну 300 маткоў — 280, а фактычна без асаблівага напружаньня выконваюць 330 маткоў.

Усе гэтыя факты нельга іначай расцэньваць, як праяўленьне опортунізму да справы соцспаборніцтва, як формы па ўцягненьню ўсіх рабочых, а ў першую чаргу комуністаў у соцыялістычнае будаўніцтва.

Прэзыдыум і Партколегія ЦКК прапанавалі ўсім парторганізацыям, райкомам і РКК, ячэйкам дабіцца ў самы кароткі тэрмін ажыцьцяўленьня дырэктыў XVI зьезду партыі аб пагалоўным удзеле комуністаў і комсамольцаў у соцспаборніцтве і ўдарніцтве. Неабходна, каб комуністы на вытворчасьці не абмяжоўваліся толькі ўдзелам ва ўдарных брыгадах, а былі організатарамі ўдарных брыгад, застрэльшчыкамі сустрэчных плянаў і рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў на вытворчасьці, перадавымі ва ўсім грамадзкім жыцьці прадпрыемстваў, вярбоўшчыкамі перадавых рабочых-ударнікаў у партыю.

Зьвернута асаблівая ўвага РК, РКК, партячэек на тое, каб яны пры перабудове сваёй працы па-новаму ня толькі займаліся констатаваньнем маючых месца прарываў на вытворчасьці (прагулы, брак, зьніжэньне якасьці, невыкананьне прамфінпляну) і прыняцьцем тых ці іншых рэпрэсыўных мер, а штодзенна мобілізавалі і стаялі на чале шырокіх мас партыйцаў і беспартыйных рабочых на ліквідацыю абязьлічкі, поўную рэалізацыю прапаноў т. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў, не дапускаючы прарываў на вытворчасьці, расхлябанасьці і ўвільваньня членаў партыі ад баявых заданьняў.

Партколегія ЦКК прапануе РК, ГК, РайКК і ГорКК у хутчэйшы тэрмін прыняць рашучыя меры па ажыцьцяўленьню рашэньняў партыі аб пагалоўным удзеле комуністаў і комсамольцаў у соцспаборніцтве і ўдарніцтве.

Матэрыялы абсьледваньня і рашэньні ЦКК КП(б)Б былі шырока прапрацаваны ня толькі на прадпрыемствах, якія абсьледваліся, але і ў г. Менску былі прапрацаваны на ўсіх адчыненых партыйных сходах вытворчых ячэек.

Работа з ударнікамі павінна стаць у цэнтры ўвагі фабрычна-заводзкіх партыйных організацый, толькі абапіраючыся на якія і падцягваючы да іх узроўню ўсіх астатніх рабочых — гэтым самым забясьпечыць выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

Аднэй з задач работы з ударнікамі — павышэньне іх тэхнічнага ўзроўню. „Ауладаньне тэхнікай сваіх станкоў і агрэгатаў для поўнага і лепшага іх скарыстаньня, асваеньне перадавой тэхнікай павінна стаць важнейшым паказчыкам соцспаборніцтва і справай гонару кожнага ўдарніка“. Разам з тым, трэба шырока скарыстаць для сапраўды бальшавіцкага выхаваньня комуністаў з вытворчасьці і беспартыйнага рабочага актыву сетку партасьветы, рашуча павярнуўшы яе тварам да прамфінпляну і ўдарнаму руху.

Матэрыял паказвае, што партыйцы на некаторых прадпрыемствах недастаткова ўдзяляюць увагі падвышэньню сваіх тэхнічных ведаў і падняцьцю сваёй кваліфікацыі. А каб па-сапраўднаму кіраваць вытворчасьцю, трэба ведаць яе ва ўсіх дэталях, неабходна для кожнага комуніста конкрэтнае вытворчае заданьне. У гэтых адносінах ячэйкі павінны перабудаваць сваю працу і падцягваць партыйцаў, каб яны павышалі сваю кваліфікацыю, набывалі тэхнічныя веды, увязваючы гэта з марксыцка-ленінскай тэорыяй.

Задачы 3-га рашаючага году патрабуюць ад раённых і фабрычна-заводзкіх парторганізацый рашучай перабудовы ўсёй сваёй работы, прыстасоўваючы яе да новай абстаноўкі гаспадарчага будаўніцтва і найбольшага опэрацыйнага кіраўніцтва соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам, ацэньваючы кожнага комуніста і комсамольца па яго ролі ў вытворчасьці і сапраўдным удзеле ў соцыялістычных формах працы, бязьлітасна выкрываючы опортуністаў і шкурнікаў, якія тармозяць разгортваньне соцыялістычных форм працы.



Л. Левін і Г. Гершман

# Масы сталі галоўнай дзейнай сілай у рабоце КК-РСІ

У ажыцьцяўленьне гіганцкіх задач разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце, у змаганьні супроць правых—галоўнай небясьпекі — і „левых" опортуністаў — агентуры клясавага ворага ў партыі і дзяржапараце, у мобілізацыі мас на змаганьне з бюрократызмам, шкодніцтвам, на паскарэньне тэмпаў індустрыялізацыі краіны—органы КК-РСІ адыгрывалі і адыгрываюць вялізарную ролю.

Ленінскі рабкрын, ажыцьцяўляючы сабою партыйны і дзяржаўны контроль, апіраючыся на ўзросшую актыўнасьць рабочых і працоўных мас, праводзіць вялізарнейшую работу на радзе важнейшых вучасткаў соцыялістычнай гаспадаркі і культуры, дапамагаючы партыі і рабочай клясе пасьпяхова выконваць пяцігодку ў чатыры гады.

Т. Ленін, гаворачы аб рэорганізацыі рабкрыну з усёй выразнасьцю падкрэсьліў, „каб усю працоўную масу мужчын і жанчын асабліва, правесьці праз удзел у рабоча-сялянскай інспэкцыі," г. зн. быць „інспэкцыяй рабочых і сялян", узьняць ролю КК-РСІ як арганізатара рабочых і працоўных мас, ажыцьцяўляючы „пераход да таго, каб усе выконвалі функцыі контролю і нагляду, каб усе на час ставіліся „бюрократамі", каб таму ніхто ня мог стаць бюрократам" (Ленін).

Неабходныя ўмовы для рэалізацыі гэтага гістарычнага ўказаньня Уладзіміра Ільліча створаны рашаючымі посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва, якія выклікалі бурны рост грамадзка-палітычнай актыўнасьці рабочай клясы і шырокіх працоўных мас на правядзеньне генэральнай лініі партыі. Ад органаў КК-РСІ зараз, як ніколі, патрабуецца такое ўзмацненьне і палепшаньне мэтодаў масавай організатарскай работы, каб яна адпавядала тэмпам і росту актыўнасьці працоўных мас.

Перажываемы намі новы этап соцыялістычнага будаўніцтва, уступленьне СССР у пэрыод соцыялізму, абвастрэньне клясавай барацьбы на глебе правадзімага разгорнутага наступу на рэшткі капіталізму, напружаная ўдарная работа ўсёй рабочай клясы па завяршэньню пабудовы фундаманту соцыялізму—усе гэтыя новыя ўмовы, новай абстаноўкі—высоўваюць новыя павышаныя патрабаваньні да ўсёй работы органаў КК-РСІ, у першую чаргу да яе масавай работы.

**У чым гэта новае?**

Новае раней за ўсё ў нябывалым росьце палітычнай актыўнасьці і творчай ініцыятывы рабочых мас, стаць на чале якой, скарыстаць

і накіраваць па неабходнаму шляху павінны органы КК - СРІ, як арганізатары працоўных мас.

Новае ў пашырэньні і ўскладненьні ролі КК - РСІ, выходзячы з рашэньняў апошняга пленуму ЦКК УсеКП(б), калі органы КК - РСІ павінны несьці поўную адказнасьць побач з гаспадарнікам за кожны правал і прарыў, аб якім яны не сыгналізавалі.

Новае ў тым, што рабкрын стаў на практыцы важнейшай школай навучаньня шырачэйшых мас працоўных справе кіраўніцтве дзяржавай.

Усе гэтыя моманты патрабуюць карэннай перабудовы і паляпшаньня арганізацыйна-масавай работы органаў КК-РСІ.

Зусім правільна ЦКК КП(б)Б у сваіх апошніх пастановах падкрэсьлівае, што ацэнка дзейнасьці гарадзкой і раённай КК-РСІ будзе давацца па ступені разгортваньня імі масавай работы.

„Пераход да разгорнутага наступленьня на бюрократызм, які тармозіць тэмпы нашага разьвіцьця“ (з пастаноў XVI зьезду УсеКП(б)) патрабуе ад органаў КК - РСІ набліжэньня да таго тыпу арганізацыі „інспэкцыі рабочых і сялян“, пад кіраўніцтвам якой павінны працаваць атрады больш праверанных пролетараў, якія карыстаюцца давер‘ем усёй масы працоўных і ажыцьцяўляюць контроль пагалоўна на ўсіх вучастках соцыялістычнай будоўлі. Указаньне т. Леніна аб тым, што „у савецкай дзяржаве чыноўніцтва будзе ўсё больш і больш адміраць замяняючыся самадзейнасьцю мас“, павінна быць першым чынам прыстасавана да самой РСІ, г. зн., што ў рабоце РСІ галоўнай дзейнай сілай павінна быць сама маса. Асаблівасьці рэконструкцыйнага пэрыоду заключаюцца іменна ў тым, што за справу контролю і праверкі ўзяліся самі рабочыя масы.

ЦКК-РСІ Беларусі і яе органы на мясцох дасягнулі, як і ўвесь ленінскі рабкрын, значных посьпехаў у разгортваньні масавай работы. Уся абсьледвацельская і контрольна-плянавая работа праходзіць пры шырокім удзеле рабочых, колгасьнікаў, спэцыялістаў. Актыў ударнікаў РСІ няўхільна расьце з кожным днём праз усё пашыраючуюся сетку нізавых зьвеньняў, напрыклад: сэкцыі РСІ пры саветах, групы садзейнічаньня, атрады „ЛК“, рабочых засядацеляў, пазаштатных інспэктароў і г. д.

Калі за 1929/30 г. у абсьледвацельскай рабоце ЦКК - РСІ ўсяго прымала ўдзел 1.590 чал. рабочых, дык у 1930/31 г. гэта лічба павялічваецца да 14.535 чал. Прычым гэты ўдзел быў асабліва значным у правядзеньні некаторых найбольш актуальных народна-гаспадарчых масавых тэм і кампаній.

Так, напр., праверку якасьці продукцыі (пытаньне, якое дагэтуль распрацоўвалася габінэтным парадкам у ВСНГ) ЦКК - РСІ правяла з прыцягненьнем самай шырокай пролетарскай грамадзкасьці. Ва ўсе буйнейшыя гарады і прамысловыя цэнтры былі пасланы ўпаўнаважаныя НК РСІ. Пры ўсіх гарпрофсаветах былі арганізаваны штабы па якасьці продукцыі. На ўсіх прадпрыемствах, вызначаных да праверкі (46), былі абраны на сходах брыгады па якасьці, якія папаўняліся за лік дабраахвотнікаў (Гомель, швэйная ф-ка 58 чал.). Усяго, такім чынам, прымала ўдзел у праверцы па БССР 36 брыгад з колькасьцю рабочых у 615 чал. Вынікі гэтай работы былі на 32-х прадпрыемствах абгавораны на вытворчых нарадах, а ў Віцебску і Бабруйску на куставых сходах рабочых аднэй галіны прамысловасьці. У Менску на абутковай ф-цы быў арганізаваны абоз браку з паказаньнем конкрэтных віноўнікаў, абоз абышоў усе цэхі ф-кі.

Другой найбольш масавай работай у рабоце ЦКК-РСІ зьявілася праверка і чыстка апарату Дзяржпляну. Акрамя сталага шэфа Дзяржпляну — рабочых друкарні імя Сталіна — да праверкі і чысткі паасобных сэктароў былі прыцягнуты рабочыя і спэцыялісты тых прадпрыемстваў, якія найбольш зьвязаны і знаёмы з данай галіной гаспадаркі. Так, напрыклад, правільнасьць плянаваньня мэталяпрамысловасьці правяралі рабочыя заводу „Комунар". Рабочыя заводу „Бальшавік" правяралі сэкцыю скурна-абутковай прамысловасьці. Па такому-ж прынцыпу былі прыцягнуты і студэнты і навуковыя працаўнікі з ВНУ. Так, студэнты шклянога аддзяленьня хэмічнага факультэту правяралі плянаваньне шкляной прамысловасьці. Саюз будаўнікоў узяў на сабе праверку сэктару будаўніцтва, а саюз транспортнікаў — транспортнай сэкцыі, прычым на пэрсанальную чыстку работнікаў транспортнай сэкцыі зьявіліся ўсе ўдзельнікі Ўсебеларускага зьезду транспортнікаў, які адбываўся ў той час у Менску. Усё гэта забясьпечыла найбольш глыбокі падыход пры чыстцы Дзяржпляну. Комсамол і „Лёгкая кавалерыя" самастойна праверылі сэктары: контролю выкананьня і падрыхтоўкі кадраў. Пэрсональная чыстка па гэтых сэктарох была праведзена на агульна-гарадзкім сходзе „ЛК", дзе была організавана выстаўка нявыкананых рашэньняў партыі і ўраду.

Усяго, такім чынам, непасрэдна ў рабоце па чыстцы Дзяржпляну прымала ўдзел 120 рабочых і 150 навуковых працаўнікоў і спэцыялістаў.

У жніўні месяцы 1931 г. ЦКК-РСІ супольна з ЦСПСБ і газэтай „Рабочий" правяла грамадзкі масавы агляд становішча шэфства над дзяржапаратам, масавай работы саветаў і разгортваньня соцсумясьціцельства. У гэтай рабоце прынялі ўдзел 96 брыгад, г. зн. звыш 400 чал. рабочых і рабкораў, вылучаных фабрыкамі, заводамі і газэтамі для абсьледваньня і наладжваньня масавай работы. У выніку гэтай работы за 2 месяцы па БССР было абрана на масавых сходах рабочых каля 500 соцнамесьнікаў, значная частка якіх ужо практычна прыступіла да работы. Ня гледзячы на гэтую работу, якая дала некаторы зрух, ўсё-ж справа па наладжваньню шэфства рабочых над савецкім апаратам да гэтага часу яшчэ разгорнута зусім недастаткова, і дырэктывы партыі па гэтаму пытаньню на мясцох ня выконваецца.

У рабоце сэкцыі РСІ пры гарсаветах за апошні час маюцца значныя дасягненьні ў параўнаньні з мінулым. Як на прыклад можна паказаць сэкцыю РСІ пры Гомельскім савеце, якая налічвае 42 дэпутаты і каля 200 рабочых актывістаў, склад сэкцыі — 70 проц. рабочых, 45 проц. комуністаў. Сэкцыя правяла рад істотных абсьледваньняў, напрыклад: падрыхтоўка да будаўнічага сэзону, праверка падрыхтодкі кадраў для прамысловасьці, дапамога ў рэалізацыі пазыкі (актыў сэкцыі падпісаўся на 150 проц. заробку). У выніку налёту на комгас, вадасьвет, ЦРК сэкцыя дабілася зьняцьця з працы 6 чалавек і аддачы пад суд 2 чалавек. Самае каштоўнае ў сэкцыі тое, што яна контактуе ўсю сваю работу з Бюро скаргаў пры ГКК-РСІ, а таксама прыцягвае іншыя сэкцыі да праверкі выкананьня.

У Магілеве пры праверцы масавай работы саветаў сэкцыя РСІ аказалася найбольш працаздольнай. Яна організавала масавую праверку соцумоў паміж прадпрыемствамі, абсьледвала становішча сталовак, выкананьне прамфінпляну.

Па сэкцыі РСІ пры с/саветах справа дагэтуль абстаіць значна горш; па даных 20 раёнаў на 1/VII-31 г. організавана 253 сэкцыі РСІ, вкія налічваюць 2.931 чал., прычым у 43 найбольш масавыя сэкцыі

ўваходзіць 1.255 чал. За апошнія 4 месяцы сэкцыі таксама значна выраслі. Так, напр., зробленай праверкай па с/саветах Буда-Кашалеўскага раёну ўстаноўлена, што за 3 месяцы сэкцыі выраслі на 34 проц. (з 103 да 137), што съведчыць аб іх працаздольнасьці. За 3 месяцы па 5 сэкцыях разгледжана 75 заяў, з якіх 45 далі станоўчыя вынікі.

Падрабязных матэрыялаў па ўсіх раёнах аб соцскладзе сэкцый не атрымана, але-ж даныя, якія маюцца па 5-ці раёнах, паказваюць соцсклад актыву сэкцый пры с/саветах у наступным выглядзе:

| Р А Ё Н. | Рабоч. | Колг. | Бедн. серад. | Служ. | На-стаўн. | Ін-шых. | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рагачэў . . . | 10 | 49 | 30 | 23 | — | 5 | 117 |
| Асьвея . . . . | 6 | 65 | 46 | 6 | — | — | 123 |
| Багушэўск . . . . | 3 | 38 | 27 | 11 | — | — | 79 |
| Петрыкаў . . . . | 10 | 66 | 79 | 12 | 24 | — | 191 |
| Буда-Кашалёва . . . | — | 70 | 37 | 5 | 25 | — | 137 |
| Разам . . | 29<br>4% | 288<br>45% | 219<br>33% | 57<br>9% | 49<br>8% | 5<br>1% | 647 |

У тых раёнах, дзе з боку РКК-РСІ на работу сэкцый ня было зьвернута дастатковай увагі, там яны да гэтага часу знаходзяцца ў заняпадзе, а ў некаторых выпадках проста скажаецца самы прынцып іх работы. Так, напр., Асарэвіцкая сэкцыя (Камарынскі раён) вынесла вымову прэзыдыуму свайго с/савету. Чакалаўская сэкцыя адмяніла пастанову прэзыдыуму. Талачынская РКК-РСІ сама констатуе: „Работа і кіраўніцтва работай сэкцыі пастаўлена з рук вон дрэнна". Неабходна ў бліжэйшы час дабіцца карэннага пералому ў бок палепшаньня масавай работы сэкцый РСІ, аказаўшы ім практычную дапамогу з тым, каб яны сапраўды сталі апорай РКК-РСІ ў масах.

Групы садзейнічаньня РСІ, за выключэньнем паасобных раёнаў, да апошняга часу адсутнічалі, і толькі ў апошні час разгарнулася масавая работа па гэтай лініі. Усяго па даных 34 раёнаў створана да 419 груп садзейнічаньня на прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах. Вопыт работы груп, якія маецца па Магілеўскаму, Менскаму, Буда-Кашалеўскаму раёнах, паказвае, што пры належнай увазе яны цалкам сябе апраўдваюць і зьяўляюцца найлепшымі праваднікамі контролю зьнізу і „вачыма" рабоча-сялянскай інспэкцыі.

Па лініі Бюро скаргаў ЦКК-НК РСІ маецца 224 чалавекі сталага актыву, які сыстэматычна прымае ўдзел у рабоце БС і на якіх маюцца складзеныя анкеты. Таксама маецца 232 чал. рабочых засядацеляў, якія абраны на прадпрыемствах.

У налётах і рэйдах, праведзеных БС з 1/І па 1/Х-31 г., усяго прымала ўдзел 123 брыгады ці 4.613 чал. Было склікана 29 нарад паасобных атрадаў „ЛК", на якіх удзельнічала 820 чал. Усяго пры БС лічыцца 48 атрадаў „ЛК" з колькасьцю 438 чал., з якіх 135 жанчын.

Бюро скаргаў у РКК-РСІ былі створаны толькі ў канцы 1930 і пачатку 1931 г. Але-ж ня гледзячы на гэта, рад з іх ужо дасягнулі значных вынікаў у сваёй дзейнасьці. Кармянская РКК зрабіла рад масавых рэйдаў у с/саветы, колгасы з удзелам рабочых засядацеляў, разглядзела шмат пытаньняў, якія зацікавілі масу колгасьнікаў і бедната. Мазырскае БС праводзіць сваю работу масавым парадкам, на адчыненых пасяджэньнях прысутнічае да 300 працоўных.

Адначасова некаторыя БС яшчэ дагэтуль не разгарнулі як-сьлед сваю работу. Так, Клічаўская РКК у пачатку году паведамляла, што „ня было падхадзяшчых пытаньняў для БС". У Церахоўскай усе пытаньні вырашаў сам старшыня БС бяз паседжаньняў. Многія РКК не навучыліся дагэтуль рабіць больш глыбокіх вывадаў і аналізу паступаючых матэрыялаў, ня суміруюць адзначаемых недахопаў і таму іх работа часта не дае таго эфэкту, які яна магла-б даць.

Стварэньне часовых контрольных брыгад практыкавалася большасьцю РКК-РСІ. Так, за 1930/31 г. па Бабруйскаму раёну было організавана 14 брыгад (63 чал.), у Магілеве — 24 брыгады, Смалявічах — 5, у Гомелі — 20, якія правялі рад каштоўных мерапрыемстваў па мобілізацыі рэсурсаў, выяўленьню фактаў затаварваньня.

„ЛК", як форма масавага ахопу і ўцягненьня працоўнай моладзі ў соцыялістычнае будаўніцтва і барацьбу з бюрократызмам, сябе ўпаўне апраўдала. Лічбовыя паказальнікі аб удзеле КСМ у рабоце Гар. і РКК-РСІ праз „ЛК" сьведчаць аб усё ўзрастаючай ролі КСМ і „ЛК", як дапаможнікаў РСІ ў яе барацьбе з засьмечанасьцю апарату, цеганінай, скажэньнямі клясавай лініі ў паасобных установах. Па 16 раёнах у рабоце КК-РСІ прымала ўдзел 1.878 чал. моладзі. Праведзеныя зьлёты „ЛК" у Віцебску, Менску, Гомелі паказваюць, што ў рабоце гэтага інстытуту маюцца істотныя недахопы. Надзвычайна кепска пастаўлена справа кіраўніцтва работай „ЛК" з боку камітэтаў і ячэек ЛКСМБ, адсутнасьць падагуленьня з боку камітэтаў КСМ вопыту работы „ЛК". Гарадзкія КК не ў дастатковай ступені скарыстоўваюць і прыцягваюць да работы КК лёгкіх кавалерыстаў. Маюцца факты, калі органы КК-РСІ слаба змагаюцца і рэагуюць у адносінах да гаспадарчых і інш. організацый і асоб, якія ігноруюць ініцыятыву „ЛК".

Пастанова Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б аб выніках усебеларускага зьлёту „ЛК" і задачах органаў КК-РСІ ня ўсімі КК праводзіцца ў жыцьцё з тым, каб „ЛК" стала моцнай апорай у барацьбе КК-РСІ.

Асобна трэба адзначыць праведзеную органамі КК-РСІ БССР работу па сталаму ўцягненьню рабочых з прадпрыемстваў у работу РСІ ў якасьці пазаштатных інспэктароў. 11 сакавіка 1931 г. Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б вынес рашэньне аб стварэньні інстытуту грамадзкіх інспэктароў пры ЦКК-РСІ і яе мясцовых органах.

З таго часу опэрацыйнымі групамі ЦКК-РСІ ўжо прыцягнута 48 рабочых у якасьці грамадзкіх інспэктароў, з якіх 32 комуністы, 7 комсамольцаў і 6 беспартыйных. З раёнаў у гэтых адносінах маюцца весткі толькі па 57 раёнах. Згодна гэтых даных абрана ўсяго 475 пазаштатных інспэктароў, з іх мужчын 429 і жанчын 46. Па соцстановішчу: рабочых — 162, служачых — 269, колгасьнікаў — 44, па партыйнасьці: партыйцаў — 317, комсамольцаў — 85, беспартыйных — 26.

Гэтая форма работы зьяўляецца яшчэ зусім новай і фактычна толькі зараз пачынае як-сьлед разгортвацца. Практыка работы, якая ўжо маецца ў паасобных інспэктароў, доказвае ўсю жыцьцёвасьць і карыснасьць гэтага віду работы. Праведзеная самастойна аднымі сіламі грамадзкіх інспэктароў праверка выкананьня дырэктыў ЦКК па ВСНГ, НКЗему, НКЮ цалкам сябе апраўдала і па гэтых матэрыялах Прэзыдыумам ЦКК быў вынесены рад конкрэтных прапаноў.

У 1931 г. у рабоце органаў ЦКК-РСІ знайшла сваё шырокае прымяненьне практыка сумеснай работы з друкам, аб'яднаныя рэйды ўдарнікаў КК-РСІ і рабселькораў газэт, мобілізацыя ўсёй рабселькораўскай масы на дапамогу правадзімай органамі КК-РСІ тэй ці іншай работы.

Гэтая новая вышэйшая форма работы, якая разгорнута на падставе дырэктыў пленуму ЦКК УсеКП(б), пачынае займаць усё больш і больш важнае месца ў сыстэме масавай работы КК-РСІ, і таму неабходна застанавіцца на яе практыцы больш падрабязна.

Сумесная работа з друкам практыкавалася ў органах КК-РСІ і раней, але-ж гэта работа ішла, галоўным чынам, па шляху асьвятленьня ў друку. Шырокае вылучэньне аб'яднаных брыгад да супольнай работы знайшло сваё месца пры правядзеньні ЦКК-РСІ Усебеларускага рабселькораўскага рэйду па праверцы рэагаваньня на заметкі. Для гэтай работы толькі па 58 раёнах было арганізавана 260 аб'яднаных брыгад з удзелам 800 ударнікаў КК-РСІ і друку. У чэрвені 1931 г. быў праведзены аб'яднаны рэйд ЦКК-РСІ, Зьвязды, Рабочага, Рабселькора па пытаньню праверкі ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК УсеКП(б) аб перабудове рабселькораўскага руху і ходзе падрыхтоўкі да Усебеларускага зьезду рабселькораў. Згодна вестак ад 35 раёнаў, у гэтай рабоце ўдзельнічала 450 чал. Акрамя таго ЦКК-РСІ былі праведзены рабселькораўскія конфэрэнцыі ў Віцебску, Воршы, Буда-Кашалеве, Гомелі пры масавым удзеле рабочых і колгасьнікаў.

Сумесна з газ. „Рабочий" было праведзена Усебеларускае абсьледваньне работы з вылучэнцамі, у якім удзельнічала 160 брыгад з 950 рабочымі, па гэтаму пытаньню было зьмешчана ў друку 86 заметак і 15 спэцыяльных лісткоў. На старонках газ. „Рабочий" была праведзена Усебеларуская пераклічка-мітынг вылучэнцаў.

У час абсьледваньня Віцебскай парторганізацыі быў скліканы гарадзкі сход рабселькораў і былі створаны спэцыяльныя брыгады (10 брыгад па 3 чал.) для праверкі становішча самакрытыкі і рэагаваньня на заметкі.

У маі месяцы г. г. у Віцебску была ўтворана праверка падрыхтоўкі да плодагароднай кампаніі, аб забесьпячэньні тарай, гароднямі і г. д. Для ўдзелу ў гэтай рабоце было выдзелена ад газэты „Віцебскі Пролетары" 25 рабкораў, якія правялі гэту работу сумесна з актывам Віцебскай ГКК-РСІ. Праз месяц 35 чал. рабкораў правялі паўторны рэйд па контролю выкананьня раней вынесеных па гэтаму пытаньню рашэньняў.

Наогул трэба сказаць, што як сумесная работа з друкам, так і другія формы масавай работы адыгралі рашаючую ролю ў той барацьбе, якую органы КК-РСІ ўвесь час вялі за палепшаньне снабжэньня рабочых, за выкананьне дырэктыў партыі ў галіне перабудовы работы коопэрацыі.

Пад кіраўніцтвам КК-РСІ па ўсёй БССР адначасова была праведзена масавая праверка наяўнасьці тавараў на складах; толькі ў адным г. Менску ў гэтай рабоце прыняла ўдзел да 500 чал. рабочых, рабкораў ад газэт, профсаюзных работнікаў і г. д. Па ўсёй БССР, па няпоўных даведках, што атрыманы ад РайКК, у гэтай рабоце ўдзельнічала да 2.000 чал.

Для далейшага сталага контролю за затаварваньнем былі створаны часовыя контрольныя брыгады (ЧКБ) ва ўсіх раёнах. Некаторыя з іх, як Віцебск, Полацк, Ворша — дабіліся масавасьці і эфэктыўнасьці сваёй работы.

У рабоце, якая прыводзілася ў апошні час па перабудове БКСаюзу і стварэньню спэцыялізаваных аб'яднаньняў, прынялі актыўны ўдзел рабочыя шэфы з заводу імя Варашылава ў якасьці соцнамесьнікаў і пазаштатных інспэктароў.

Рабочы т. Бузінаў — соцнамесьнік дырэктара Сельгасаб'яднаньня БКСаюзу — правёў вялікую работу ў прыгарадных саўгасах па пераводу іх на гаспразьлік і зьдзельшчыну, некалькі раз выяжджаў у саўгасы, зьбіраў там трыкутнікі, праводзіў масавыя сходы. Ва ўстанове ён бывае штодзенна пасьля работы і ў выходныя дні. Тав. Мінкоў — соцнамесьнік дырэктара Белпрамхлеба — самастойна займаўся пытаньнямі мэханізацыі хлебазаводу, склікаў на хлебазаводзе вытворчую нараду па якасьці, езьдзіў у Маскву і паездкай даў таксама многа карысьці. Тав. Кузьняцоў—соцнамесьнік дырэктара Белплодагародніны-- заняўся работай па пастаноўцы дробнага гандлю, па адкрыцьцю новых магазынаў, сам сочыць за якасьцю продукцыі.

У жніўні і верасьні месяцы 1931 г. ЦКК-РСІ сумесна з ЦСПСБ і газ. „Рабочий" быў праведзены масавы агляд становішча шэфства над савецкім апаратам, масавай работы саветаў і разгортваньня соцсумясьціцельства. У час правядзеньня работы ў гэту кампанію ўключыліся газэты „Зьвязда", „Віцебскі Пролетары", „Комуніст" і інш. Аб'яднаныя брыгады газ. „Рабочий", ЦКК-РСІ і ЦСПСБ правялі праверачныя рэйды па буйнейшых прадпрыемствах у Менску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску і Барысаве. У працягу 3-х месяцаў ход гэтай работы сыстэматычна асьвятляўся ў друку пад агульным загалоўкам: „Брыгады ЦКК, ЦСПСБ і друку ў барацьбе за ўнядрэньне конкрэтных форм рабочага шэфства". Усяго за гэты час было зьмешчана 35 старонак і падборак з колькасьцю артыкулаў у 355. Корэспондэнцыі брыгад былі пасланы і ў цэнтральныя газэты. Цікава адзначыць гэткі выпадак, калі па прыезьдзе ў Віцебск інспэктар ЦКК-НК РСІ і прадстаўнік газ. „Рабочий" сустрэлі няправільныя адносіны да гэтай кампаніі з боку мясцовых організацый. Яны, правёўшы сіламі рабкораў газэты „Рабочий" рэйд па некаторых прадпрыемствах, пераслалі ўвесь матэрыял з агульнай характарыстыкай становішча ў газ. „Рабочий", які быў на заўтра-ж зьмешчаны ў якасьці спэцыяльнай старонкі пад шапкай: „У Віцебску маецца недаацэнка значэньня шэфработы", што значна ўскалыхнула ўсю Віцебскую грамадзкасьць і дапамагла закончыць нам гэту работу з найбольшым посьпехам.

Таксама неабходна адзначыць правядзеньне раду паасобных работ ЦКК-РСІ сумесна з раённымі газэтамі, як „Рэчыцкая Праўда", „Колгасьнік Капыльшчыны", „Ударнік Койданаўшчыны" — па такіх важнейшых пытаньнях, як праверка ходу сілосаваньня, праверка сельгаспадатку, організацыя вопытна-паказальнага раёну і г. д.

Як на цікавы і цалкам сябе апраўдаўшы вопыт неабходна ўказаць на пасылку аб'яднанай брыгады ЦКК-РСІ, друку і пісьменьнікаў на Бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат для ліквідацыі таго вытворчага прарыву, які там здарыўся.

У склад брыгады ўваходзілі — інспэктар НКРСІ БССР, прадстаўнікі газэт „Зьвязда", „Рабочий" і група пісьменьнікаў сяброў БелАПП'у. Брыгада абвясьціла месячнік штурму на комбінаце, працавала там больш месяца, выпусьціла некалькі нумароў газэты „Штурм", як органу брыгады ЦКК-РСІ і друку, мобілізавала масу рабочых на ліквідацыю прарыву і ў выніку дабілася значных посьпехаў і палепшаньня організацыі працы на комбінаце ў барацьбе са стратамі і падвышэньня выкананьня прамфінпляну.

Наогул-жа трэба прызнаць, выходзячы з практыкі тых работ, якія праведзены сумесна з друкам, што гэты мэтод работы дае найбольшы эфэкт і забясьпечвае сапраўдную масавасьць, опэратыўнасьць і дзейнасьць. Ударная работа актыву РСІ, плюс дзейная падача

матэрыялу ў друку зьяўляецца найлепшай комбінацыяй масавых мэтодаў работы. Ужо зараз зусім яскрава, што гэтая форма павінна будзе заняць адно з асноўных месц у далейшай дзейнасьці КК-РСІ.

Наш матэрыял аб масавай рабоце КК-РСІ ня быў-бы поўным, каб мы не закранулі вынікаў сумеснай работы КК-РСІ з профсаюзамі і комсамолам.

Рост актыўнасьці рабочае клясы, накіраваны на выкананьне пяцігодкі за чатыры гады, магутны ўздым соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў яго вышэйшых формах, выкананьне баявой рашаючай задачы, пастаўленай т. Сталіным, „аўладаць тэхнікай“, вырашэньне пытаньняў якасьці продукцыі, зьніжэньне сабекошту на аснове соцыялістычнай рацыяналізацыі — патрабуюць самай лепшай узаемнай плянавай спрацаванасьці і дапамогі з боку профсаюзаў органам КК-РСІ. На справе-ж мы гэтага яшчэ ня маем. Нават пастановы 8-га ўсесаюзнага зьезду профсаюзаў аб тым, што профсаюзы павінны прымаць самы актыўны ўдзел у рабоце РСІ, засталіся ня выкананымі. Пляны ЦКК-РСІ і яе органаў на мясцох не заўсёды абгаварваюцца на масавых сходах, не пастаўлена ў профсаюзах праверка выкананьня пастаноў РСІ па выніках абсьледваньня. Профсаюзы (як гэта прэзыдыум ЦСПСБ у парадку бальшавіцкай самакрытыкі адзначыў) пасьля чысткі савецкага апарату зусім не займаліся пытаньнямі рабочага шэфства над дзяржапаратам, г. зн. не ажыцьцяўлялі масавага рабочага контролю зьнізу над савецкім апаратам. Праведзеныя за апошні час сумесныя абсьледваньні ЦКК-РСІ і ЦСПСБ становішча вылучэнства і ўдзелу профсаюзаў у праверцы самакрытыкі, у правядзеньні месячніка па шэфству заводаў над дзяжапаратам, разгортваньні соцсумясьціцельства і праверкі выкананьня прамфінпляну паказваюць усю неабходнасьць і карыснасьць сумеснай работы. Органы КК-РСІ сумесна з профсаюзамі павінны сыстэматычна склікаць ударныя брыгады, комуны, вытворчыя сэктары, вынаходцаў і рацыяналізатараў прамысловасьці, будаўніцтва і савецкага апарату, склікаць пэрыодычна часовыя контрольныя камісіі, бюро рацыяназізацыі па прапрацоўцы плянаў і матэрыялаў,зьвязаных з абсьледваньнямі РСІ. Апошні час даў пэўны зрух і пералом у палепшаньні сумеснай работы КК-РСІ з профсаюзамі. Гэтыя посьпехі трэба замацаваць і пашырыць на далейшы час.

У сумеснай рабоце КК-РСІ з комсамолам БССР да гэтага часу яшчэ не намецілася таго карэннага пералому, які тут неабходны. Комсамол Беларусі ня змог дагэтуль мобілізаваць творчую энэргію рабочай моладзі на сумеснае вырашэньне з КК-РСІ раду важнейшых пытаньняў.

Агульны рост грамадзка-палітычнай актыўнасьці рабочае клясы, бязумоўна, выклікаў бурны паток актыўнасьці сярод рабочай і працоўнай моладзі, якая пад кіраўніцтвам нашай партыі аказвае вялікую дапамогу ў ажыцьцяўленьні разгорнутага соцыялістычнага наступленьня на ўсім фронце. „Лёгкая кавалерыя“—„дзіця“ комсамолу—паказала цэлы рад прыкладаў геройчнага змаганьня з бюрократызмам і іншымі скажэньнямі апарату. Разам з гэтым трэба прызнаць, што работа раду кіруючых органаў комсамолу, камітэтаў і ячэек далёка адстае ад узрастаючай актыўнасьці рабочай і працоўнай моладзі. Перад ЦК комсамолу і ўсёй комсамольскай організацыяй стаіць неадкладная задача—зрабіць карэнны пералом у кіраўніцтве рухам „Лёгкай кавалерыі“, у высоўваньні для пастаяннай работы ў органы КК-РСІ сотні лепшых комсамольцаў. Вакол кожнай групы ЦКК-РСІ і яе органаў на мясцох павінны быць згрупаваны дзесяткі комсамольскага актыву

і адборных кавалерыстаў, працуючых над ажыцьцяўленьнем плянавых заданьняў прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і соцыялістычнага культурнага будаўніцтва.

Падагульваючы ўсе паказаныя факты і матэрыялы адносна масавай работы органаў КК-РСІ БССР, трэба констатаваць рад буйнейшых дасягненьняў за апошні час. Але побач з гэтым ёсьць шмат недахопаў у разгортваньні масавай работы. Вельмі характэрнымі яшчэ для многіх КК-РСІ застаюцца наступныя недахопы:

а) няўменьне замацаваць, аформіць і разьвіць тыя новыя формы масавай работы, якія маюцца за апошні час;

б) недастатковае высоўваньне зьнізу новага актыву;

в) няўменьне падхапіць і стаць на чале той творчай ініцыятывы і палітычнай актыўнасьці працоўных мас, якая за апошні час праяўляецца на ўсіх вучастках соцбудаўніцтва;

г) няўменьне ўвязаць масавай работы, праводзімай органамі КК-РСІ з профсаюзнай масавай работай і партыйна-комсамольскай.

Перад усімі органамі КК-РСІ стаіць на бліжэйшы час задача рашуча зьнішчыць адзначаныя недахопы, выправіць дапушчаныя памылкі ў масавай рабоце з тым, каб сапраўды стаць баявым штабам організацыі мас на выкананьне чарговых задач, пастаўленых партыяй.

У сваім дакладзе на III пленуме ЦКК УсеКП(б) т. Андрэеў так паставіў пытаньне аб далейшых задачах масавай работы КК-РСІ:

„Нам патрэбна яшчэ шырэй прыцягнуць і абаперціся на базу найшырэйшай грамадзкасьці. Нашымі кадрамі зьяўляюцца ня толькі кадры РСІ, нашымі кадрамі зьяўляюцца профсаюзы, комсамол, перадавыя рабочыя, колгасьнікі, вучнёўства — вось нашыя кадры. Мы павінны дабіцца, каб уся работа органаў РСІ выконвалася на $^9/_{10}$ організаванай вакол РСІ грамадзкасьцю“.

Выкананьне гэтых важнейшых мерапрыемстваў павінна праходзіць на аснове прынцыпаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва, на вачох шырокіх рабочых мас, ні ў якім разе не дапушчаючы „габінэтнага адбору людзей“.

На гутаркі аб тым, „што няма ў нас актыву, перагрузка і інш.“, трэба рашуча адказаць словамі т. Леніна, што „ў рабочую інспэкцыю мы павінны ўцягнуць самых баязьлівых і неразьвітых, самых баязьлівых рабочых і рушыць іх уверх, няхай яны паднімаюцца на гэтай рабоце, паглядзеўшы як рабочая інспэкцыя ўдзельнічае ў дзяржаўных справах і няхай яны ад прасьцейшых заняткаў, на якія здольны ў пачатку ў выглядзе „панятых“, няхай яны паступова пераходзяць ад ролі „панятых“ да дзяржаўных спраў“—гэта было сказана яшчэ ў 1920 г. Рабочая кляса з таго часу пад выпрабаваным кіраўніцтвам нашай партыі прайшла вялікую школу клясавага змаганьня, школу непасрэднага соцыялістычнага будаўніцтва, што палягчае іх уцягненьне ў справу масавага рабочага контролю пад кіраўніцтвам РСІ на розных стайных вучастках соцыялістычнага будаўніцтва.

КК-РСІ справіцца са сваімі задачамі толькі ў тым выпадку, калі яна будзе няўхільна ажыцьцяўляць організатарскую ролю рабочых і працоўных мас у барацьбе з бюрократызмам. Мэтодамі праверкі КК-РСІ павінна дабіцца, каб кожная дзелавая прапанова рабочых, кожная рабселькораўская заметка, кожны ўдалы рацыяналізатарскі вопыт атрымлівалі сваё хуткае і правільнае вырашэньне ў дзяржапараце, прадпрыемствах, організацыях.

Ярасна змагаючыся за дзейнасьць бальшавіцкай самакрытыкі, ня „гледзячы на асобы“, КК-РСІ пяройдуць на чале організаваных імі мас

на новую вышэйшую ступень, вартую вялікага году завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі краіны.

Такім чынам, органы КК-РСІ ажыцьцяўляючы організатарскую ролю па мобілізацыі мас у разгорнутае наступленьне на бюрократызм, выконваюць адказьнейшыя задачы, якія на іх ускладзены партыяй па выяўленьню і мобілізацыі ўсіх рэсурсаў краіны для далейшага паскарэньня тэмпаў індустрыялізацыі, усямернага павялічэньня вытворчых магчымасьцяй прамысловасьці, транспорту і сельскай гаспадаркі.

Рабочыя і працоўныя масы пад кіраўніцтвам партыі, організаваныя КК-РСІ у рознастайнейшых зьвеньнях, якія ажыцьцяўляюць масавы пролетарскі контроль, змагаліся за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі супроць усялякіх праяў правага, „левага“ опортунізму і прымірэнцтва да іх. Карыстаючыся мэтодам бальшавіцкай самакрытыкі, організаваныя сотні сэкцый і груп садзейнічаньня РСІ, шэфскія брыгады, контрольныя пасты, ударныя брыгады друку ня толькі выкрывалі і сыгналізавалі аб недахопах і скажэньнях паасобных зьвеньняў перад РСІ, а галоўным чынам былі організатарамі мас і ініцыятарамі па ліквідацыі прарываў, аб чым сьведчаць факты па Буда-Кашалеўскаму, Бабруйскаму, Шклоўскаму і інш. раёнах, калі групы садзейнічаньня РСІ бралі на сябе ініцыятыву і дабіліся станоўчых вынікаў пры правядзеньні ўборачнай кампаніі.

Рад істотных абсьледваньняў ЦКК-РСІ праведзены выключна па матэрыялах і прапановах актыву РСІ зьнізу, што ўзьняла ролю органаў ленінскага рабкрыну па барацьбе са скажэньнямі генэральнай лініі партыі. Рад абсьледваньняў мясцовых КК-РСІ паказаў, што найлепшыя вынікі дасягнулі тыя РКК-РСІ, якія здолелі правільна ажыцьцяўляць організатарскую ролю з масамі, а прарывы былі больш за ўсё дапушчаны ў тых раёнах, дзе аб гэтай асноўнай ролі КК-РСІ забыліся.

Таму аднэй з важнейшых задач органаў КК-РСІ на новым этапе заключаецца ў тым, каб яшчэ шырэй прыцягнуць і абаперціся на базу найшырэйшай грамадзкасьці, узьняўшы ролю профсаюзаў, КСМ, саветаў у пастаноўцы масавай праверкі выкананьня і як цэнтральнай установкі ў барацьбе з бюрократызмам, узьняўшы на вышэйшую ступень організатарскую ролю органаў КК-РСІ па мобілізацыі рабочых, колгасьнікаў і працоўных мас на барацьбу з опортунізмам, за няўхільнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі.

Зюзькоў А., Ляўкова Н.

# Супроць фальсыфікацыі твораў Леніна

Выданьне 12-ці томніку твораў У. І. Леніна на беларускай мове мае аграмаднае палітычнае значэньне і зьяўляецца вялізарнейшым укладам у беларускую пролетарскую культуру. Гэта яшчэ больш ярка акрэсьліваецца тым фактам, што да выданьня першых тамоў 12-ці томніку мы ня мелі ніводнага артыкулу Леніна, выданага на беларускай мове. Бясспрэчна, што выданьне дванаццацітомніку наложыць свой адбітак на ўсе бакі жыцьця БССР, бо гэта азначае новыя сотні тысяч чытачоў з асяродзьдзя пролетарыяту і шырокіх мас калгасьнікаў, гэта азначае ўзбраеньне ленінскай тэорыяй новых соцень тысяч будаўнікоў соцыялізму, гэта азначае бальшавіцкае выхаваньне тысяч і дзесяткаў тысяч падрастаючага маладняка, пасіленьне бальшавіцкай завостранасьці і ленінскай пільнасьці ў барацьбе з рэшткамі тэорый і тэорыек, астаўленых нам у спадчыну ад дробнабуржуазных партый, гэта азначае марксыцка-ленінскую падрыхтоўку новых нацыянальных кадраў у КП(б)Б. Скажэньням гісторыі бальшавізму на Беларусі, ідэалізацыі дробна-буржуазных партый, тэорыям двухкарэннасьці і шматкарэннасьці КП(б)Б, вялікадзяржаўным і нацдэмаўскім тэорыям, люксэмбургіянству і трацкісцкай контрбандзе павінен быць нанесены руйнуючы ўдар выданьнем дванаццацітомніку твораў Леніна.

Гэта вялізарнейшае значэньне дванаццацітомніку накладае на Інстытут гісторыі партыі і ў прыватнасьці на рэдактара твораў Леніна вялікую адказнасьць і абавязкі. Першым запатрабаваньнем да выданьня твораў Леніна павінна быць—даць ленінскія творы не скажонымі ні перакладам, ні апаратам, г. зн. заўвагамі, прадмовамі, дадаткамі і г. д. Заўвагі і дадаткі набываюць у БССР вялізарнейшае значэньне, бо гістарычнай літаратуры на беларускай мове вельмі мала і тлумачэньне тых ці іншых гістарычных фактаў, весткі аб партыях, аб асобах і г. д., якія даны ў заўвагах да твораў Леніна, яшчэ доўгі час застануцца амаль адзінай крыніцай ведаў аб гэтых фактах, партыях, асобах ва ўсёй беларускай літаратуры. Гэта патрабуе ўважлівай работы над апаратам, патрабуе правільнасьці заўваг і тлумачэньняў.

Другім неабходным запатрабаваньнем зьяўляецца асабліва ўважлівы падыход да падбору твораў У. І. для беларускага выданьня, бо ў дванаццацітомнік ня могуць увайсьці ўсе творы, якія сабраны ў 2 і 3 выданьні. Зьмест дванаццацітомніку павінен правільна адлюстроўваць асноўныя пытаньні ленінізму і гісторыі бальшавізму, з аднаго боку, і даць поўны тэкст тых артыкулаў У. І., якія маюць непасрэднае дачыненьне да Беларусі, як нацыянальнай рэспублікі, некалі знаходзіўшайся на становішчы колёніі царскай Расіі, даць

артыкулы, якія дапамогуць па-ленінску вырашыць асноўныя пытаньні гісторыі бальшавізму ў Беларусі, з другога боку.

І трэцяе запатрабаваньне—выданьне дванаццацітомніку неабходна наскорыць. Нельга пры якіх-бы там ні было ўмовах прызнаць здавальняючымі існуючыя тэмпы выданьня. За пяць-шэсьць год работы (першая пастанова ЦК КП(б)Б аб выданьні твораў У. І. на белмове была ў 1925 годзе!) выпушчана толькі два томы: III і V! Такія тэмпы выданьня твораў У. І. нельга інакш кваліфікаваць, як недаацэнку таго значэньня тэорыі ленінізму для выхаваньня новых і больш грунтоўнага ўзбраеньня старых кадраў барацьбітоў за генэральную лінію партыі, аб якім гаварыў т. Сталін у політсправаздачы ЦК УсеКП(б) на XIV зьезьдзе:

„Кадры нашы і маладыя і старыя растуць у ідэёвых адносінах. Гэта наша шчасьце, што нам удалося выпусьціць некалькі выданьняў твораў Леніна. Цяпер людзі чытаюць, вучацца і пачынаюць разумець. Ня толькі кіраўнікі, але і *серадрякі* ў партыі пачынаюць разумець і ім ужо палец у рот не кладзі... людзі самі разьбіраюцца..., вы можаце пужаць цытатамі колькі хочаце, а *сярэдні* партыец паслухае і разьбярэ, таму што ў яго цяпер Ленін у руках. *Гэты факт зьяўляецца адной з асноўных гарантый таго, што з шляху ленінізму наша партыя ня сойдзе*". (Стэнограма XIV зьезду УсеКП(б), стар. 50, апошнія словы падкрэсьлены намі.—З. і Л.).

ЦК КП(б)Б гэта зусім правільна ўлічыў, прапанаваўшы Інстытуту гісторыі партыі скончыць выданьне дванаццацітомніку да 15-годзьдзя Кастрычніцкай рэволюцыі. Гэтую пастанову неабходна выканаць, прычым выканаць так, каб унікнуць тых буйнейшых недахопаў і памылак, скажаючых ленінінізм, якія маюць месца ў двух ужо выданых тамох Леніна.

Два томы твораў У. І. Леніна, якія ўжо выданы Інстытутам гісторыі партыі на беларускай мове, ахопліваюць вельмі важныя пэрыоды гісторыі бальшавізму: III том ахоплівае творы У. І. за 1900—1903 гг. (пэрыод „Искры") і V том—з жніўня 1905 г. па канец 1906 г. (пэрыод рэволюцыі). Творы У. І. пэрыоду выдзяленьня і ідэёва-організацыйнага афармленьня авангарду пролетарыяту—бальшавіцкай партыі—і пэрыоду праверкі рэволюцыйнай тэорыі ў агні непасрэдных баёў самых шырокіх мас пролетарыяту і сялянства з самаўладзтвам прыгоньніцтвам, абшарнікамі і лібэральнай буржуазіяй, якая перайшла ў іх лягер, калі пролетарыят не абмяжоўваецца задачамі буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, паставіўшы перад сабой задачы перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную—творы У. І. гэтых пэрыодаў маюць вялізарнейшае значэньне. У лісьце ў часопіс „Пролетарская революция" т. Сталін спэцыяльна завастрае ўвагу партыі на гэтых двух пэрыодах гісторыі бальшавізму.

Але, на жаль, у прадмову да V тому, у заўвагі і ў паказальнік імён і ў III і ў V тамы прапушчаны розны опортуністычны хлам і яўная трацкісцкая контрабанда ня толькі па пытаньнях агульнатэорытычнага характару, але і па пытаньнях, якія маюць непасрэдныя адносіны да гісторыі бальшавізму на Беларусі.

Ня ставячы перад сабой задачы высьветліць усе памылкі, допушчаныя ў III і V томах, спынімся на некаторых больш важных.

Аб Бундзе. У гэтыя пэрыоды, якія ахопліваюць III і V тамы, бальшавізм правёў вялізарнейшую барацьбу з нацыяналізмам Бунду. У. І. напісаў цэлы рад артыкулаў, накіраваных непасрэдна супроць

Бунду. Успомніць хоць-бы такія артыкулы Ў. І. Леніна, як „З прычыны заявы Бунду“, „Ці неабходна „самастойная палітычная партыя“ яўрэйскаму пролетарыяту“ (люты 1903 г.), „Тэорыя самапраізвольнага зараджэньня“, „Сярдзіты адказ“ (лістапад 1905 г.), „З поваду аднаго артыкулу ў органе Бунду“ (1906 г.) і г. д., у якіх У. І. паказвае вельмі ясна, куды вядзе нацыяналізм Бунду. І ў той час, калі ў КП(б)Б мы маем выхадцаў з Бунду, якіх яшчэ трэба шмат выхоўваць у бальшавіцкім напрамку, калі яшчэ не дабіты тэорыйкі ідэалізацыі Бунду, у гэты час *артыкулы Леніна, накіраваныя непасрэдна супроць Бунду, не ўвайшлі ў выданыя на беларускай мове тамы!*

І гэта не выпадкова. У III томе, у які не ўвайшло ніводнага артыкулу Ў. І. супроць Бунду, маюцца дзьве заўвагі, у якіх апрача слоў аб *„уступках* нацыяналізму“, *„сэпаратысцкіх тэндэнцыях“* Бунду, якія нельга прызнаць палітычнай характарыстыкай, зусім не паказана клясавая сутнасьць Бунду. Мала таго, у заўвазе 142-ой (стар. 513) падкрэсьліваецца, што „Искра“ зараз-жа рэагавала на справаздачу Бунду аб сваім IV зьезьдзе *заметкай Ю. Мартава* і ні слова аб тым, які Ленін вёў барацьбу з гэтай нацыяналістычнай партыяй. Чаму выпала ленінская характарыстыка Бунду, якую Ў. І. даў Бунду ў кастрычніку 1905 г., што „словы Бунду—дасканалае адлюстраваньне *мяшчанства* у соцыял-дэмократыі, мяшчанства ў сэнсе пошласьці, залатой сярэдзіны, бясколернасьці, агульных месц, пасрэднасьці *(чым заўсёды быў Бунд, іграўшы ролю ідэёвага паразыта, як вядома, і ў 1897—1900 гг., і ў 1901—1903 гг., і ў 1904 г. і цяпер у 1905 г.)* (т. VIII, стар. 241, падкрэсьлена намі—З. і Л.).

Чаму выпалі ленінскія характарыстыкі Бунду? Нічым іншым гэта нельга растлумачыць, як дапамогай ідэалізатарам Бунду, як непасрэднай дапамогай бундаўскім контрабандыстам.

Ня лепш становішча са зьмяшчэньнем артыкуаў Леніна супроць эсэраў. Барацьба Ў. І. з эсэраўскімі і наогул лібэральна-народніцкімі партыямі, групамі і групоўкамі была накіравана ў значнай меры і супроць тых нацыяналістычных партый падобнага соцыяльнага зьместу, якія былі тут на Беларусі. Артыкулы Ў. І. супроць эсэраў дапамагаюць нам выкрыць соцыяльную сутнасьць БСГ і іншых партый і груп, програмы якіх знаходзіліся пад значным уплывам эсэраўскіх ідэй. Аднак, зусім іншае думае рэдактар дванаццацітомніку т. В. Сэрбэнта: *у III томе няма ніводнага артыкулу,* накіраванага непасрэдна супроць эсэраў, у той час, як у 1902-1903 гг. Леніным барацьбе з эсэрамі прысьвечаны цэлы рад артыкулаў, як, напр., „Рэволюцыйны авантурызм“, „Вульгарны соцыялізм і народніцтва“, „Аб групе Свабода“ і г. д. І зноў-такі нельга не ўвязаць гэтае пытаньне з памылкамі ў заўвазе аб народніцтве, у якой карэньні марксызму, а значыць і бальшавізму, выводзяцца з „Зямлі і Волі“ праз мосьцік „Чорны Перадзел“!

„Чорны Перадзел“... ня меў практычнага значэньня, „зьявіўшыся пераходнай ступеньню для часьці землявольцаў ад народніцтва да марксызму і соцыял-дэмократыі“ (т. III, стар. 512).

Даволі паглядзець заўвагі ў V томе на стар. 723—725 аб розных эсэраўскіх плынях, каб убачыць, што і тут выпадае ленінская ацэнка эсэраў.

Трэба сказаць, што наогул у заўвагах дапушчаны цэлы рад трацкісцка-меншавіцкіх памылак самага грубага характару.

Як, напрыклад, у заўвагах асьвятляецца люксэмбургіянства і роля Розы Люксэмбург, на што спэцыяльна зварачае ўвагу т. Сталін у сваім

лісьце. Для Беларусі, як нацыянальнай рэспублікі, правільная характарыстыка люксэмбургіянства мае вялізарнейшае значэньне ўжо па адным тым, што ідэі люксэмбургіянства мелі ўплыў на некаторую частку партыйцаў і з якімі (ідэямі) КП(б)Б вяла і вядзе рашучую барацьбу. Скарыстоўваньне сьцягу люксэмбургіянства трацкістамі для сваёй контррэволюцыйнай дзейнасьці павінна было-б зьвярнуць увагу рэдактара на правільную характарыстыку люксэмбургіянства.

Але якая справа рэдактару твораў У. І. Леніна да трацкізму і трацкісцкай контрабанды, да правільнага асьвятленьня сутнасьці люксэмбургіянства! Ён сьмела і ўпэўнена глядзіць на трацкісцкую контрабанду і сутнасьць люксэмбургіянства праз акуляры гнілога лібэралізму. І „ничтоже сумняшеся“ адкідае ленінскую ацэнку люксэмбургіянства і штампуе заўвагі з рускага выданьня, у якім гаворыцца:

*„Люксэмбург“*, Роза — выдатны прадстаўнік польска-германскага рэволюцыйнага руху, *буйны тэорэтык марксызму, адзін з ідэёвых (!) аснавальнікаў (!) Комуністычнага Інтэрнацыяналу*“ (стар. 535, т. III, ці стар. 759, т. V, падкрэсьлена намі—З. і Л.).

У 1931 годзе партыйная і комсамольская робочая і колгасная маса даведваецца, што люксэмбургіянства гэта ёсьць марксызм, што Комінтэрн узьнік ня ў жорсткай барацьбе з люксэмбургіянствам, а сама Р. Люксэмбург зьяўляецца ідэёвым аснавальнікам Комінтэрну. Так скажаецца гісторыя бальшавізму, так працягваецца контрабанда трацкізму. Вядома, што люксэмбургіянства разыходзіцца з ленінізмам у асноўных пытаньнях рэволюцыйнай тэорыі і практыкі і гэтыя разыходжаньні скарыстаны і скарыстоўваюцца Троцкім у яго барацьбе супроць бальшавізму. Усім вядома, апрача т. Сэрбэнты, што сьцягам Комінтэрну зьяўляецца *толькі ленінізм.* Усім вядома, што люксэмбургіянства скарыстоўваецца рэнэгатамі Комінтэрну для абману рэволюцыйных мас, для адцягненьня іх ад клясавай барацьбы пад кіраўніцтвам Комінтэрну.

Але даўшы Р. Люксэмбург назву ідэёвага аснавальніка Комінтэрну ў процілегласьць гістарычным фактам, якія кажуць за тое, што Р. Люксэмбург была супроць заснаваньня Комінтэрну, лічачы гэта несваячасовым, неабходна было і ў яе біографію ўнесьці „корэктыў“. Вось чаму ў заўвагах аб Р. Люксэмбург мы не знаходзім ленінскай ацэнкі люксэмбургіянства. Замест гэтага бярэцца нядвусэнсоўна пад сумненьне правільнасьць ленінскай барацьбы з люксэмбургіянствам спасылкай на тое, што „Ленін, які заўсёды высока цаніў Люксэмбург, прысьвяціў ёй у той-жа час рад *палемічных* (!) артыкулаў, выступаючы супроць некаторых (!) яе памылак, у часнасьці яе позыцыі ў нацыянальным пытаньні“ (там-жа). Аўтарам заўвагі ставіцца яшчэ пад пытаньне — хто-ж стаяў у гэтай „палеміцы“ на правільнай марксыцкай позыцыі. Для аўтара ленінскія артыкулы супроць памылак Р. Люксэмбург не зьяўляецца выкрыцьцём гэтых памылак, а проста „палемікай“, і чытачу пакідаецца права дагадвацца, хто меў у гэтай „палеміцы“ рацыю.

Мы ня будзем спыняцца на іншых памылках такога-ж характару з біографіі Р. Люксэмбург. Сказанага даволі для таго, каб заўважыць, чыёй контрабандай гэта зьяўляецца.

Двух адказаў на гэта быць ня можа. Тым больш, што характарыстыка Троцкага дана ў такім асьвятленьні, што абмяжоўваецца датамі і ня ўскрывае ніводнага пытаньня па сутнасьці трацкізму. Наадварот, некалькі разоў падкрэсьліваецца *інтэрнацыяналісцкая* позыцыя Троцкага ў часе імпэрыялістычнай вайны, што Троцкі высланы

ў Гішпанію з Францыі „па абвінавачаньні ў *інтэрнацыяналісцкай* прапагандзе“, уваходзіў у *„інтэрнацыяналісцкі* орган“, у *„інтэрнацыяналісцкую* організацыю“ (стар. 773, т. V). Чаму забыты словы Леніна, што ў часе імпэрыялістычнай вайны „Троцкі заблытаўся ў трох соснах“, што лёзунг Троцкага „ні перамог ні паражэньняў“ зьяўляецца нічым іншым, „як перафразіроўкай лёзунгу *„абарона бацькаўшчыны“*, што „Букваед і *Троцкі... стаяць на пункце погляду вайны ўраду і буржуазіі“* (Ленін, т. XIII, стар. 79, падкрэсьлена намі.—З. і Л.)?

Цяпер кожны партыец і комсамолец ведае, што трацкісцкая тэорыя „пэрманэнтнай рэволюцыі“ зьяўляецца контррэволюцыйнай тэорыяй, якая адмаўляе магчымасьць пабудовы соцыялізму ў нашай краіне, якая грунтуецца на няверʼі ў сілы рабочай клясы, на няверʼі ў тое, што пролетарыят зможа павесьці за сабой сялянства. А заўвага абмяжоўваецца голай заявай: Троцкі — „староньнік парвусаўскай тэорыі пэрманэнтнай рэволюцыі“. І далей аб „пэрманэнтнай рэволюцыі“ ні слова, ні слова аб тым, як гэта тэорыя была „зроблена сродкам змаганьня супроць ленінізму“ (Сталін).

Трацкісцкая контрабанда, якая распаўсюджваецца з творамі Леніна ў 1931 годзе, гаворыць аб політычнай блізарукасьці, аб гнілым лібэралізьме штампоўшчыка контрабанды ў заўвагах да твораў Леніна на рускай мове.

Яўна опортуністычная, зусім процілеглая сапраўднасьці даецца заўвага аб Каўцкім. У ёй з стараннасьцю смакуюцца фразы аб тым, што Каўцкі — „буйнейшы з тэорэтыкаў марксызму“, „пачаў сваю навуковаю дзейнасьць пад непасрэдным кіраўніцтвам Энгельса“, *„да вайны далучаўся да левага крыла марксызму*, вёў змаганьне з рэвізіянізмам“, „яшчэ ў 1909 г... заставаўся на грунце рэволюцыйнага марксызму“ трымаўся да пачатку вайны „ортодоксальных поглядаў“ (стар. 532-533, т. III, стар. 753-754, т. V).

Якая справа рэдактару да ленінскіх характарыстык Каўцкага? Якая справа да таго, што Ленін у сваёй рабоце „Дзяржава і рэволюцыя“ гаворыць аб *невыпадковасьці хістаньня* Каўцкага ў адносінах да барацьбы з рэвізіянізмам? Якая справа да таго, што Каўцкі вельмі спачувальна адносіўся да рэвізіі Бэрнштэйнам і іншымі марксызму ў пытаньнях філёзофіі, якая справа рэдактару да таго, што Ленін называе полеміку Каўцкага з Бэрнштэйнам фактычнай здачай Каўцкім позыцый опортунізму?

Стараннаму штампоўшчыку няма справы да гэтых ленінскіх характарыстык, бо ён зацікаўлены ў тым, кабператварыць Каўцкага ў змагальніка з рэвізіянізмам. Ніводнай ленінскай характарыстыкі, якая проста гаворыць аб тым, што Каўцкі ўвесь час хістаўся, зрабіўся яшчэ да вайны „прастытуткай“ (Ленін) і скаціўся на контррэволюцыйныя позыцыі. Замест таго, каб паказаць змаганьне Леніна з цэнтрысцкімі хістаньнямі Каўцкага, у заўвазе гаворыцца аб тым, што да вайны Каўцкі далучаўся да левага крыла марксызму. Гэтая афарбоўка Каўцкага пад вытрыманага рэволюцыянэра хоць-бы ў мінулым зьяўляецца клясава-варожай нам контрабандай, скажаючай тэорыю і практыку марксызму-ленінізму, замазваньнем контррэволюцыйнай сутнасьці Каўцкага і каўцкіянства.

Такога-ж самага характару заўвагі аб Пляханаве (стар. 540, т. III, стар. 766, т. V). Пляханаў таксама „выдатнейшы тэорэтык марксызму“, „энэргічны барацьбіт з бэрнштэйніянствам і яго адлюстраваньнем на рускай глебе—экономізмам“, „далучыўся да бальшавікоў“, „зблізіўся з бальшавікамі“ і г. д. І аб Пляханаве ніводнай ленінскай

характарыстыкі. Але папулярызацыяй Пляханава пранізаны заўвагі і аб „Neue Zeit“ (стар. 471, т. III), у якой пра Леніна і ня ўспомнілі, а ўсю заслугу барацьбы з рэвізіянізмам прыпісалі Пляханаву, і ў заўвазе аб экономізьме і бэрнштэйніянстве (стар. 472) і аб лібэралізьме (стар. 477—483) і г. д. і г. д.

Меншавіцтвуючым ідэалізмам прасякнуты і ўсе заўвагі аб філёзофах. З гэтых заўваг мы даведваемся, што асновапаложнікам марксыцкай філёзофіі зьяўляецца зусім ня Маркс, роля якога зусім нязначная, бо ён проста даў дыялектыцы Гегеля матэрыялістычнае ўгрунтаваньне (стар. 528, т. III)! Ну і хто цяпер пасьмее гаварыць, што Маркс паставіў дыялектыку Гегеля з галавы на ногі! Мы даведваемся з заўваг, што Л. І. Аксэльрод (Ортодокс)—„вядомая пісьменьніца-марксытка па пытаньнях філёзофскага матэрыялізму“ (т. III, стар. 471). Далей пералічаны яе работы. І гэта заўвага даецца да наступнага месца з тэксту Леніна: „Я гэтай асобы ня ведаю; вядома яна сваім сьляпым *пракланеньнем* перад Г. В.“ (т. III, стар. 14, „Г. В.“—Г. В. Пляханаў)!

Чытачу ў заўвазе паказваецца—бачыце, як памыліўся Ленін у ацэнцы Аксэльрод-Ортодокс!

Прыведзеныя прыклады фальсыфікацыі гісторыі бальшавізму трацкісцкай контрабандай ня вычэрпваюць цалкам скажэньняў ленінскага тэксту заўвагамі да яго. Гэтай контрабандай прасякнуты амаль усе заўвагі і слоўнік-паказальнік імён у абодвух томах.

Праўда, гэтыя заўвагі цалкам ці са скарачэньнямі перанесены з 2-га выданьня твораў Леніна на рускай мове, але ад таго, што памылка паўтараецца некалькі раз (у рускім, украінскім, беларускім і г. д. выданьнях), яна не перастае быць памылкай, а наадварот, яшчэ больш паглыбляецца. І гнілы лібэралізм да трацкісцкай і іншай варожай бальшавізму контрабанды, які дапушчаны ў беларускім выданьні, нельга тлумачыць дапушчэньнем гнілога лібэралізму ў расійскім выданьні! Гэтым нельга замазваць сутнасьць справы.

Але такая штампоўка заўваг з рускага выданьня кажа і аб тым, што т. Сэрбэнта ня ўлічваліся вопыт і праца апошніх гадоў, не скарыстаны выпраўленыя заўвагі ў пазьнейшых тамох твораў Леніна. Другое выданьня III тому выпушчана ў 1930 г., V том—у 1931 г., а да гэтага часу мы мелі ня толькі IV і V томы твораў Леніна на рускай мове, адкуль т. Сэрбэнта „запазычыў“ памылкі, але і пазьнейшыя тамы, дзе памылкі IV і V тому значна выпраўлены, мелі „Ленінскія зборнікі“, шмат новай літаратуры. Гэта нічога ня ўлічвалася, ішла простая штампоўка. Мы ўжо ня кажам, што для зразуменьня паказаных вышэй памылак не патрабавалася мець абавязкова „новую літаратуру“, для гэтага патрабавалася простае знаёмства з творамі У. І. Леніна і жаданьне не рабіць памылак, не дапускаць трацкісцкай контрабанды.

Неразуменьне Леніна асабліва яскрава праяўляецца ва ўласным „творы“ т. В. Сэрбэнта, у прадмове да V тому. Т. Сэрбэнта піша:

> „*На падставе вопыту і ў ходзе* рэволюцыі 1905 году У. І. *распрацаваў* цэлы рад новых лёзунгаў і паняцьцяў, *высунуў* цэлы рад новых ідэй у стратэгіі і тактыцы бальшавізму. „*Рэволюцыйна-дэмократычная дыктатура пролетарыяту і сялянства*“, „*рэволюцыйная армія*“, „*актыўны бойкот*“, „*злучэньне экономічнай і палітычнай забастоўкі*“, „*нацыяналізацыя зямлі*“, „*збройнае паўстаньне*“, *ідэя перарастаньня буржуазна-дэмокра-*

*тычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, „руская рэволюцыя як зьвяно соцыялістычнага перавароту ў Эўропе“ і інш. пяняцьці і ідэі* бальшавізму распрацаваны Ў. І. Леніным *іменна ў даны пэрыод на вопыце і жывых фактах клясавага змаганьня мас*“ (т. V, стар. 7-8, падкрэсьлена ўсюды намі—З. і Л.).

У гэтых некалькіх радкох зьмешчана такая клевята на Леніна, на бальшавізм, якая не патрабуе адказу і адказаў, бо гэта клевята ставіць пытаньне аб бальшавізьме Леніна перад 1905 г. і ў ходзе рэволюцыі, „а нельга абарачаць у прадмет дыскусіі пытаньне аб *бальшавізьме* Леніна, пытаньне аб тым,... *быў* Ленін сапраўдным бальшавіком ці *ня быў* такавым“ (Сталін). Але гэтая клевята патрабуе выкрыцьця яе тым больш, што яна распаўсюджваецца ў прадмове *да твораў Леніна.*

Якая думка праводзіцца ў прадмове аўтарам? Такая думка, што Ленін, а значыць і бальшавізм, уступіў у рэволюцыю 1905 г. з стратэгічнай лініяй бяз ідэі рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства, ідэі ўзброенага паўстаньня, перарастаньня і інш., якія пералічаны аўтарам у прадмове, што гэтыя ідэі яшчэ да рэволюцыі *ня* былі пертвораны ў лёзунгі, і гэтыя лёзунгі *ня* былі ўжыты ў час рэволюцыі. Не, т. Сэрбэнта лічыць, што толькі „паняцьці і ідэі“ былі распрацаваны Леніным „на падставе вопыту“ рэволюцыі, г. зн. пасьля рэволюцыі ці ў ходзе яе! Застаецца невядомым—з чымжа ішоў бальшавізм да рэволюцыі?

Адказ на гэта даецца ў прадмове т. Сэрбэнта некалькімі строкамі вышэй цытаванага намі месца: „Да рэволюцыйнага гістарычнага дзейства *прыходзілі новыя соцыяльныя пласты,* узьнікалі новыя палітычныя плыні і партыі“ (т. V, стар. 7).

Выходзіць, што нейкіх „новых соцыяльных пластоў“ Ленін і бальшавікі ня ўлічылі і павінны былі ў час рэволюцыі і пасьля яе пераглядаць свае „асноўныя ідэі“ і высунуць цэлы рад новых „ідэй і паняцьцяў“!

Але гэтую клевяту на Леніна лёгка абвергнуць, бо дастаткова паглядзець творы Ў І., пісаныя да 1905 г., каб ведаць, што і раней ставілася Леніным пытаньнем хоць-бы аб узброеным паўстаньні.

Калі т. Сэрбэнта забыўся пра зьмест брошуры Леніна „Што рабіць“, якую ён зьмясьціў у III томе, калі т. Сэрбэнта ня чытаў папярэдніх твораў Леніна, то даволі было-б заглянуць у самы популярны падручнік па гісторыі ЎсеКП(б), каб стала ясным т. Сэрбэнту, што ня ў *выніку* рэволюцыі 1905 г. пастаўлена пытаньне аб „узброеным паўстаньні“, а яшчэ на II і III зьездах партыі гэта пытаньне стаяла. А ва ўсіх даведачніках можна знайсьці, што, напрыклад, II зьезд партыі быў *да* рэволюцыі 1905 г., ды і III зьезд быў *не пасьля* рэволюцыі!

Тое-ж самае і з пытаньнем „нацыяналізацыі зямлі“. Яшчэ ў 1925 г. вышаў III „Ленинский сборник“, у якім зьмешчаны артыкул Леніна „Аграрная програма рускай соцыял-дэмократыі“ поўнасьцю, як пісаў Ленін, без „паправак“ рэдакцыі „Искры“, без „паправак“ Пляханава. І ўжо ў III томе беларускага выданьня гэты артыкул зьмешчаны поўнасьцю без пляханаўскіх скажэньняў. Так што т. Сэрбэнта павінен быў ведаць наступныя месцы ў тым артыкуле Ў. І.:

„Іншая рэч—нацыяналізацыя зямлі. Гэта патрабаваньне (калі разумець яго ў буржуазным, а не ў соцыялістычным сэнсе) сапраўды „ідзе далей“ патрабаваньня вярнуць адрэзкі *і ў прынцыпе мы цалкам*

*згодны з гэтым патрабаваньнем. У пэўны рэволюцыйны момант мы не адмовімся, зразумела, яго высунуць"* (падкрэсьлена намі—З і Л.).

І далей Ленін прызнае, што патрабаваньне нацыяналізацыі зямлі „зусім правільна з прынцыповага пункту гледжаньня і зусім прыгодна для пэўных момантаў", прычым акрэсьлівае гэты момант, як „эпоху рэволюцыйнага паўстаньня" („Ленинский сборник", III, стар. 352-353 ці III том бел. выд., стар. 320-321).

Ці гэтага недастаткова, каб сказаць, што Ленін пытаньне аб нацыяналізацыі ставіў яшчэ ў 1902 г. (цытаваны артыкул напісаны ў 1902 г.)? Можна знайсьці шмат іншых месц у Леніна падобнага-ж характару, якія ўсім вядомы, апрача рэдактара твораў Леніна. Усім вядома і тое, што супроць цытаванага вышэй месца з ленінскага артыкулу паўстаў Пляханаў, паводле патрабаваньня якога і было гэта месца рэдакцыяй выкрэсьлена з артыкулу Леніна. Усім вядома, што Аксэльрод усьлед за Мартавым напісаў, як член рэдакцыі „Искры", на рукапісу Леніна: „Нацыяналізацыя зямлі і як лёзунг *паўстаньня*—цяпер антырэволюцыйна" (Лен. сб., III, стар. 385).

Навошта-ж, т. Сэрбэнта, рабіць Леніна меншавіком да рэволюцыі і ў часе рэволюцыі 1905 г.? Калі гэта робіць Ваганян у сваёй кнізе аб Пляханаве, то гэту трацкісцкую клевяту навошта яшчэ раз паўтараць?

Т. Сэрбэнта лічыць, што і *„ідэя"* рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства, а значыць і саюзу з сялянствам узьнікла ў Леніна толькі „на падставе вопыту і ў ходзе рэволюцыі 1905 г.". Інакш кажучы,—бальшавізм, які паводле слоў Леніна „існуе як плынь палітычнай мысьлі і як палітычная партыя з 1903 г.", ішоў да рэволюцыі бяз яснага прадстаўленьня па асноўных пытаньнях кожнай рэволюцыі—аб уладзе, аб рухаючых сілах і саюзьніках пролетарыяту ў перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Гэта той-жа меншавіцка-трацкісцкі паклёп і на Леніна і на партыю, гэта ёсьць яўная фальсыфікацыя гісторыі бальшавізму. Ці можна думаць, што рэдактару твораў У. І. невядомы наступныя словы Леніна ў № 3 „Искры":

> „Ад гнёту капіталу дробнае сялянства пазбавіцца толькі далучаючыся да рабочага руху, дапамагаючы яму ў барацьбе за соцыялістычны лад, за ператварэньне зямлі, як і іншых сродкаў вытворчасьці (фабрык, заводаў, машын і інш.) у грамадзкую маемасьць" (Ленін, т. IV, стар. 102).

Ці ў гэтых словах Леніна не гаворыцца проста і адкрыта аб саюзе пролетарыяту і сялянства ня толькі ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, але і аб саюзе з дробным сялянствам у *барацьбе* за соцыялістычны лад? Гэтага т. Сэрбэнта ня хоча бачыць, бо яму трэба абгрунтаваць сваё трацкісцкае сьцьвярджэньне, што ў Леніна ў часе рэволюцыі ці нават у выніку яе ўзьнікла *толькі „ідэя"* перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, *толькі „паняцьце"* аб рэволюцыі ў Расіі, як „зьвяне соцыялістычнага перавароту ў Эўропе".

Мы ня будзем спыняцца на гэтай трацкісцкай хлусьні на Леніна і бальшавізм, бо яна цалкам ускрыта т. Сталіным у яго лісьце ў час. „Пролетарская Революция". А што датычыцца да клевяты т. Сэрбэнта аб тым, што толькі ў 1905 г. узьнікла ў Леніна „паняцьце" аб рускай рэволюцыі, як зьвяне соцыялістычнага пераароту ў Эўропе,

то гэта клевята ўскрываецца наступнымі словамі Леніна ў яго рабоце „Што рабіць“:

„Гісторыя паставіла цяпер перад намі задачу, якая зьяўляецца найбольш рэволюцыйнай з усіх бліжэйшых задач пролетарыяту, якога-б там ні было іншага краю. Ажыцьцяўленьне гэтай задачы, разбурэньне самай магутнай апоры ня толькі эўропейскай, але таксама (мы можам сказаць цяпер) і азіяцкай рэакцыі, *зрабіла-б рускі пролетарыят авангардам міжнароднага рэволюцыйнага пролетарыяту*“ (Ленін, т. III, стар. 114 бел. выданьня, падкрэсьлена намі—З. і Л.).

Гэта пісана ў 1902 годзе. Але возьмем самыя раньнія творы Ў. І., возьмем „Што такое „друзья народу“ і там мы знойдзем адказ на тыя пытаньні, якія па думцы Сэрбэнта Ленін паставіў толькі ў 1905 годзе:

„Рускі **рабочы**, падняўшыся на чале ўсіх дэмократычных элемэнтаў, зваліць абсолютызм і павядзе **рускі пролетарыят** (побач з пролетарыям **усіх краёў**) прамым шляхам адчыненай політычнай барацьбы да пераможнай комуністычнай рэволюцыі“. (т. І, стар. 194).

Няўжо невядома рэдактару твораў Леніна, што ў 1920 годзе ў рабоце „Дзіцячая хвароба „лявізны“ У. І. гаворыць наступнае:

„Годы падрыхтоўкі рэволюцыі (1903—1905). Усюды адчуваецца набліжэньне вялікай буры. Ва ўсіх клясах бражэньне і падрыхтоўка. За мяжой эміграцкая прэса ставіць тэорытычна *ўсе* (падкрэсьлена Ў І—З. і Л.) асноўныя пытаньні рэволюцыі. Прадстаўнікі трох асноўных кляс, трох галоўных плыняй, лібэральна-буржуазнай, дробна-буржуазна-дэмократычнай (прыкрытая вывескамі „соцыял-дэмократычнага“ і „соцыял-рэволюцыйнага“ напрамку) і пролетарска-рэволюцыйнай самым жорсткім змаганьнем програмных і тактычных поглядаў, прадвасхішчаюць—і падрыхтоўваюць—надыходзячую адчыненую барацьбу кляс.

*Усе* (падкрэсьлена Ў. І.—З. і Л.) пытаньні, з-за каторых ішла ўзброеная барацьба мас у 1905—07 гадох і ў 1917—1920 гадох, можна (і павінна) прасачыць у зародкавай форме па тагочаснаму друку. А паміж трыма галоўнымі напрамкамі, разумеецца, ёсьць колькі ўгодна прамежных, пераходных, палавінлівых утварэньняў...

Годы рэволюцыі (1905—1907). Усе клясы выступаюць адчынена. Усе програмныя і тактычныя погляды *правяраюцца* дзействам мас.“ (Ленін—т. XXV, стар. 175-176).

Больш ясна, больш конкрэтна, чым сказаў тут Ленін аб тэорытычнай пастаноўцы *яшчэ да рэволюцыі 1905 году ўсіх* асноўных пытаньняў рэволюцыі, аб выкрышталізаваньні *яшчэ да рэволюцыі 1905 году* ня толькі трох асноўных, але і палавінчатых, пераходных плыняў, аб праверцы правільнасьці програмных і тактычных поглядаў дзействам мас у рэволюцыі 1905 году, сказаць аб гэтым больш ясна нельга. Леніным сказана дыямэтральна-процілеглае таму, што сьцьвярджае Сэрбэнта ў сваёй прадмове.

Даволі і гэтых прыкладаў, каб паказаць, што мы маем справу з яўнай меншавіцка-трацкісцкай контрабандай, з фальсыфікацыяй гісторыі партыі і ленінізму.

І горш за ўсё тое, што такая трацкісцкая контрабанда, фальсыфікуючая гісторыю бальшавізму і ленінізм, распаўсюджваецца разам з творамі Леніна. Неабходна зараз-жа і рашуча ўдарыць па „фальсыфіка-

тарах гісторыі нашай партыі, сыстэматычна зрываючы з іх маскі" (Сталін).

Неабходна зараз-жа падрабязна выкрыць *усю* трацкісцкую контрабанду, усе памылкі, якія дапушчаны ў прадмове і ў дадатках да III і V тамоў, даць ім разгорнутую крытыку і тлумачэньне і асобнай брошурай разаслаць яе ўсім падпішчыкам твораў Леніна.

Неабходна пераглядзець і іншыя тамы, якія ўжо зданы ў друк.

І апошняя і неабходная мера, выплываючая з ўсіх вышэйпаданых фактаў, гаворыць за неабходнасьць перадачы непасрэднага рэдагаваньня твораў У. І. Леніна ў бальшавіцкі вытрыманыя рукі.

---

**І. Немец, Ц. Гурэвіч**

# Контрабанда неразброіўшагася трацкіста

Пісьмо т. Сталіна мае тое вялікае сусьветна-гістарычнае значэньне, што яно ўскрыла ўвесь сэнс трацкізму на сучасным этапе, як перадавога атраду контррэволюцыйнай буржуазіі, ускрыла шляхі і мэтоды змаганьня контррэволюцыйнага трацкізму і ўсялякага віду опортунізму супроць Комінтэрну і ЎсеКП(б).

„Асаблівасьці сучаснага этапу змаганьня за партыю, за ленінізм заключаюцца ў тым, што трацкізм разьбіты, правы ўхіл выкрыты, а генэральная лінія партыі перамагла па ўсёй лініі“ (Кагановіч).

Таму трацкізм ня можа адкрыта выступаць пад сваім апаганеным контррэволюцыйным сьцягам, ён выступае замаскавана, імкнучыся працягваць сыстэму сваіх „ідэй“ шляхам контрабанды і скарыстаньня ідэй люксэмбургіянства.

Т. Сталін у сваім пісьме „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму“ ўскрыў, што трацкісты праводзяць сваю контрабанду пакуль-што па дзьвюх наступных лініях:

„Па-першае, яны стараюцца даказаць, што Ленін у перадваенны пэрыод недаацэньваў небясьпеку цэнтрызму, пры гэтым пакідаецца неспрактыкаванаму чытачу дагадвацца, што Ленін, значыцца, ня быў яшчэ тады сапраўдным рэволюцыянэрам, што ён зрабіўся такім толькі пасьля вайны, пасьля таго, як „пераўзброіўся“ пры дапамозе Троцкага...

Па-другое, яны стараюцца даказаць, што Ленін не разумеў неабходнасьці перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў рэволюцыю соцыялістычную, пры гэтым пакідаецца неспрактыкаванаму чытачу дагадвацца, што Ленін, значыцца, ня быў яшчэ тады сапраўдным бальшавіком, што ён зразумеў неабходнасьць такога перарастаньня толькі пасьля вайны, пасьля таго, як ён „пераўзброіўся“ пры дапамозе Троцкага“.

Трацкісты сваёй контрабандай імкнуцца разьвянчаць бальшавізм, „паказаць“, што тэорыя пэрманэнтнай рэволюцыі, якая нібы ўспрынята партыяй у 1917 г., зьяўляецца сапраўднай рэволюцыйнай зброяй пролетарыяту, ад якой бальшавізм адступае сваёй тэорыяй і практыкай пабудовы соцыялізму ў адной краіне, ажыцьцяўленьнем пяцігодкі ў чатыры гады.

Гэтым трацкізм імкнецца паслабіць веру і волю працоўных мас СССР да змаганьня і перамогі, дыскрэдытаваць УсеКП(б) як перадавы атрад Комінтэрну, дыскрэдытаваць бальшавіцкую лінію Комінтэрну.

Т. Сталін паставіў у сваім лісьце задачу змаганьня за чыстату ленінскай тэорыі, за падвышэньне партыйнай пільнасьці і непрымірымасьці, рашучага змаганьня супроць працягваньня контррэволю-

цыйнай трацкісцкай і ўсякай іншай контрабанды і гнілога лібэралізму ў адносінах да іх.

На гістарычным фронце Беларусі мы бачылі таксама праяўленьні працягваньня „ідэй“ контррэволюцыйнага трацкізму, спробы ідэалізацыі дробнабуржуазных партый, працягваньне нацыянал-дэмакратычных, вялікадзяржаўна-шовіністычных, люксэмбургіянскіх установак.

У працах Югава, які пасьля контррэволюцыйнай трацкісцкай дзейнасьці на словах адмовіўся ад трацкізму і быў адноўлены ў партыі, мы маем *трацкісцкую концэпцыю па ўсіх асноўных пытаньнях стратэгіі і тактыкі бальшавізму*. Апрача сваёй працы аб Саветах у 1917 г., напісаную ім яшчэ ў 1927 г., Югаў працягваў трацкісцкія ўстаноўкі і „ідэйкі“ і пасьля свайго аднаўленьня ў партыі, у прыватнасьці ў сваёй працы „Ленін і сталыпіншчына“, зьмешчанай у „Марксыцкім зборніку“, які вышаў у 1931 г., а таксама і ў іншых сваіх працах.

Шмат часу трацкісцкія ўстаноўкі ў югаўскіх працах ня былі выкрыты і яго кнігі раіліся ў якасьці падручнікаў падрастаючым кадрам.

Гэта сьведчыць аб наяўнасьці гнілога лібэралізму сярод некаторай часткі бальшавікоў і ў прыватнасьці сярод раду працаўнікоў гістарычнага фронту Беларусі.

Толькі змаганьне з гнілым лібэралізмам, які паводле выразу т. Сталіна зьяўляецца „галавацяпствам, якое мяжуе са здрадамі рабочай клясе“, толькі выкрыцьцё і рашучае змаганьне з трацкісцкай контрабандай, з усякімі спробамі фальсыфікацыі гісторыі бальшавізму,— дасьць магчымасьць паставіць вывучэньне гісторыі бальшавізму на сапраўдныя бальшавіцкія рэйкі.

Задачай нашага артыкулу зьяўляецца паказаць, як у гэтых дзьвюх сваіх асноўных працах Югавым працягвалася ідэолёгія контррэволюцыйнага трацкізму, як Югаў імкнуўся разьвянчаць бальшавізм і ў асноўных пытаньнях пролетарскай рэволюцыі проціпаставіць трацкізм ленінізму.

## I

Толькі бальшавіцкая партыя, якая кіруецца рэволюцыйнай тэорыяй марксызму-ленінізму, якая вырасла і склалася ў змаганьні на два франты супроць усякага роду опортунізму на працягу ўсёй сваёй гісторыі, змагла кіраваць рабочай клясай і працоўнымі масамі, абагуліць і ўкараніць практыку рэволюцыйнага змаганьня сусьветнага і, у прыватнасьці, расійскага пролетарыяту пэрыоду 1905 г., рэакцыі і вайны, каб падрыхтаваць і забясьпечыць перамогу пролетарскай рэволюцыі і пабудову социялізму ў СССР.

„Толькі гісторыя бальшавізму *за ўвесь пэрыод* яго існаваньня можа здавальняюча растлумачыць, чаму ён здолеў выпрацаваць і ўтрымаць пры самых цяжкіх умовах жалезную дысцыпліну неабходную для перамогі пролетарыяту“ (Ленін, т. XVII, стар. 118).

„Ленінізм ёсьць *цэльная* (падкрэсьлена намі — І. Н., Ц. Г.) тэорыя, узьнікшая ў 1903 г., прайшоўшая іспытаньні трох рэволюцый і ідучая цяпер наперад, як баявы сьцяг сусьветнага пролетарыяту“ (Сталін—„Аб опозыцыі“, стар. 122).

„Для трацкізму,—кажа т. Сталін,—ня існуе адзінай і цэльнай гісторыі нашай парыі. Трацкізм падзяляе гісторыю нашай партыі на дзьве няроўныя часткі: на дакастрычніцкую і пасьлякастрычніцкую (Сталін — „Аб опозыцыі“, стар. 122). Трацкаму гэта па-

трэбна, каб укараніць у нашу партыйную, комсамольскую і рабочую моладзь, што толькі тое „важна і прыемлема ў ленінізьме, што мела месца пасьля вайны ў пэрыод Кастрычніцкай рэволюцыі і, наадварот, няправільна, няпрыемлема ў ленінізьме тое, што мела месца да вайны, да Кастрычніцкай рэволюцыі“ (Сталін—„Аб опозыцыі“, стар. 121).

Трацкізм хоча даказаць, што бальшавізм у дакастрычніцкі пэрыод станавіў сабой ня партыю рабочай клясы, якая разглядала змаганьне пролетарыяту на дэмократычным этапе рэволюцыі, як неразрыўную частку змаганьня за соцыялістычны пераварот, а як партыю, якая прыстасоўвала змаганьне пролетарыяту да абароны прыватна-ўласьніцкіх інтарэсаў дробнай буржуазіі і ў прыватнасьці сялянства.

Гэтым ён хоча даказаць, што бальшавікі „клясавае змаганьне пролетарыяту даводзяць толькі да моманту перамогі буржуазнай рэволюцыі“ (Троцкі—1905 г., стар. 285), пасьля чаго няўнікнёна павінны былі-б выступіць „антырэволюцыйныя рысы бальшавізму“ (там-жа), і бальшавікі павінны былі стаць тормазам соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі, калі, паводле слоў Троцкага, бальшавізм не пераўзброіўся-б:

„Гэта, як вядома,—гаворыць Троцкі,—ня адарылася, бо пад кіраўніцтвам Леніна бальшавізм зрабіў (не бяз унутранага змаганьня) сваё ідэйнае пераўзбраеньне ў гэтым важнейшым пытаньні ўвосень 1917 г., г. зн. да захопу ўлады“ (Троцкі—1905 г., стар. 285).

Такім чынам, асноўная ўстаноўка Троцкага заключаецца ў тым, каб дыскрэдытаваць усю дакастрычніцкую гісторыю бальшавізму. Гэтую „дырэктыву“ старанна выконвае Югаў у адносінах да ўсіх асноўных пытаньняў стратэгіі і тактыкі бальшавізму і ў першую чаргу ў адносінах да рэволюцыі 1905 г.

Якою была стратэгічная лінія бальшавікоў у рэволюцыі 1905—1917 гг.?

Ленінская стратэгічная лінія ў рэволюцыю 1905 г. была разьлічана на тое, каб, пасьпяхова завяршыўшы буржуазна-дэмократычную рэволюцыю, пачаць неадкладны пераход да рэволюцыі соцыялістычнай. Вось што піша Ленін па гэтым пытаньні:

„Ад буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі мы зараз-жа пачнем пераходзіць і якраз *у меру нашай сілы, сілы організаванага і сьвядомага пролетарыяту* (падкрэсьлена намі—І. Н., Ц. Г.), пачнем пераходзіць да рэволюцыі соцыялістычнай. Мы стаім за непарыўную рэволюцыю. Мы ня спынімся на паўдарозе“ (Ленін—т. VI, стар. 449).

З пункту гледжаньня ленінізму асноўнай умовай пераходу ад рэволюцыі буржуазна-дэмократычнай да соцыялістычнай зьяўляецца ступень організаванасьці і сьвядомасьці пролетарыяту і яго авангарду, яго сувязь з рознымі пластамі працоўных мас.

Пролетарыят, зьяўляючыся гегемонам у буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі (а рэволюцыя „згуртоўвае“ і „прасьвяшчае“ вельмі хутка), па-гіганцку павялічвае сваю організаванасьць і выкарыстоўвае ўсе магчымасьці, каб прыцягнуць на свой бок сялянскую беднату, ствараючы, такім чынам, унутраныя прадпасылкі для неадкладнага пераходу да соцыялістычнай рэволюцыі.

Такім чынам, Ленін разглядаў буржуазна-дэмократычную рэволюцыю як першы і неабходны этап да рэволюцыі сацыялістычнай і лічыў, што руская рэволюцыя 1905 г. стварае ўсе ўнутраныя прадпасылкі для неадкладнага пераходу ад рэволюцыі дэмократычнай да социялістычнай.

У процівагу ленінскаму разуменьню проблемы перарастаньня Югаў высоўвае схему разьвіцьця рэволюцыі, якая цалкам супярэчыць ленінізму. Ён піша:

„Паміж 1905 і 1917 гг. адбыліся надзвычайна вялікія зьмены як у адносінах унутры Расіі, так і ва ўсёй міжнароднай абстаноўцы. Гэтыя зьмены прывялі да таго, што калі ў рэволюцыі 1905 г. буржуазна-дэмократычным быў зьмест рэволюцыі, дык у 1917 г. буржуазна-дэмократычным быў ужо толькі этап—першы этап рэволюцыі“ (Марксыцкі зборнік, т. II, стар. 33).

Паводле Югава рэволюцыя 1905 г. разглядалася Леніным не як першы этап да социялістычнай рэволюцыі, а як рэволюцыя, якая пасьля зьнішчэньня рэштак фэўдалізму нібы ставіць сваёй мэтай зацьверджаньне буржуазнага ладу з тым, каб толькі пасьля доўгіх гадоў разьвіцьця паставіць у парадак дня пытаньне аб рэволюцыі соцыялістычнай.

Такое „тлумачэньне“ ленінскай тэорыі перарастаньня робіць яе зусім аднолькавай са звычайна-меншавіцкім пунктам гледжаньня на адносіны паміж буржуазна-дэмократычнай і соцыялістычнай рэволюцыяй. Характарызуючы гэты меншавіцкі пункт гледжаньня, т. Сталін пісаў:

„Героі II Інтэрнацыяналу сьцьвярджалі (і далей сьцьвярджаюць), што паміж буржуазна-дэмократычнай рэволюцыяй, з аднаго боку, і пролетарскай, з другога,—існуе бяздоньне, ці, ва ўсякім выпадку, кітайская сьцяна, якая аддзяляе адну ад другой больш ці менш доўгім інтэрвалам, на працягу якога прышоўшая да ўлады буржуазія разьвівае капіталізм, а пролетарыят накапляе сілы і рыхтуецца да „рашучага змаганьня“ супроць капіталізму. Інтэрвал гэты вылічаецца звычайна многімі дзесяткамі гадоў, калі ня больш. Наўрад ці трэба даказваць, што „тэорыя“ кітайскай сьцяны пазбаўлена ўсякага навуковага сэнсу ў абстаноўцы імпэрыялізму, што яна зьяўляецца і ня можа не зьяўляцца толькі прыкрыцьцём, прыаздабленьнем контррэволюцыйных прагненьняў буржуазіі“ (Сталін—„Пытаньні ленінізму“, стар. 27).

Югаў, такім чынам, сьцьвярджае фактычна, што ў асноўных пытаньнях стратэгіі рэволюцыі пэрыоду 1905 г. бальшавізм нічым па сутнасьці не адрозьніваўся ад меншавізму, і да 1917 г. ня ставіў проблемы неадкладнага пераходу ад буржуазнай рэволюцыі да соцыялістычнай, г. зн. ня ставіў проблемы перарастаньня.

Чаму-ж паводле Югава буржуазна-дэмократычная рэволюцыя ў Расіі з 1905 па 1917 гг. не разглядалася Леніным як этап да соцыялістычнай рэволюцыі?

Таму, што, паводле Югава, Ленін стаяў на позыцыях суханаўска-меншавіцкіх поглядаў на рэволюцыю. Вось што піша Югаў аб Леніне:

„Ніводзін марксыст у Расіі—гаварыў Ленін—не адмаўляе таго, што характар расійскай рэволюцыі, узятай самой па сабе, яе об'ектыўныя магчымасьці ня выходзяць за межы буржуазнай рэволюцыі“ (Марксыцкі зборнік, т. II, стар.).

Сьцьвярджэньне-то правільнае, але-ж не па адрасу. Ня Ленін, а меншавікі і трацкісты ў 1906 і 1917 гг. лічылі (і зараз лічаць), што ў Расіі няма об'ектыўных магчымасьцяй і ўнутраных прадпасылак для пролетарскай рэволюцыі.

Вось што Ленін піша 9-га жніўня 1905 году:

„Рэволюцыя будзе буржуазнай. Да яна ня будзе социялістычнай, яна ня можа адразу зьнішчыць капітал, прыватную ўласнасьць на сродкі вытворчасьці. Але рэволюцыя можа быць і павінна быць дэмократычнай. Яна павінна дайсьці да канца. *Але канец вышы прадзел буржуазнай рэволюцыі, ёсьць у той-жа час пачатак рэволюцыі социяльнай* (падкрэсьлена намі—Н. І., Г. Ц.), бо ён стварае ўсе тыя прадпасылкі далейшай барацьбы пролетарыяту, патрабаваньне якіх мы выставілі ў нашай програме-мінімум" (Ленін—т. VI, 420 стар.),

Югаў тут паўтарае тую-ж самую зьбітую „ісьціну" меншавікоў, з якой яны насіліся, як з „пісанай торбай", паводле выразу Леніна, і якую зараз соцыял-фашысты зрабілі зброяй змаганьня супроць социялістычнага будаўніцтва СССР і сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

Гэта старая зьбітая „ісьціна" меншавікоў і заключаецца ў тым сьцьвярджэньні, як гаворыць пра іх Ленін, „што ў нас няма, як выражаюцца розныя „вучоныя" паны з іх, об'ектыўных экономічных прадпасылак для соцыялізму".

У сувязі з гэтым меншавіцка-трацкісцкім тэзісам трактуе Югаў ленінскую пастаноўку проблемы двух шляхоў разьвіцьця, якая ў Леніна шчыльна зьвязана з проблемай перарастаньня [1]).

Ленін разглядаў змаганьне за амэрыканскі шлях разьвіцьця як непарыўную частку змаганьня за перарастаньне буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў социялістычную.

Амэрыканскі шлях разьвіцьця ў адрозьненьне ад прускага азначаў з пункту гледжаньня Леніна найбольш хуткае радыкальнае і рашучае зьнішчэньне рэштак прыгоньніцтва шляхам рэволюцыі, на чале якой стаіць пролетарыят, гэтым самым расчышчаючы сабе шлях для неадкладнага пераходу разам з сялянскай беднатой да пролетарскай рэволюцыі. Ленін пісаў:

„Чым паўней і рашучай, чым пасьлядоўней будзе буржуазная рэволюцыя, тым больш забясьпечана будзе змаганьне пролетарыяту за соцыялізм. Толькі людзям, якія ня ведаюць азбукі навуковага соцыялізму, гэты вынік можа здацца дзіўным" (Ленін—том VI, стар. 330).

У працах Югава, прысьвечаных проблеме аб двух шляхох разьвіцьця капіталізму, змаганьне бальшавікоў за амэрыканскі шлях разьвіцьця прадстаўляецца як змаганьне за найбольш хуткі, свабодны шлях разьвіцьця капіталізму.

Нідзе ў сваёй рабоце „Ленін і сталыпіншчына" Югаў не паказвае, што змаганьне бальшавікоў за амэрыканскі шлях разьвіцьця капіта-

[1]) Трэба мець на ўвазе, што ў гэтай кнізе Югаў разглядае, галоўным чынам, проблему двух шляхоў зьнішчэньня рэштак прыгоньніцтва. Прускі і амэрыканскі шляхі Ленін характарызаваў наступным чынам:

„Гэтыя два шляхі об'ектыўна магчымага буржуазнага разьвіцьця мы назвалі-б шляхам прускага і амэрыканскага тыпу. У першым выпадку прыгоньніцкая памешчыцкая гаспадарка паступова перарастае ў буржуазную-юнкерскую. асуджаючы сялян на дзесяцігодзьдзі самай мучыцельнай экспропрыяцыі і кабалы, пры выдзяленьні невялікай меншасьці „гросбаўэраў" (буйных сялян). У другім выпадку памешчыцкай гаспадаркі няма, бо яна разьбіваецца рэволюцыяй" (Ленін—том IX, стар. 443-444).

лізму зьяўляецца найлепшай умовай для стварэньня прадпасылак перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

Паколькі, як гэта было паказана намі вышэй, расійская рэволюцыя, як кажа Югаў, сама па сабе ня мела об'ектыўных магчымасцяй, каб перайсьці да соцыялістычнай рэволюцыі, пастолькі змаганьне бальшавікоў за амэрыканскі шлях разьвіцьця, з пункту гледжаньня Югава, магло мець толькі адзін сэнс: гэта была барацьба за найлепшы шлях разьвіцьця капіталістычных вытворчых сіл, каб потым на гэтай аснове ставіць пытаньне аб зьнішчэньні яго.

Гэта відаць хоць-бы з таго, як Югаў тлумачыць сутнасьць ленінскага лёзунгу нацыяналізацыі зямлі ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі. У сваёй рэцэнзіі на кнігу Агурскага, у якой (кнізе) ёсьць рад няправільных палажэньняў, Югаў адкідвае зусім правільную заўвагу Агурскага аб тым, што нацыяналізацыя зямлі разьлічана не на замацаваньне буржуазных адносін, а на замацаваньне позыцый пролетарыяту ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі для неадкладнага пераходу да барацьбы за соцыялізм.

Выступаючы супроць гэтага сьцьвярджэньня Агурскага, даказваючы яму, што „нацыяналізацыя зямлі тэорытычна ня толькі сумяшчальна з буржуазнымі адносінамі, але і садзейнічае больш хуткаму іх разьвіцьцю“ (Гісторык марксыст, т. 13, стар. 258), Югаў адкідвае сапраўдную сутнасьць ленінскага лёзунгу аб нацыяналізацыі зямлі.

Якое значэньне Ленін прыдаваў нацыяналізацыі зямлі?

„Нацыяналізацыя зямлі,—гаворыць Ленін,—будучы буржуазнай мерай азначае найбольш магчымую і мысьлімую ў капіталістычным грамадзтве свабоду клясавай барацьбы і свабоду землякарыстаньня ад усіх не буржуазных прыдаткаў. Акрамя таго, нацыяналізацыя зямлі, *як аджэна прыватнай уласнасьці ка зямлю, азначала-б на практыцы такі магутны ўдар прыватнай уласнасьці на ўсе сродкі вытворчасьці наогул* (падкрэсьлена намі — Н. І., Г. Ц.), што партыя пролетарыяту павінна аказаць усялякую дапамогу падобнаму прэабразаваньню“ (Ленін — прыл. к XX тому, дак. і мат. па агр. пытаньню. Выданьне 3-яе, стар. 615).

Нацыяналізацыі зямлі ў руках пролетарыяту, які ажыцьцяўляе гегемонію ў дэмократычнай рэволюцыі, зьяўляецца з пункту гледжаньня Леніна сродкам, які аблягчае неадкладны пераход да барацьбы за соцыялізм і прыцягненьня беднаты на бок пролетарыяту супроць гарадзкой і вясковай буржуазіі для неадкладнага пераходу да соцыялістычнай рэволюцыі. Гэта лішні раз даказвае тое, што Югаў прыпісвае Леніну такі погляд на рэволюцыю 1905 г., нібы яна аддзелена кітайскай сьцяной, доўгім часам капіталістычнага разьвіцьця ад рэволюцыі соцыялістычнай.

Трацкісцкія капітулянты ніколі ня верылі ў здольнасьць пролетарыяту быць гегемонам у буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, у яго здольнасьць стаць на чале ўсіх бяднейшых і паўпролетарскіх пластоў насельніцтва ў соцыялістычнай рэволюцыі.

Югаў прыпісвае Леніну такія погляды:

„У сваіх сапраўды геніяльных заметках „Этапы накіраваньня рэволюцыі, пэрспэктывы“ Ленін намячае і такі этап, дзе пролетарыят выступае *зусім самастойна* (падкрэсьлена намі—І. Н., Ц. Г.) для соцыялістычнага перавароту“ (Марксыцкі зборнік, т. II. стар. 33).

Паводле Югава пролетарыят у соцыялістычнай рэволюцыі выступае зусім адзін, без саюзьнікаў, без сялянскай беднаты і зказваецца

ў варожым акружэньні дробнай буржуазіі і ў прыватнасьці сялянства.

Гэтым самым Югаў фактычна адмаўляе наяўнасьць унутраных прадпасылак для соцыялістычнай рэволюцыі (кіруючую ролю пролетарыяту і наяўнасьць яго саюзьнікаў).

Зусім ясна з пункту гледжаньня трацкістаў, што калі пролетарыят павінен выступіць адзін у абкружэньні дробнабуржуазнай стыхіі, дык яму нічога больш не застаецца, як шукаць ратунку на шляху дзяржаўнай дапамогі перамогшага ў соцыялістычнай рэволюцыі пролетарыяту Захаду.

Паводле трацкісцкай тэорыі рэволюцыі падтрыманьне, ні ў якай форме, апрача пераможнай соцыялістычнай рэволюцыі на Захадзе, ня можа забясьпечыць перамогу пролетарскай рэволюцыі ў Расіі, бо гэта рэволюцыя ня мае ўнутраных сіл для перамогі.

Гэтую па сутнасьці трацкісцкую ідэю Югаў праводзіць ў завуаляванай замаскаванай форме (бо нельга, знаходзячыся ў партыі, прапаведваць у адкрытай форме выкрытую партыяй трацкісцкую тэорыю пэрманэнтнай рэволюцыі). Ён піша:

> „Ці аказалася-б дастатковай у 1905 г. такая дапамога, якую аказваў нам міжнародны пролетарыят у часе грамадзянскай вайны 1917—1921 гг., сказаць напэўна нельга“ (Марксыцкі зборнік, кн. 2-ая, стар. 33).

Патрэбна ўспомніць тое падтрыманьне, якое аказваў нам сусьветны пролетарыят, каб выкрыць сапраўдную трацкісцкую сутнасьць гэтай контрабанды Югава.

1917—1921 гг.—гэта пэрыод буры і націску, пэрыод адкрытага і героічнага змаганьня міжнароднага пролетарыяту супроць сусьветнага імпэрыялізму, за ўладу, за соцыялізм. Рэволюцыя ў Германіі, рэволюцыя ў Аўстрыі, савецкая ўлада ў Вэнгрыі і Баварыі, паўстаньне ў Корэі, захоп рабочымі фабрык і заводаў у Італіі, рабочая рэволюцыя ў Фінляндыі і г. д.—усё гэта было праяўленьнем сапраўднай інтэрнацыянальнай пролетарскай солідарнасьці і падтрыманьнем з боку сусьветнага пролетарыяту расійскай рэволюцыі. і аб гэтай дапамозе Югаў піша, што „нельга сказаць“, ці была-б яна выстарчальнай для перамогі пролетарскай рэволюцыі ў Расіі.

Так праводзіцца Югавым трацкісцкая тэорыя пэрманэнтнай рэволюцыі пад выглядам ідэй ленінізму. Так разьвенчваецца гісторыя бальшавізму да 1917 г.

Югаў фальсыфікуе гісторыю бальшавізму і ў такім пытаньні, як адносіны бальшавікоў і Леніна да лібэральнай буржуазіі ў пэрыодзе 1905 г., калі гавораць, што Ленін нібы ацэньваў ролю лібэральнай буржуазіі на першым этапе рэволюцыі 1905 г. як ролю рэволюцыйную. Вось што піша Югаў:

> „Супроць самадзяржаўя павінны былі быць накіраваны, здавалася-б, усе сілы ня толькі пролетарыяту, але і сілы буржуазнага лібэралізму. *З пачатку так і было* (падкрэсьлена намі— І. Н., Ц. Г.), але і як выявілася, што і сялянства і тым больш пролетарыят ідуць далей... апошнія б'юць адбой“ (Марксыцкі зборнік, т. II, стар. 13).

Усім, хто ня хоча быць фальсыфікатарам гісторыі бальшавізму, добра вядома, што Ленін і наша партыя не разглядалі лібэральную буржуазію, як рэволюцыйную клясу ні на адным з этапаў рэволюцыі.

Ленін разглядаў лібэральную буржуазію, як сілу контррэволюцыйную і ў лепшым выпадку напярэдадні рэволюцыі 1905 г., як опозыцыйную. Югаў даказвае, што лібэральная буржуазія нават і ў пэрыодзе рэакцыі, калі лібэральная буржуазія зьяўлялася часткай усёй трэцячэрвеньскай сыстэмы, у ацэнцы Леніна быццам была толькі об'ектыўна-контррэволюцыйнай.

Югаў кажа: „Хоча ці ня хоча кадэцкая партыя, але яна аказваецца *об'ектыўна* (падкрэсьлена намі—І. Н., Ц. Г.) у прыяцельскім суседзтве праз Канавалава і Гучкова—са Сталыпіным і Раманавым“ (Марсыцкі зборнік, кн. 2-ая, стар. 78-79).

Фальсыфікуючы ленінізм, Югаў усяляк ахоўвае і абараняе „чыстату“ трацкізму. Ён не крытыкуе трацкізм нават у такіх пытаньнях, дзе апошні выступае найбольш яскрава і адкрыта ў яго адзінстве з меншавізмам. Так, гаворачы аб тым, што цэлая фракцыя ў соцыял-дэмократыі разглядала ў 1905 годзе аграрнае пытаньне, як пабочны продукт рэволюцыі, Югаў замоўчвае тое, што Троцкі выкрэсьліваў значэньне аграрна-сялянскага пытаньня ў рэволюцыі, ігноруючы буржуазна-дэмократычны характар яе першага этапу, што гэта зьяўлялася адной з асноў контррэволюцыйнай тэорыі пэрманэнтнай рэволюцыі.

Разглядаючы меншавіцкую тэорыю аб самастойнай ролі самаўладзтва ў расійскай гісторыі, ён абыходзіць трацкісцкую тэорыю аб надклясавасьці расійскага самаўладзтва, якая зьяўляецца адным з выходных пунктаў трацкісцкай тэорыі пэрманэнтнай рэволюцыі.

Трацкісцкія ідэі пратаскаваліся і ў пітаньні аб імпэрыялізьме. У сваім артыкуле „Проблемы імпэрыялізму ў расійскай гістарычнай навуцы“, надрукаваным у другім марксыцкім зборніку, Югаў, гаворачы аб марксыцкай тэорыі імпэрыялізму, ставіць на адну дошку ленінскую тэорыю імпэрыялізму з тэорыяй імпэрыялізму соцыял-фашыста Гільфэрдынга.

Крытыкуючы Герчыкава [1]), Югаў піша: „аўтар, далей выкладаючы гісторыю поглядаў М. М. Пакроўскага, ускрывае рад супярэчнасьцяй, даказвае неадпаведнасьць гэтых поглядаў з *агульна-прынятай тэорыяй імпэрыялізму Гільфэрдынга і Леніна* (падкрэсьлена намі—І. Н., Ц. Г.), устанаўляе адсутнасьць правільнага разуменьня і ў Ражкова“.

Югаў ня бачыць розьніцы паміж ленінскай тэорыяй імпэрыялізму, якая зьяўляецца тэорытычным абгрунтаваньнем эпохі краху капіталізму і сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, з Гільфэрдынгаўскай тэорыяй імпэрыялізму.

Усё гэта паказвае, што югаўская ідэолёгія зьяўляецца ідэолёгіяй трацкізму, якую ён у той ці іншай форме, завуалявана ці адкрыта ў сваіх працах пратаскваў.

Гэта датычыць і тых прац, у якіх Югаў распрацоўвае пытаньні адносна позыцыі бальшавікоў у 1917 годзе. Там Югаў праводзіць трацкісцкую тэорыю аб пераўзбраеньні бальшавізму. Але гэта будзе тэмай наступнай часткі артыкулу.

*(Канец будзе)*

---

[1]) Герчыкаў, былы выкладчык БДУ, напісаў артыкул пад назвай: „Проблемы імпэрыялізму ў расійскай гістарычнай навуцы“.

# БІБЛІОГРАФІЯ

Вігура А., Шулякоўскі Х.

## Супроць вялікадзяржаўніцкіх вылазак

Апошняя пастанова ЦК і ЦКК КП(б)Б („Зьвязда“ 26/XII-31 г. №342) з усёй сілай падкрэсьлівае, што „правільнае змаганьне за практычнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі можа з посьпехам праводзіцца толькі на аснове далейшага разгортваньня бязьлітаснай барацьбы супроць вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць беларускага шовінізму і контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў іншых колераў“... Пастанова ставіць перад усёй парторганізацыяй, перад усім тэорытычным фронтам БССР задачу—„*павысіць пільнасьць да вылазак і праяўленьняў вялікадзяржаўнага ўхілу як галоўнай небясьпекі на даным этапе і арганізаваць яшчэ больш актыўную барацьбу з ім, наносячы рашучы ўдар па опортуністычным і абыватальскім прымірэнцтве да вялікадзяржаўнага ўхілу*“.

У напружаным клясавым змаганьні, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, вядучы рашучую барацьбу з правым ухілам — галоўнай небясьпекай на даным этапе, з „левымі“ загібамі, ажыцьцяўляючы правільную ленінскую нацыянальную палітыку, пры падтрыманьні пролетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу, пролетарыят Савецкай Беларусі дасягнуў грамадных посьпехаў у соцыялістычным і культурна-нацыянальным будаўніцтве. Пытаньне „хто—каго“ вырашана як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы ў карысьць соцыялізму. Пабудова фундаманту соцыялістычнай экономікі скончана.

Але клясавы вораг, адчуваючы сваю пагібель, прабуе яшчэ шалёна супраціўляцца, ужываючы новыя формы, менш адкрытыя, больш замаскаваныя ў змаганьні супроць пераможнага соцыялістычнага наступленьня. Рэшткі разьбітага трацкізму, „прыкрываючыся, прымазваючыся, афарбоўваючыся“ ...прабуюць пранікнуць ва ўсе шчыліны“ (Кагановіч.) Адной з форм, у якіх праяўляецца супраціўленьне паміраючага клясавага ворага, зьяўляецца імкненьне яго сказіць, падарваць асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі, *што знаходзіць выражэньне ў актывізацыі вялікадзяржаўнага шовінізму* і мясцовых нацыянальных шовінізмаў. Як сказаў т. Сталін на XVI зьезьдзе, „Ня трудна зразумець, што гэты ўхіл (вялікадзяржаўны — В. і Ш.) адбівае імкненьне аджываючых кляс панаваўшай раней вялікарускай нацыі, зьвярнуць сабе страчаны прывілей. Адсюль небясьпека вялікарускага шовінізму як галоўная небясьпека ў партыі ў абсягу нацыянальнага пытаньня“.

Змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам — справа вельмі складаная, бо „вялікадзяржаўны шовінізм адзначаецца... тым... што ён

выступае ў скрытых формах, сказваецца ў паасобных праяўленьнях“ (т. Гей на XVI зьезьдзе). Гэта патрабуе ад нас павялічэньня бальшавіцкай непрымірымасьці і пільнасьці для рашучага адпору кожнай малейшай праяве вялікадзяржаўнага ўхілу, пад якой-бы вопраткай ён ні хаваўся. Партыя, ажыцьцяўляючы ленінскую політыку, разьбіла контррэволюцыйны беларускі нацдэмократызм, але гэта зусім ня значыць, што беларускі шовінізм поўнасьцю зьнішчаны, што адпадае задача змаганьня і супроць яго.

За апошні час мы маем рад выступленьняў асобных тт., якія, прыкрываючыся сьцягам змаганьня з беларускім нацыянал-дэмократызмам, вядуць гэтае змаганьне ня з ленінскіх позыцый і па сутнасьці робяць вялікадзяржаўна-ўхілісцкія вылазкі.

Адным з артыкулаў у нашай літаратуры, у якім мы маем, праўда, пад прыкрытай формай, але тым ня менш зусім выразную вялікадзяржаўную вылазку, зьяўляецца артыкул Л. Бабровіча, Ів. Шпілеўскага, В. Бандарэнка, С. Вольфсона, Я. Мацюкевіча „Мовазнапства“ ў зборніку „Навука“ на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі“, выд. БАН. Крытыку гэтага артыкулу мы маем тут намер даць.

Бязумоўна правільным зьяўляецца, тое што аўтары паказанага артыкулу высунулі пытаньне мовазнаўства як асобную проблему пры выкрыцьці агульнай контррэволюцыйнай концэпцыі нацыянал-дэмократызму. Мова зьяўляецца магутнай зброяй клясавага змаганьня. Пытаньне аб мове непарыўна зьвязана з пытаньнем ажыцьцяўленьня нацыянальнай політыкі партыі. Правільнае вырашэньне пытаньня аб мове зьяўляецца адным з фактаў, які дапамагае замацаваньню саюзу пролетарыяту і працоўнага сялянства. Іменна таму, што пролетарыят пасьлядоўна ажыцьцяўляе ленінскую нацыянальную політыку, у тым ліку правільна вырашае пытаньне мовы, мы маем такія вялізарныя посьпехі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, умацаваньне братэрскага саюзу працоўных усіх народаў СССР і рост сымпатый да яго працоўных іншых народнасьцяй, якія знаходзяцца пад гнётам капіталізму.

Пытаньне мовы ёсьць частка пытаньня нацыянальнай культуры. Нацыянальная культура пры дыктатуры пролетарыяту ёсьць „соцыялістычная па свайму зьместу і нацыянальная па форме культура, маючая сваёй мэтай выхаваць масу ў духу інтэрнацыяналізму і ўмацаваць дыктатуру пролетарыяту“ (Сталін, XVI зьезд). Толькі правільна разумеючы ўзаемаадносіны паміж нацыянальнай формай і пролетарскім зьместам культуры, можа весьці змаганьне на два франты супроць скажэньняў ленінскай нацыянальнай політыкі.

Галоўная прынцыпова-політычная памылка аўтараў артыкулу „Мовазнаўства“ якраз і заключаецца ў процістаўленьні нацыянальнай формы культуры яе пролетарскаму зьместу. Паставіўшы сабе задачай выкрыцьцё клясава-варожай ідэолёгіі і мэтодолёгіі нацдэмократызму ў мовазнаўстве, аўтары далі ў сваім артыкуле цэлы рад паасобных фактаў, якія сапраўды ўскрываюць контррэволюцыйны твар нацдэмократызму. Напрыклад, зусім правільна ўскрыта орыентацыя на фашысцкі Захад беларускага нацыянал-дэмократызму (у даным выпадку ў пытаньнях мовазнаўства), адзіны фронт з беларускімі нацыянал-фашыстамі ў Польшчы, імкненьне выкінуць з беларускай мовы рэволюцыйныя словы, народжаныя Кастрычнікам, і замяніць іх словамі контррэволюцыйнымі пад прыкрыцьцём фраз аб захаваньні „самабытнасьці“ беларускага народу і г. д.

Але аўтары ня здолелі ўскрыць клясавыя карэньні нацдэмократызму таму, што яны ў сваёй крытыцы сталі на позыцыі вялікадзяржаўных ухілістаў, ня гледзячы на тое, што на словах яны самі як быццам-бы выступаюць супроць „вучоных вялікадзяржаўнікаў“, гаворачы: „Ва ўмовах БССР вялікадзяржаўніцтва выяўляецца ў так ці інакш замаскаваным процідзеяньні беларусізацыі“... Якраз гэтыя словы як нельга больш прыстасоўны да тых, хто іх піша. Сапраўды, узяць хоць-бы старонку 1-ю: „Для нацдэмаўскіх адносін да мовы зьяўляецца характэрным зьявішча, якое можна было-б характарызаваць, як лінгвістычнае фэтышызаваньне. Нацдэмы фэтышызавалі ролю і значэньне мовы, абвяшчаючы мову той адзінаю асноваю, на якой павінна адрадзіцца беларуская нацыя. Адраджанізм нацдэмаў зводзіўся пераважна да ўваскрашэньня беларускай мовы“. На стар. 14 мы чытаем: „Мова для іх (для нацдэмаў)—ня жывы соцыяльны фактар, а „нацыянальны скарб“... Значыць на думку аўтараў „Мовазнаўства“ выходзіць, што мова для нацдэмаў ня ёсьць „жывы соцыяльны фактар“, ня ёсьць клясавая зброя ў іх руках, накіраваная для ажыцьцяўленьня іх буржуазна-рэстаўратарскіх мэт. Удумайцеся ў сэнс паданых выказваньняў. Паводле аўтараў „Мовазнаўства“ выходзіць, што ўся небясьпека нацдэмаўшчыны заключалася ў фэтышызаваньні беларускай мовы. Усю контррэволюцыйную клясавую сутнасьць нацдэмаўшчыны аўтары прыведзеных радкоў „зводзяць“ „пераважна да ўваскрашэньня беларускай мовы“. Хіба-ж гэта ня ёсьць сапраўднае выхалашчваньне буржуазна-кулацкага клясавага характару нацдэмократызму, хіба гэта ня поўны адрыў нацыянальнай формы ад клясавага зьместу?

Між-ж тым, для кожнага ясна, што „адраджанізм“ нацдэмаў заключаецца „ў патрабаваньні Бел. Нар. Рэспублікі, ...у змаганьні супроць мерапрыемстваў партыі і савецкай улады“ (т. Гэй на XVI зьезьдзе). Больш таго. Нашы аўтары бачаць небясьпеку ў „васкрашэньні беларускай мовы“ наогул, забываючы у даным выпадку словы Леніна аб дзьвюх нацыях у кожнай нацыі, дзьвюх культурах у кожнай нацыянальнай культуры, забываючы, што нацыянальная культура, рэакцыйная і шкодная для пролетарыяту пры панаваньні нацыянальнай буржуазіі, набывае зусім іншае значэньне пры дыктатуры пролетарыяту, калі „соцыялістычная па свайму зьместу і нацыянальная па форме культура мае сваёй мэтай выхаваць масы ў духу інтэрнацыяналізму і ўмацаваць дыктатуру пролетарыяту“ (Сталін, XVI зьезд). „Хіба ня ясна, што адмаўленьне лёзунгу нацыянальнай культуры пры дыктатуры пролетарыяту азначае адмаўленьне неабходнасьці культурнага пад'ёму невялікарускіх народаў СССР?“ (Сталін, XVI зьезд).

Такім чынам, па-першае, адрываючы нацыянальную форму ад яе клясавага зьместу, ігноруючы клясавы зьмест, аўтары паданых радкоў б'юць ня туды, куды трэба: б'юць па нацыянальнай форме „наогул“, а не па конкрэтнаму буржуазна-кулацкаму зьместу нацдэмаўшчыны. Таварыш Сталін на XVI зьезьдзе падкрэсьліваў, што Ленін, „змагаючыся з лёзунгам нацыянальнай культуры пры буржуазных парадках удараў па буржуазнаму *зьместу* нацыянальнай культуры, а не па яе нацыянальнай форме“. Па-другое, выступленьне супроць нацыянальнай формы культуры (мовы) пры дыктатуры пролетарыяту гэта ёсьць „адмаўленьне неабходнасьці культурнага пад'ёму невялікарускіх народаў СССР“, гэта ёсьць тым самым і адмаўленьне пролетарскага зьместу культуры (бо ня можа быць пролетарскага зьместу без нацыянальнай формы),—гэта азначае сапраўднае скочваньне ў лягер вялікадзяржаўных ухілістаў.

Другім ня менш важным недахопам, выцякаючым з першага, разабранага намі (адрыў нацыянальнай формы ад клясавага зьместу), які таксама прыводзіць аўтараў паказанага артыкулу да вялікадзяржаўніцка-ўхілісцкіх установак, зьяўляецца антыгістарычны падыход да пытаньняў крытыкі нацдэмаўскіх концэпцый умовы, што прыводзіць аўтараў і гэтага артыкулу, як і раней раскрытыкаваных у партыйным друку выступленьняў тт. Выдры і Вольфсона, да няправільнага немарксыцкага сьціраньня адзнак у гістарычнай ролі нацдэмократызму (у даным выпадку ў пытаньнях мовы) на розных этапах яго разьвіцьця і асабліва адзнак паміж пэрыодам барацьбы з царскай імпэрыяй і пэрыодам пролетарскай дыктатуры.

Ленін заўсёды падкрэсьліваў, што той, хто хоча навукова падыйсьці да якога-небудзь пытаньня, той павінен „не забываць асноўнай гістарычнай сувязі, глядзець на кожнае пытаньне з пункту гледжаньня таго, як пэўная зьява ў гісторыі ўзьнікла, якія галоўныя этапы ў сваім разьвіцьці гэта зьява праходзіла, і з пункту гледжаньня гэтага яе разьвіцьця глядзець, чым пэўная зьява зьяўляецца цяпер“ (Ленін, т. XXV, стар. 387).

Ці так падыходзяць аўтары да крытыкі нацдэмократызму ў мовазнаўстве? Не, зусім ня так. Замест таго, каб прааналізаваць клясавыя карэньні нацдэмаўшчыны ў мовазнаўстве, яны, каб давесьці рэакцыйнасьць „тэорый“ нацдэмаўскіх мовазнаўцаў, прыводзяць голую паралель паміж рускай шышкоўшчынай, якая існавала 100 год назад, нямецкім пан-германізмам і контррэволюцыйнай нацдэмаўшчынай. На стар. 7 яны пішуць:

„Эпоха Нікалая I таксама дае цікавы матэрыял для доваду таго палажэньня, што ўсякія ахоўныя консэрвацыйныя тэндэнцыі ў галіне мовы маюць пэўную клясава-політычную мэту... Сваімі „мокроступами“ мікалаеўскі рэакцыянэр прабаваў агарадзіць Расію ад пранікненьня шкоднай заразы з Захаду... ад „разбэшчваючага“ ўплыву чужаземшчыны. Таксама барды пан-германізму прабавалі напярэдадні вайны ачысьціць нямецкую мову ад „засьмечваньня“ чужымі элемэнтамі“...

І з гэтымі плынямі, праўда, таксама рэакцыйнымі, але адбываўшыміся ў зусім іншых гістарычных абставінах, пры зусім іншых клясавых суадносінах, яны параўноўваюць погляды нацдэмаў, кажучы: „Як ва ўсіх галінах, так і ў мовазнаўстве, нацдэмы імкнуліся законсэрваваць сярэднявяковую „самабытнасьць“. Яны ўжывалі ўсе захады, каб выратаваць яе ад „разлагаючага“ ўплыву рэволюцыі, якая пагражала вось-вось разьбіць пасудзіну сьвяшчэннай самабытнасьці“ (стар. 15). І толькі. Ні слова аб рэальных клясавых карэньнях сучаснага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, нічога, апрача сухога, фармальнага параўнаньня чыста зьнешніх адзнак розных гістарычных пэрыодаў.

Далей, на стар. 27, 29, выступаючы супроць цэлага раду слоў, узятых з розных нацдэмаўскіх слоўнікаў, сапраўды насычаных кляса-варожым зьместам, яны, замест таго, каб ускрыць гэты зьмест, зноў-такі высьмейваюць толькі зьнешнюю нацыянальную афарбоўку іх, іх „падабенства“ да шышкоўскіх „мокроступов“.

„У выніку ўся беларуская лінгвістыка апынулася ва ўладзе шышкоўшчыны, пры гэтым такой тупой, такой самабытніцка-саматужнай, такой анэктодычнай, што яна пакінула далёка пасьля сябе мікалаеўскіх самадураў“ (стар. 29).

Як трэба разумець гэта месца? Ясна, што тут аўтары б'юць зноў-такі толькі па форме, а не па социяльна-шкоднаму зьместу нацдэмаўшчыны.

Тав. Сталін яшчэ на X зьездзе ў сваім заключным слове сказаў наступнае: „Тут я маю запіску аб тым, што мы, комуністы, нібы насаджаем беларускую нацыянальнасьць штучна. Гэта няпраўда, таму што існуе беларуская нацыянальнасьць, у якой ёсьць свая мова, якая адрозьніваецца ад рускай, з прычыны чаго падняць культуру беларускага народу можна толькі на роднай іх мове“.

Правядзеньня ў жыцьцё гэтай чоткай устаноўкі, накіраванай супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, мы якраз не знаходзім у аўтараў „Мовазнаўства“, якія скаціліся да адмаўленьня асаблівасьцяй беларускай мовы.

Вышэй мы адзначалі, што аўтары „Мовазнаўства“ ў паасобных выпадках правільна падкрэсьліваюць, што нацдэмы ўсялякімі спосабамі імкнуліся выкінуць з сваіх слоўнікаў, з мовы цэлы рад слоў, народжаных рэволюцыяй, маючых пэўны клясавы, пролетарскі зьмест; правільным зьяўляецца выкрыцьцё імі нацдэмаскіх імкненьняў усямерна полёнізаваць беларускую мову, орыентуючыся на фашысцкую Польшчу. Але разам з тым, на працягу ўсёй гэтай кніжкі мы бачым, як аўтары вядуць змаганьне супроць амаль кожнага беларускага слова, якое мае свае тыя ці іншыя нацыянальныя асаблівасьці, якое „ня мае нічога супольнага“ з рускай мовай. Яны выступаюць супроць нацыянальнай формы таго ці іншага слова, не разглядаючы гістарычнага процэсу утварэньня гэтага слова. Энгельс, закранаючы пытаньне аб мове ў „Анты-Дзюрынгу“, кажа:

„Матэрыя і форма роднай мовы толькі тады могуць быць зразуметы, калі прасьледжваюцца яе ўзьнікненьне і паступовае разьвіцьцё, а гэта немагчыма, калі пакідаюць бяз увагі, па-першае, яе ўласныя амярцьвеўшыя формы, па-другое, блізкія жывыя і мёртвыя мовы“ („Анти-Дюринг“, стар. 306).

Якраз гэтакага марксыцкага падыходу і няма ў аўтараў „Мовазнаўства“. Каб даказаць наша сьцьверджаньне, прывядзем рад прыкладаў. Яны называюць беларускім „самадурствам“ такія агульнавядомыя беларускія словы, як: *нямінучасьць, пеpакштaлтавaньне, прамысловасьць, кіраўнік, рух, вызваленьне, сіла, снасьць выспыт, амшара або імшара* (а цікава, ці ведаюць аўтары „Мовазнаўства, якім іншым словам на беларускай мове завецца балота, якое зарасло мохам?), *лячэбніца*. Або ў такіх агульна-ўжываемых на Беларусі словах яны бачаць полёнізмы: *грамада, бацькаўшчына, айчына, пайнік, пастронак, рахунак* і г. д. Усе гэтыя словы якраз не зьяўляюцца „штучна створанымі“ для змаганьня супроць русіцызмаў, як гэта лічаць аўтары „Мовазнаўства“. А калі яны выступаюць супроць гэтых слоў, лічачы, што яны могуць быць заменены агульна-ўжывальнымі рускімі словамі, то гэта і ёсьць імкненьне абмінуць нацыянальныя своеасаблівасьці беларускай мовы. Усё зло нацдэмократызму ў галіне мовы, паводле іх думкі, заключаецца ў змаганьні супроць русіцызмаў (стар. 37). Яны забываюць, што „пэрыод дыктатуры пролетарыяту і будаўніцтва соцыялізму ў СССР ёсьць пэрыод росквіту нацыянальных культур, соцыялістычных па зьместу, нацыянальных па форме“. Яны забываюць, што ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту „нацыянальныя мовы ня толькі не адміраюць і ня зьліваюцца ў адну агульную мову, а наадварот, нацыянальныя культуры і нацыянальныя мовы разьвіваюцца і расьцьвятаюць“.

Выступаючы супроць полёнізацыі белмовы (што, бязумоўна, зьяўляецца, як ужо заўважана вышэй, неабходнай задачай пры выкрыцьці нацдэмаўшчыны), аўтары „Мовазнаўства“ забываюць, аднак, што нельга ні ў якім разе, ігноруючы гістарычныя асаблівасьці разьвіцьця Беларусі, адносіць да „бесцырамоннай полёнізацыі“ побач з тымі словамі, якія штучна ўводзіліся нацдэмамі ў беларускую мову, і тыя, якія даўно ўжо зьяўляюцца агульнапрынятымі, агульназразумелымі для працоўных мас Беларусі. Узяць хоць-бы слова *„асадніцтва“*, якое яны таксама прыводзяць як прыклад „бесцырамоннай полёнізацыі“ мовы. Яны лічаць, што яго абавязкова трэба замяніць словам „колонизация“. Яны не разумеюць таго, што слова *„асаднік“* для беларускага працоўнага сялянства Заходняй Беларусі — вельмі і вельмі зразумелае. Гэта слова мае ясна выражаны клясавы сэнс. Яно зьвязана з усёй сыстэмай соцыяльна-нацыянальнага ўціску і гвалту, якія чыніць польскі фашысцкі ўрад над працоўнымі масамі Заходняй Беларусі.

Аўтары „Мовазнаўства“ зусім выпускаюць з віду, што пытаньне разьвіцьця беларускай мовы, беларускай культуры нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу нельга разглядаць бяз уліку таго, што ёсьць яшчэ адна Беларусь, па-за межамі БССР. Аб гэтым зусім чотка і выразна тав. Сталін сказаў на XVI зьезьдзе:

„Ёсьць Беларусь у складзе СССР. Але ёсьць і другая Беларусь у складзе іншых дзяржаў. Хіба вы думаеце, што пытаньне аб украінскай і беларускай мовах можа быць вырашана зьне ўліку гэтых своеасаблівых умоў?“.

Іменна *гэтага* ня ўлічылі аўтары „Мовазнаўства“ і гэтым яны яшчэ больш *паглыбляюць* свае памылкі.

Падагульваем сказанае: асноўныя памылкі аўтараў „Мовазнаўства“ зводзяцца да наступнага: уся крытыка нацдэмаўшчыны праводзіцца імі з пункту гледжаньня вялікадзяржаўных ухілістаў. Яны б'юць па нацыянальнай форме, а не па клясава-варожаму зьместу нацдэмаўшчыны, адрываючы форму ад зьместу, што супярэчыць асновам марксызму-ленінізму. Негістарычны падыход да выкрыцьця контррэволюцыйнай сутнасьці нацдэмаўшчыны ў галіне мовазнаўства. Яны сьціраюць своеасаблівасьці беларускай мовы, гэтым самым змазваючы значэньне нацыянальнай формы пролетарскай культуры пры дыктатуры пролетарыяту. Яны зусім забываюць тое, што вырашаць пытаньне аб беларускай мове нельга, ня ўлічваючы факту існаваньня Беларусі па-за межамі СССР.

* * *

Перад мовазнаўчым фронтам БССР стаяць зараз вялізарнейшыя задачы: *яшчэ больш павысіць пільнасьць у змаганьні з вялікадзяржаўным шовінізмам як галоўнай небясьпекай і з прымірэнцтвам да яго, супроць усялякіх вялікадзяржаўных вылазак, у якую-б форму яны не маскаваліся,* не паслабляючы рашучага змаганьня па выкарчоўваньні рэштак нацдэмаўшчыны і па далейшым выкрыцьці ўсякіх праяўленьняў мясцовага беларускага шовінізму і шовінізмаў іншых колераў.

Для таго каб мовазнаўчы фронт не адставаў ад агульных тэмпаў і шпаркага размаху соцыялістычнага будаўніцтва, неабходна мобілізаваць усе свае сілы на далейшае разьвіцьцё мовы як часткі беларускай культуры, нацыянальнай па форме соцыялістычнай па зьместу. Неабходна змагацца, ачышчаючы мову ад засьмечваючых яе вялікадзяржаўных і нацдэмаўскіх уплываў, за мову як магутную зброю рэволюцыйнага змаганьня і соцыялістычнага будаўніцтва. У прыватнасьці, інсты-

туту мовазнаўства БАН трэба так пабудаваць сваю работу, каб вынесьці яе з вузкіх сьцен габінэтаў і максымальна наблізіць яе да шырокіх пролетарскіх і колгасных мас Беларусі, зьвязваючы гэту работу з агульным змаганьнем працоўных мас за пабудову соцыялізму.

Мовазнаўчы фронт БССР з посьпехам выканае стаячыя перад ім задачы, калі ён у аснову ўсёй сваёй работы паложыць апошнюю пастанову бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б па нацпытаньні і ўказаньні тав. Сталіна, даныя ім на XVI зьездзе ЎсеКП(б):

„Толькі пры ўмове разьвіцьця нацыянальных культур можна будзе далучыць па-сапраўднаму адсталыя нацыянальнасьці да справы соцыялістычнага будаўніцтва.

...У гэтым іменна і заключаецца аснова ленінскай політыкі дапамогі і падтрыманьня разьвіцьця нацыянальных культур народаў СССР... Трэба даць нацыянальным культурам разьвіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае потэнцыі, каб стварыць ўмову для зьліяньня іх у адну агульную культуру з адной агульнай мовай. Росквіт нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьместу культур ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту ў адным краі для зьліяньня іх у адну агульную соцыялістычную (і па форме і па зьместу) культуру, з адной агульнай моваю, калі пролетарыят пераможа ва ўсім сьвеце і соцыялізм увойдзе ў быт,— у гэтым іменна і заключаецца дыялектычнасьць ленінскай пастаноўкі пытаньня аб нацыянальнай культуры“.

---

P. S.—Пасьля таго, як пастановаю Бюро ЦК і Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б „Аб узмацненьні барацьбы з ухіламі ў нацпытаньні“ і цэлым радам артыкулаў у нашым партыйным друку („Зьвязда“, „Бальшавік Беларусі“) было адзначана, што аўтары зборніку „Навука“ на службе нац.-дэм. контр-рэволюцыі“ „выходзілі ў сваёй крытыцы нац.-дэмократызму не з марксыцка-ленінскай пастаноўкі нацпытаньня, а з позыцыі вялікадзяржаўных ухілістаў“,—у нядаўна вышаўшым (калі наш артыкул быў ужо напісаны) № 7-8 журналу „Литература и Искусство“ (ГІХЛ, Масква) зьмешчаны артыкул аднаго з 5-ці аўтараў „Мовазнаўства“ В. Бандарэнка.

Артыкул гэты прадстаўляе сабой скарочаны пераказ толькі што разабранай намі кнігі. На жаль, прыходзіцца констатаваць, што артыкул В. Бандарэнка захоўвае ў сабе, хоць у некалькі меншай ступені, *тыя-ж памылкі ў бок вялікадзяржаўнага ўхілу,* якія прасякаюць „Мовазнаўства“. В. Бандарэнка бяз усякіх агаворак спасылаецца, як на крыніцу свайго артыкулу, на зборнік „Навука“ на службе нац.-дэм. контр-рэволюцыі“. Замест таго, каб прызнаць і выправіць усе дапушчаныя ім, як адным з 5-х, політычныя памылкі, ён зноў паўтарае іх на старонках журналу „Литература и Искусство“.

* * *

Мы лічым зусім недапушчальным, што кіраўніцтва Інстытуту мовазнаўства БАН і ніводзін з працаўнікоў мовазнаўчага фронту БССР да гэтага часу ня выступілі з бальшавіцкай крытыкай памылак у бок вялікадзяржаўнага ўхілу ў пытаньнях мовазнаўства.

**В. А. і Ш. Х.**

# МАТЭРЫЯЛЫ і ДОКУМЭНТЫ

## Аб узмацненьні барацьбы з ухіламі ў нацыянальным пытаньні

### Пастанова бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б

1. КП(б)Б на аснове няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі і яе неадрыўнай часткі—ленінскай нацыянальнай політыкі, у барацьбе супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, шовінізмаў іншых нацыянальнасьцяй і нацыянал-опортуністычнай агентуры ў радох партыі, дасягнула вялізарных посьпехаў на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. Дзякуючы брацкай дапамозе пролетарыяту СССР, шырокімі тэмпамі (перавышаючымі агульнасаюзныя) разгортваецца прамысловасьць БССР (пабудован рад новых буйных прадпрыемстваў: Гомсельмаш, Асінбуд, ф-ка штучнага валакна і інш.), што значна павялічыла рады пролетарыяту і павысіла вядучую ролю прамысловасьці ў народнай гаспадарцы БССР. КП(б)Б дасягнула рашаючых посьпехаў у справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі (колектывізацыя 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, павялічэньне пасеўных плошчаў, асабліва пад тэхнічнымі культурамі, узмацненьне і рост саўгасаў, асабліва спэцыялізаваных жывёлагадоўчых і інш.).

Вялізарны размах культурнай рэволюцыі, увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, посьпехі ў ліквідацыі няпісьменнасьці, буйны рост сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў, значнае павялічэньне пролетарскай праслойкі ў гэтых установах, посьпехі мастацтва БССР, абслугоўваньне нацменшасьцяй на роднай мове,—усё гэта сьведчыць аб тым, што КП(б)Б з посьпехам выконвае задачу ліквідацыі экономічнай і культурнай адсталасьці БССР.

2. ЦК констатуе, што ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні ЦК КП(б)Б па ўзмацненьні барацьбы з ухіламі ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму ў радзе зьвеньняў партыйнай організацыі, гэта задача не знайшла неабходнага адлюстраваньня і нават у радзе месц ёсьць выпадкі аслабленьня барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам. Рад вылазак вялікадзяржаўнага шовінізму не сустракаюць патрэбнага адпору з боку асобных нізавых парторганізацый. Не пастаўлена сыстэматычная барацьба з прымірэнчымі адносінамі да ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму. Навуковыя таварыствы і гурткі праявілі пасыўныя адносіны да задачы мобілізацыі тэорытычнай думкі партыі на барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам.

3. Актывізацыя ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму за апошні час праявілася ў радзе вылазак. Аднэй з такіх вылазак зьявіліся выступленьні групы вучоных і літаратараў (Вальфсон, Выдра і інш.), якія выходзілі ў сваёй крытыцы нацыянал-дэмократызму не з марксысцка-ленінскай пастаноўкі нацыянальнага пытаньня, а з позыцый вяліка-

дзяржаўных ухілістаў (процістаўленьне нацыянальнай формы культуры яе пролетарскаму зьместу, разважаньні аб перапавялічэньні „асаблівасьцяй“ беларускай нацыі, насьмешлівыя і пагардлівыя адносіны да раду „дробязяй“ нацыянальнай культуры, быту і г. д.).

Праяўленьнем вялікадзяржаўнага ўхілу зьяўляўся падзел асобнымі гісторыкамі-марксыстамі (Югаў) комуністаў на вялікарускіх, з аднаго боку, і беларускіх, украінскіх і г. д.—з другога боку, што ствярала антагонізм і прывяло да пагардлівых, нетаварыскіх адносін да паасобных беларускіх работнікаў.

Аслабленьне работы па беларусізацыі, якое наглядаецца то ў аднэй, то ў другой партыйнай організацыі, на што ЦК КП(б)Б прыходзілася ня раз паказваць (Віцебск і інш.), зьяўлялася вынікам недаацэнкі нацыянальнага пытаньня і прымірэнчых адносін да ўхілу ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму.

Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б)Б лічыць першачарговай задачай усёй КП(б)Б—павысіць пільнасьць да вылазак і праяўленьняў вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, і організаваць яшчэ больш актыўную барацьбу з ім, наносячы рашучы ўдар па опортуністычным і абывательскім прымірэнцтве да вялікадзяржаўнага ўхілу.

4. Барацьба супроць беларускага нацыянал-дэмократызму і нацыянал-опартунізму вялася, вядзецца і будзе праводзіцца ўсёй КП(б)Б з бальшавіцкай цьвёрдасьцю і настойлівасьцю. Разгортваньне бальшавіцкіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і значныя посьпехі, дасягнутыя КП(б)Б у індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, было немагчыма без рашучай барацьбы КП(б)Б з усімі праяўленьнямі опартунізму і шовінізму, у тым ліку без пасьпяховай барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызмам і яго нацыянал-опортуністычнай агентурай у радох партыі.

Адначасова ЦК лічыць, што прыняты ў радзе кіруючых артыкулаў, зацьверджаных ЦК у 1929 г. і пачатку 1930 г., а таксама прыняты ў пастановах XIII зьезду КП(б)Б па дакладу аб профсаюзах лёзунг аб тым, што нацыянал-дэмократызм зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, зьяўляўся памылковым лёзунгам. Такая пастаноўка пытаньня супярэчыла пастановам XII зьезду РКП(б) і XVI зьезду УсеКП(б). У поўнай суадпаведнасьці з пастановамі і ўказаньнямі XVI зьезду УсеКП(б) КП(б)Б неадкладна пасьля зьезду прыняла ўстаноўку аб тым, што галоўную небясьпеку на даным этапе прадстаўляе вялікадзяржаўны ўхіл, „які імкнецца рэвізаваць асновы ленінскай нацполітыкі і пад сьцягам інтэрнацыяналізму, прыкрываючы імкненьні аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікадзяржаўнай нацыі, вярнуць сабе страчаныя прывілеі“ (XVI зьезд УсеКП(б).

5. Наяўнасьць на вызначаным этапе няправільнага лёзунгу аб тым, што нацыянал-дэмократызм зьяўляецца галоўнай небясьпекай, не дае ніякіх падстаў рэвізаваць праведзеную КП(б)Б барацьбу з нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам. Выкрыцьцё і барацьба супроць нацыянал-дэмократызму і яго агентуры ў радох партыі—нацыянал-опортунізму—была праведзена компартыяй Беларусі зусім правільна.

ЦК заклікае ўсе парторганізацыі КП(б)Б даць бязьлітасны адпор усялякім спробам пераглядзець, або ахаяць політыку партыі ў барацьбе з нацыянал-дэмократызмам і нацыянал-опортунізмам. Пасьлядоўная і непрымірымая барацьба супроць нацыянал-дэмократызму і нацыянал-опортунізму складае і надалей важнейшую задачу ўсёй КП(б)Б.

Памылковасьць лёзунгу аб нацыянал-дэмократызьме, як галоўнай небясьпецы на даным этапе, заключалася ў тым, што гэты лёзунг не концэнтраваў галаўнага агню супроць вялікадзяржаўнага ўхілу і тым самым не садзейнічаў неабходнай мобілізацыі партыйных сіл на барацьбу з ім.

6. ЦК КП(б)Б заклікае мясцовыя парторганізацыі да большай пільнасьці і ў адносінах ухілу ў бок мясцовага (беларускага, польскага, яўрэйскага і інш.) шовінізму. Нацыянал-дэмократызм і нацыянал-опортунізм у выніку пасьлядоўнай барацьбы КП(б)Б пацярпелі жорсткае паражэньне, але ня зьнішчаны. Работа нацыянал-дэмократычных элемэнтаў і цяпер працягваецца.

Разьбіты і скомпромэтаваны ў вачох шырокіх мас працоўных, контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм будзе выяўляцца як у старых, так і ў новых некалькі іншых формах. Гэта патрабуе далейшага ўзмацненьня пільнасьці з боку ўсёй КП(б)Б да ўсялякіх праяўленьняў у радох партыі ўхілу ў бок мясцовага беларускага шовінізму.

> „Сутнасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму заключаецца ў імкненьні абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай шкарлупы, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры сваёй нацыі, у імкненьні абараніцца ад вялікарускага шовінізму, шляхам адыходу ад агульнага патоку соцыялістычнага будаўніцтва, у імкненьні ня бачыць таго, што зьбліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адну ад другой“ (Сталін).

Аднэй з форм праяўленьняў ухілу ў бок мясцовага шовінізму зьяўляецца падыход да нацыянальных кадраў бяз уліку ідэолёгічнай вытрыманасьці і соцыяльнага складу гэтых кадраў, забываючы і затушоўваючы тое, што адзіным крытэрыем для ацэнкі комуніста зьяўляецца ступень яго партыйнай вытрыманасьці і здольнасьць на справе ажыцьцяўляць генэральную лінію партыі.

7. ЦК зварачае сур'ёзную ўвагу ўсёй КП(б)Б на неабходнасьць значнага ўзмацненьня справы падбору і ўцягненьня ў кіруючую партработу партыйна-вытрыманых кадраў беларускіх работнікаў і іх выхаваньне ў духу бальшавіцкай няпрымірлівасьці да ўхілаў ад генэральнай лініі партыі. „Апіраючыся на посьпехі прамысловага будаўніцтва, партыя павінна шырока разгарнуць вылучэньне рабочых на партыйную, савецкую і гаспадарчую работу, аб'ядноючы гэта вылучэньне з выхаваньнем і падрыхтоўкай новых кадраў“ (кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б, 1930 г.). Пры гэтым неабходна, разам з уважлівымі, беражлівымі адносінамі да комуністычных кадраў КП(б)Б, разгортваць бальшавіцкую самакрытыку, рашуча выцягваючы памылкі і скажэньні генэральнай лініі партыі, а таксама вядучы барацьбу супроць конкрэтных носьбітаў вялікадзяржаўнага і мясцовага шовінізмаў.

8. КП(б)Б і далей будзе бязьлітасна змагацца супроць недаацэнкі работы сярод нацыянальных меншасьцяй (палякаў, яўрэяў і інш.), супроць антысэмітызму і ігнараваньня работы сярод працоўных палякаў. Разгортваньне і далейшае ўзмацненьне работы сярод нацыянальных меншасьцяй БССР зьяўляецца неадрыўнай часткай барацьбы за ленінскае вырашэньне нацыянальнага пытаньня. ЦК патрабуе ад усіх парторганізацый сапраўднага паляпшэньня культурна-экономічнага абслугоўваньня працоўных нацменшасьцяй, даючы бязьлітасны адпор імкненьням клерыкальных і шовіністычных элемэнтаў разбурыць адзінства працоўных розных нацыянальнасьцяй, памятаючы, што толькі

ўважлівымі адносінамі да штодзенных патрэб нацыянальных меншасьцяй можна яшчэ ў большай ступені актывізаваць іх удзел у агульным соцыялістычным будаўніцтве.

9. Выходзячы з вышэйадзначанага, ЦК ставіць перад усёй КП(б)Б наступныя практычныя задачы:

а) неаслабна праводзіць палітыку беларусізацыі, прымаючы рашучыя меры ўзьдзеяньня ў адносінах да тых кіруючых нізавых раённых і цэнтральных работнікаў, якія ігноруюць беларусізацыю і асабліва не вывучаюць беларускай мовы;

б) далейшае растлумачэньне шырокім масам працоўных, у першую чаргу пролетарскім масам, значэньня правадзімай КП(б)Б беларусізацыі, разгортваючы ўпартую сыстэматычную работу па беларусізацыі рабочай клясы з улікам усіх умоў, адзначаных пастановай кастрычніцкага (1930 г.) пленуму ЦК КП(б)Б;

в) правядзеньне неаслабнага змаганьня з антыленінскай тэорыяй барацьбы дзьвёх культур як у яе вялікадзяржаўна-расійскай, так і беларускай рознавіднасьці. ЦК папярэджвае, што абмежаваньне задач па беларусізацыі адным толькі вывучэньнем беларускае мовы зьяўляецца недаацэнкай нацыянальнага пытаньня і што справа сапраўднага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі заключаецца ў аўладаньні парторганізацыяй і рабочай клясай усімі процэсамі нацыянальна-культурнага будаўніцтва (тэорытычны фронт, мастацкая літаратура і творчасьць, агульны фронт мастацтва). Толькі пры гэтых умовах можа быць забясьпечана сапраўднае пролетарскае кіраўніцтва нацыянальна-культурным будаўніцтвам;

г) узмацненьне ўвагі да пытаньняў разьвіцьця вышэйшых форм беларускай культуры — нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьмесьце (літаратура, тэатр, кіно, музыка), дасканалае вывучэньне процэсаў, якія адбываюцца ў гэтай галіне, з мэтай далейшага ўзмацненьня пролетарскага кіраўніцтва гэтымі процэсамі і больш поўнага адлюстраваньня сучаснага этапу соцыялістычнага будаўніцтва ў розных галінах мастацтва, паказ ударнікаў ў літаратуры, тэатры, кіно і г. д.;

д) узмацненьне спэцыяльнай увагі да сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў БССР з мэтай паляпшэньня справы падрыхтоўкі маладых кадраў пролетарскай нацыянальнай інтэлігенцыі, ужыўшы таксама захады да правільнага падбору і ўзмацненьня падрыхтоўкі выкладчыцкага пэрсоналу, здольнага выканаць акрэсьленыя задачы. ЦК даручае культпропу ЦК і Наркамасьветы прыняць неабходныя мерапрыемствы да паляпшэньня работы Комвузу імя Леніна, Інстытуту гісторыі партыі і Акадэміі Навук БССР і ўзмацненьня іх ролі ў справе падрыхтоўкі клясава-вытрыманых навуковых кадраў;

е) даручыць нацкамісіі ЦВК і культпропу ЦК распрацаваць практычныя мерапрыемствы па ўзмацненьні работы ў галіне беларусізацыі сярод рабочых і ва ўсіх установах, ужыўшы крокі да самай шырокай популярызацыі чарговых задач нацыянальнай палітыкі КП(б)Б (на сходах, у гуртках, партшколах і г. д.).

10. ЦК падкрэсьлівае, што правільнае змаганьне за практычнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі можа з посьпехам праводзіцца толькі на аснове далейшага разгортваньня бязьлітаснай барацьбы супроць вялікадзяржаўнага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць беларускага шовінізму і контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, шовінізмаў розных колераў і адценьняў і нацыянал-опортуністычнай агентуры ў радох партыі, толькі на ас-

нове аўладаньня і кіраўніцтва з боку партыі і пролетарыяту ўсімі процэсамі нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР, няўхільна змагаючыся за чыстату генэральнай лініі партыі, даючы рашучы адпор праваму ўхілу — найбольш небясьпечнаму на даным этапе, яго „левым“ саюзьнікам і прымірэнцтву да ўхілаў, БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б і ЎсеКП(б) і пры брацкай дапамозе пролетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу дасягае новых, яшчэ большых посьпехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

---

## Ад рэдакцыі „Бальшавіка Беларусі“

1. Артыкул Югава „Партыя і падрыхтоўка Кастрычніцкай рэволюцыі на Беларусі“, надрукаваны ў № 11 „Бальшавіка Беларусі“, зьмяшчае ў сабе трацкісцкія палажэньні і памылкі ў ацэнцы становішча партыйных організацый на Беларусі ў 1917 годзе, у характарыстыцы люксэмбургіянскіх памылак па нацпытаньні, якія дапушчаны ў гэты пэрыод некаторымі парторганізацыямі Беларусі і г. д.

2. Прызнаць політычна памылковым надрукаваньне ў „Бальшавіку Беларусі“ артыкулу Югава, які аказаўся неразброіўшымся трацкістам.

3. У бліжэйшых нумарох „Бальшавіка Беларусі“ даць выкрыцьцё артыкулу Югава, трацкісцкай контрабанды ў пытаньнях гісторыі КП(б)Б, а таксама выкрыцьцё другіх артыкулаў і прац, якія зьмяшчаюць опортуністычную контрбанду па гэтых патыньнях.

Рэдакцыя „Бальшавіка Беларусі“.

---



Друкарня БАН. Галоўлітбел № 356. Заказ № 3733. Тыр. 2750 экз. $4^1/_2$ арк.

# Зьмест



## Бібліографія



## Матэрыялы і докумэнты

ЦАНА 40 кап.



## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА 1932 ГО

„БАЛЬШАВІК БЕЛАРУС

(12 нумароў) каштуе:

| | | |
|---|---|---|
| на год . . . . . . . . | 4 руб. | 20 |
| на паўгода . . . . . . | 2 „ | 10 |
| на 3 м-цы . . . . . . | 1 „ | 05 |
| на 1 м-ц . . . . . . . | „ | 35 |

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА ПАШТОВЫМІ АДДЗЯЛЕНЬНЯМІ.

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ЦК КП(б)Б